

*Францэска Гвардзі. Дож накіроўваецца ў сабор Санта Марыя дэлла Салютэ.*
*Каля 1770 г. Палатно, алей. 68х100 см.*
*Парыж, Луўр.*

* * *

*Святло веры мае асаблівы характар, бо здольнае асвятліць усё жыццё чалавека. А каб святло было настолькі магутным, яно не можа паходзіць ад нас саміх, яно павінна паходзіць з самай першай крыніцы, павінна, урэшце, паходзіць ад Бога. Вера нараджаецца ў сустрэчы з жывым Богам, які заклікае нас і паказвае нам сваю любоў, любоў, якая апярэджвае нас, на якую мы можам абаперціся, каб нязломна трываць і будаваць жыццё. Перамененыя гэтай любоўю, мы атрымліваем новыя вочы, адчуваем, што ў ёй змешчана вялікае абяцанне поўні, і кіруем позірк у будучыню. Вера, якую прымаем ад Бога як звышпрыродны дар, становіцца святлом на шляху, які ўказвае кірунак нашай вандроўкі ў часе.*

З энцыклікі *Lumen Fidei*
Святога Айца Францішка



У нумары 3/2013

# НАША ВЕРА


**Год веры**
2 ЭНЦЫКЛІКА *LUMEN FIDEI* СВЯТОГА АЙЦА ФРАНЦІШКА

9 *Ян Анджэй КЛАЧОЎСКІ OP*
ДЗЕ «ПУСКАЕШ КАРАНІ»?

**Пераклады**
12 *Стэфан СВЯЖАЎСКІ*
СВЯТЫ ТАМАШ, ПРАЧЫТАНЫ НАНАВА

**Гісторыя**
15 *Андрэй ШПУНТ*
ПАМІЖ КАТОЛІКАМІ І ПРАВАСЛАЎНЫМІ

**У святле Бібліі**
20 *Ева ЛЯВОНАВА*
«АНЁЛЫ Ў ПОШУКАХ ЦЯБЕ...»

**Музыказнаўства**
26 *Святлена НЕМАГАЙ*
ЮЗАФ ДАШЧЫНСКІ І ЯГО ВАСТРАБРАМСКАЯ ЛІТАНІЯ

**Галерэя**
32 *Валеры БУЙВАЛ*
ФРАНЧЭСКА ГВАРДЗІ. ДОЖ НАКІРОЎВАЕЦЦА Ў САБОР САНТА МАРЫЯ ДЭЛЛА САЛЮТЭ

**Асобы**
34 *Ірына САМАТОЙ*
З КАГОРТЫ АДРАДЖЭНЦАЎ: АДВАРД БУДЗЬКА

**Інтэрв'ю**
36 *Інтэрв'ю Іллі ЛАПАТО з Шыманам СУЛЕЦКІМ*
БЕЛАРУСКІ СЛЕД КАРМЭЛІТАЎ У КРАКАВЕ

**Асобы**
38 *Міхась СКОБЛА*
З БІБЛІЯЙ У КОШЫКУ

**Паэзія**
42 *Леанід ГАЛУБОВІЧ*
НЕНАЗВАНЫЯ ВЕРШЫ

44 *Сяржук СЫС*
ВЕРШЫ

**Пераклады**
46 *Клайв Стэйплз ЛЬЮІС*
ЧАТЫРЫ ВІДЫ ЛЮБОВІ

**Проза**
51 *Данута БІЧЭЛЬ*
ПЕСНЯ ВЕТРУ Ў НЕПАКОШАНЫМ БАЛОЦЕ

54 *Уладзімір СІЎЧЫКАЎ*
МІНІЯЦЮРЫ

**Спадчына**
60 *Ігар СУРМАЧЭЎСКІ*
ЗАЛАЦІСТЫ МЁД МІНУЎШЧЫНЫ

64 *Юрась ГАРБІНСКІ*
БРАМА ВЕРЫ, ВЕЧНАСЦІ І ЛЮБОВІ
*Рэфлексія пра касцёл св. Яна Хрысціцеля ў мястэчку Камаі*

**Мастацтва**
65 *Іван ДРАЎНІЦКІ*
МАСТАК З ДЫНАСТЫІ РОМЭРАЎ

68 *Уладзімір КРУКОЎСКІ*
ШУКАЙЦЕ І ЗНОЙДЗЕЦЕ...

**Нашы святыні**
69 *Яніна МІЛАШ*
ТРАДЫЦЫІ ЎШАНАВАННЯ КРЫЖА БЕЛАРУСАМІ Ў КАНЦЫ XIX СТ.




# ЭНЦЫКЛІКА *LUMEN FIDEI* СВЯТОГА АЙЦА ФРАНЦІШКА

ДА БІСКУПАЎ, ПРЭЗБІТЭРАЎ І ДЫЯКАНАЎ, ДА КАНСЭКРАВАНЫХ АСОБАЎ
І ДА ЎСІХ СВЕЦКІХ ВЕРНІКАЎ
ПРА ВЕРУ

1. Святло веры (*Lumen fidei*): гэтым выразам традыцыя Касцёла назвала вялікі дар, які прынёс Езус і які вось так прадстаўлены ў Евангеллі паводле св. Яна: «Я, святло, прыйшоў на свет, каб кожны, хто верыць у Мяне, не заставаўся ў цемры» (12, 46). Св. Павел таксама кажа тымі самымі словамі: «Таму што Бог, які загадаў: “Няхай з цемры заззяе святло”, засвяціў у нашых сэрцах» (*2 Кар* 4, 6). У язычніцкім свеце, які прагнуў святла, развіўся культ бога Сонца, *Sol invictus*, якога заклікалі на світанні. Хоць сонца ўзыходзіла штодзённа, было вядома, што яно не можа сваім святлом ахапіць усю экзістэнцыю чалавека. Сонца не асвятляе ўсёй рэчаіснасці; яго промень не можа пранікнуць у змрок смерці, дзе вока чалавека закрываецца на яго святло. Св. Юстын Мучанік сцвярджае: «Ніхто ніколі не сустрэў нікога гатовага памерці за сваю веру ў сонца»[1]. Хрысціяне, разумеючы, які вялікі гарызонт адкрывае перад імі вера, называлі Хрыста сапраўдным сонцам, «промні якога даюць жыццё»[2]. Марце, якая аплаквала смерць брата Лазара, Езус кажа: «Ці не казаў Я табе, што, калі будзеш верыць, убачыш славу Божую?» (*Ян* 11, 40). Хто верыць – бачыць; бачыць дзякуючы святлу, якое асвятляе ўвесь шлях, бо прыходзіць яно да нас ад уваскрослага Хрыста, ранішняй зоркі, якая ніколі не заходзіць.

### *Ілюзорнае святло?*

2. Аднак, калі гаворым пра святло веры, можам сустрэцца з пярэчаннем нашых сучаснікаў. У эпоху новай гісторыі лічылася, што гэтае святло магло задаволіць старажытнае грамадства, але яно не патрэбна ў новыя часы, калі чалавек пасталеў, стаў ганарыцца сваім розумам і жадае пановаму даследаваць будучыню. Таму вера стала ўяўляцца як ілюзорнае святло, якое перашкаджае чалавеку з адвагай здабываць веды. Малады Ніцшэ заахвочваў сваю сястру Альжбету, каб яна рызыкнула і пайшла «новымі дарогамі <...> у няўпэўненасці самастойнага крочання наперад». І дадаваў: «У гэтым пункце разыходзяцца шляхі чалавецтва: калі хочаш дасягнуць спакою душы і шчасця, то вер, а калі хочаш быць вучнем праўды, тады даследуй»[3]. Быццам бы вера перашкаджае пошуку. Зыходзячы з гэтага, Ніцшэ будзе крытыкаваць хрысціянства за тое, што яно звузіла абсяг чалавечай экзістэнцыі, пазбаўляючы жыццё навізны і прыгоды, што вера нібы ілюзія святла, якая ўскладняе нам, свабодным людзям, шлях да будучыні.

3. У гэтым працэсе вера стала ў выніку асацыіравацца з цемрай. Лічылі, што можна яе захаваць, знайсці для яе прастору, каб яна магла суіснаваць са святлом розуму. Прастора для веры адкрывалася там, дзе розум не мог асвятліць, дзе чалавек ужо не мог мець упэўненасці. Таму веру разумелі як уцёкі, выкліканыя недахопам святла, пад уплывам сляпога пачуцця, або як суб’ектыўнае святло, якое можа распаліць сэрца, прынесці суцяшэнне, але якога нельга прапанаваць іншым як аб’ектыўнае, агульнае святло, што асвятляе шлях. Аднак паступова заўважалі, што аўтаномнае святло розуму не можа ў поўнай меры растлумачыць будучыню; у выніку яна хаваецца ў змроку і пакідае чалавека ў боязі перад невядомым. І так чалавек адмовіўся ад пошуку вялікага святла, каб задаволіцца малым святлом, якое асвятляе кароткую хвіліну, але не можа адкрыць дарогі. Калі няма святла, усё становіцца няясным, чалавек не можа адрозніць дабра ад зла, дарогі, што вядзе да мэты, ад дарогі, на якой ён блукае без кірунку.

### *Святло, якое нанова трэба адкрыць*

4. Таму неабходна адшукаць святло, якое з’яўляецца характэрнай рысай веры, бо калі гасне яе промень, усе іншыя свяцілы губляюць урэшце свой бляск. Святло веры мае асаблівы характар, бо здольнае асвятліць *усё* жыццё чалавека. А каб святло было настолькі магутным, яно не можа

паходзіць ад нас саміх, яно павінна паходзіць з самай першай крыніцы, павінна, урэшце, паходзіць ад Бога. Вера нараджаецца ў сустрэчы з жывым Богам, які заклікае нас і паказвае нам сваю любоў, любоў, якая апярэджвае нас, на якую мы можам абаперціся, каб нязломна трываць і будаваць жыццё. Перамененыя гэтай любоўю, мы атрымліваем новыя вочы, адчуваем, што ў ёй змешчана вялікае абяцанне поўні, і кіруем позірк у будучыню. Вера, якую прымаем ад Бога як звышпрыродны дар, становіцца святлом на шляху, які ўказвае кірунак нашай вандроўкі ў часе. З аднаго боку, яна паходзіць з мінулага, з'яўляецца святлом памяці пра Заснавальніка, пра жыццё Езуса, дзе ў поўні аб'явілася Яго сапраўдная любоў, здольная перамагчы смерць. Аднак у той жа час, паколькі Хрыстус уваскрос і вядзе нас за парог смерці, вера з'яўляецца святлом, якое праменіцца з будучыні, якое адкрывае перад намі вялікія гарызонты і кіруе нас па-за нашыя адасобленыя «я» да шырокай камуніі. Таму мы разумеем, што вера не жыве ў змроку; яна з'яўляецца святлом для нашай цемры. Дантэ ў «Боскай камедыі», у Раі, пасля вызнання сваёй веры перад св. Пятром, апісвае яе як «іскру, // якая на світанні распальваецца штораз большым агнём // і з'яўляецца маёй зоркай на зеніце неба»[4]. Менавіта пра гэтае святло веры я хацеў бы сказаць, каб яно павялічвалася, каб асвятляла сучаснасць і стала зоркай, што паказвае гарызонты нашага вандравання ў часы, калі чалавек асабліва патрабуе святла.

5. Перад сваёй мукаю Пан упэўніў Пятра: «Я папрасіў за цябе, каб не знікла твая вера» (*Лк* 22, 32). Затым наказаў яму ўмацоўваць сваіх братоў менавіта ў гэтай веры. Усведамляючы заданне, даручанае Пятру, Бэнэдыкт XVI пажадаў абвясціць гэты Год веры, час ласкі, які дапамагае нам адчуць вялікую радасць, што дае вера, ажывіць пазнанне шырокіх гарызонтаў, якія адкрывае вера, каб вызнаваць яе ў еднасці і ў поўні, будучы вернымі памяці Пана, умацаванымі Яго прысутнасцю і дзеяннем Духа Святога. Перакананне веры, якая чыніць жыццё вялікім і поўным, сканцэнтраваным на Хрысце і на моцы Яго ласкі, ажыўляла місію першых хрысціянаў. У *Актах мучанікаў* чытаем такі дыялог рымскага прэфекта Рустыка з хрысціянінам Гераксам: «Дзе твае бацькі?» — спытаў суддзя ў мучаніка, а той адказаў: «Нашым сапраўдным айцом з'яўляецца Хрыстус, а нашай маці — вера ў Яго»[5]. Для гэтых хрысціянаў вера як сустрэча з жывым Богам, аб'яўленым у Хрысце, была «маці», бо нараджала іх для дзённага святла, нараджала ў іх Божае жыццё, новы досвед, поўнае бляску бачанне жыцця, таму яны былі гатовыя да канца даваць публічнае сведчанне.

6. Год веры распачаўся ў 50-ю гадавіну адкрыцця Другога Ватыканскага Сабору. Гэтае супадзенне дазваляе нам заўважыць, што *Vaticanum II* быў Саборам пра веру[6], бо заклікаў нас ставіць у цэнтры нашага касцёльнага і асабістага жыцця першынство Бога ў Хрысце. Бо Касцёл ніколі не разглядаў веры як відавочнага факту, але разумее, што гэты Божы дар трэба сілкаваць і ўмацоўваць, каб ён надалей указваў дарогу. Другі Ватыканскі Сабор паказаў бляск веры ў чалавечым досведзе, ахопліваючы гэтым самым шляхі сучаснага чалавека. Такім чынам стала зразумелым, што вера ўзбагачае чалавечае існаванне ва ўсіх яго вымярэннях.

7. Гэтыя разважанні на тэму веры — згодна з тым, што Настаўніцкі Інстытут Касцёла сказаў пра гэтую боскую цноту[7], — жадаю дадаць да таго, што Бэнэдыкт XVI напісаў у энцыкліцы пра любоў і надзею. Ён амаль скончыў працу над першым варыянтам энцыклікі пра веру. Я нязмерна ўдзячны яму за гэта і ў духу Хрыстовага братэрства прымаю яго каштоўную працу, дадаючы да тэксту некалькі разважанняў. Наступнік Пятра, учора, сёння і заўтра, заўсёды пакліканы ўмацоўваць братоў у гэтым невымерным скарбе, якім з'яўляецца вера, якую Бог дае як святло на шляху кожнага чалавека.

У веры, якая з'яўляецца дарам Бога, звышпрыроднай цнотай, спасланай Ім, мы прызнаём ахвяраваную нам вялікую Любоў, скіраванае да нас добрае Слова, і, калі мы прымаем гэтае Слова, якім ёсць Езус Хрыстус, уцелаўлёнае Слова, Дух Святы пераменяе нас, асвятляе шлях будучыні, і ў нас узрастаюць крылы надзеі, каб мы ішлі гэтай дарогай з радасцю. Вера, надзея і любоў у вартым здзіўлення спалучэнні накіроўваюць хрысціянскае жыццё да поўнай камуніі з Богам. Якую дарогу адкрывае перад намі вера? Адкуль паходзіць яе магутнае святло, што дазваляе асвятліць дарогу шчаслівага і плённага жыцця?

## РАЗДЗЕЛ I

## МЫ ПАВЕРЫЛІ Ў ЛЮБОЎ

(пар. 1 *Ян* 4, 16)

### *Абрагам, наш айцец у веры*

8. Вера адкрывае нам дарогу і спадарожнічае нам на працягу гісторыі. Калі мы хочам зразумець, чым з'яўляецца вера, мы павінны расказаць

пра яе гісторыю, пра дарогу веруючых людзей, аб якой у першую чаргу сведчыць Стары Запавет. Асабліва месца займае Абрагам, наш айцец у веры. У яго жыцці адбываецца незвычайная рэч: Бог скіроўвае да яго Слова, аб'яўляецца як Бог, які гаворыць і кліча па імені. Вера спалучана са слуханнем. Абрагам не бачыць Бога, але чуе Яго голас. Такім чынам вера набывае асабісты характар. Таму Бог не з'яўляецца Богам нейкага месца і нават не звязаны з нейкім адмысловым святым часам, але з'яўляецца Богам асобы, менавіта Богам Абрагама, Ісаака і Якуба, здольным устанаўліваць кантакт з чалавекам і заключаць з ім запавет. Вера — гэта адказ на Слова, скіраванае да асобы, адказ, дадзены канкрэтнаму «Ты», якое кліча нас па імені.

9. Тое, што Слова кажа Абрагаму, складаецца з закліку і абяцання. Перш за ўсё гэта заклік выйсці са сваёй зямлі, гэта запрашэнне нанова адкрыцца на новае жыццё, гэта пачатак выйсця, што адкрывае дарогу да невядомай будучыні. Бачанне, якое вера дасць Абрагаму, заўсёды будзе звязана з гэтым крокам наперад, які трэба зрабіць: вера «бачыць» настолькі, наколькі развіваецца, наколькі ўваходзіць у адкрытую Божым Словам прастору. Больш за тое, гэтае Слова змяшчае абяцанне: тваё патомства будзе шматлікім, будзеш айцом вялікага народу (пар. *Быц* 13, 16; 15, 5; 22, 17). Гэта праўда, што як адказ на Слова, якое апярэджвае яе, вера Абрагама заўсёды будзе актам памяці. Аднак гэтая памяць не замыкаецца ў мінулым, але, як памяць пра абяцанне, адкрываецца на будучыню, становіцца здольнай асвятліць шлях. Таму бачна, што вера, як памяць пра будучыню, *memoria futuri*, цесна звязана з надзеяй.

10. Тое, што павінен зрабіць Абрагам, — гэта даверыцца Слову. Вера разумее, што слова, рэч з выгляду кароткатрывалая і знікомая, калі сказана верным Богам, становіцца найбольш пэўнай з усіх рэчаў і нязменнай, бо робіць магчымай нашую далейшую вандроўку ў часе. Вера прымае гэтае Слова як моцную скалу, на якой можна будаваць як на салідным падмурку. Таму ў Бібліі вера акрэслена габрэйскім словам *'emûnah*, якое паходзіць ад дзеяслова *'amàn*, корань якога азначае «падтрымліваць». Паняцце *'emûnah* можа азначаць як вернасць Бога, так і веру чалавека. Чалавек верны атрымлівае сілу, калі даручае сябе ў рукі вернага Бога. Звяртаючыся да абодвух значэнняў гэтага слова — прысутных таксама ў адпаведных ім словах: грэцкім (*pistòs*) і лацінскім (*fidelis*) — св. Кірыл Ерузалемскі падкрэслівае годнасць хрысціяніна, які атрымлівае тое ж імя, што і Бог: адзін і другі названыя «вернымі»[8]. Св. Аўгустын тлумачыць гэта так: «Чалавек верыць абяцанням Бога. Верны Бог выконвае тое, што абяцаў чалавеку»[9].

11. Яшчэ адзін аспект гісторыі Абрагама з'яўляецца істотным для зразумення яго веры. Божае Слова, нават калі нясе ў сабе навізну і нечаканасць, не з'яўляецца чымсьці далёкім ад досведу Патрыярха. У голасе, які звяртаецца да Абрагама, ён распазнае глыбокі заклік, спрадвеку ўпісаны ў яго сэрца. Бог спалучае сваё абяцанне з месцам, дзе жыццё чалавека заўсёды выглядае шматабяцальным: ёсць у ім бацькоўства, нараджэнне новага жыцця: «Сара, жонка твая, народзіць табе сына, і дасі яму імя Ісаак» (*Быц* 17, 19). Бог Абрагама, які просіць, каб ён цалкам Яму даверыўся, аб'яўляецца як крыніца, з якой паходзіць усялякае жыццё. Такім чынам вера звязана з Божым бацькоўствам, з якога ўзнікае стварэнне: Бог, які кліча Абрагама, ёсць Богам Стварыцелем, тым, які «кліча няіснае да існавання» (*Рым* 4, 17), тым, які «выбраў нас у Ім перад стварэннем свету, <...> прадвызначыў нас для ўсынаўлення» (*Эф* 1, 4-5). Вера ў Бога асвятляе найглыбейшую сутнасць Абрагама, дазваляе яму распазнаць крыніцу дабрыні, якая з'яўляецца пачаткам усяго, а таксама пераканацца, што яго жыццё не паходзіць з небыцця або з выпадку, але з закліку і любові да асобы. Таямнічы Бог, які паклікаў яго, не з'яўляецца чужым Богам, але тым, які ёсць пачаткам усяго і ўсё падтрымлівае. Вялікае выпрабаванне веры Абрагама, прынясенне ў ахвяру сына Ісаака, паказвае, да якой ступені гэтая першасная любоў здольная гарантаваць жыццё таксама і пасля смерці. Слова, якое было здольнае паклікаць да жыцця сына ў яго «амярцвелым» целе і ў «амярцвелым улонні» бясплоднай Сары (пар. *Рым* 4, 19), зможа таксама быць гарантыяй абяцання, звязанага з будучыняй, незалежна ад усялякіх пагрозаў або небяспекі (пар. *Гбр* 11, 19; *Быц* 4, 21).

## *Вера Ізраэля*

12. Гісторыя ізраэльскага народу ў Кнізе Зыходу працягвае шлях веры Абрагама. Вера зноў нараджаецца з першаснага дару: Ізраэль адкрываецца на дзеянне Бога, які прагне вызваліць яго з нядолі. Вера паклікана да доўгай вандроўкі, каб змагчы адараваць Пана на Сінаі і ўзяць ва ўласнасць абяцаную зямлю. Божая любоў мае рысы айца, які нясе сына падчас усёй дарогі (пар. *Дрг* 1,

31). Вызнанне веры Ізраэля набывае форму апавядання пра дабрадзействы Бога, пра Яго дзейнасць, каб вызваліць народ і весці яго (пар. *Дрг* 26, 5-11), і гэтае апавяданне народ пераказвае з пакалення ў пакаленне. Божае Святло свеціць Ізраэлю праз чыны, здзейсненыя Панам, якія згадваюцца і вызнаюцца ў кульце, пераказваюцца бацькамі дзецям. Так мы даведваемся, што святло, якое нясе вера, звязана з канкрэтным апавяданнем пра жыццё, з удзячным успамінам дабрадзействаў, атрыманых ад Бога, і паступовым спаўненнем Яго абяцанняў. Гэта вельмі добра выявіла гатычная архітэктура: у вялікіх катэдрах святло сыходзіць з неба праз вітражы, на якіх прадстаўлена святая гісторыя. Божае Святло даходзіць да нас праз апавяданне пра Яго Аб'яўленне, таму можа асвятліць нашую дарогу ў часе, нагадваючы пра Божыя дабрадзействы, паказваючы, як спаўняюцца Яго абяцанні.

13. Гісторыя Ізраэля паказвае нам таксама спакусу бязвер'я, у якую шматразова трапляў народ. Супрацьлегласцю веры з'яўляецца тут ідалапаклонства. Калі Майсей размаўляе з Богам на Сінаі, народ не можа вытрываць таямніцы ўкрытага Божага аблічча, не можа знесці часу чакання. Паводле сваёй прыроды вера патрабуе адмаўлення ад жадання мець адразу тое, што, як здаецца, прапануе зрок, з'яўляецца запрашэннем адкрыцца на крыніцу святла, ушаноўваючы таямніцу Аблічча, якое мае намер аб'явіцца асабіста і ў адпаведны час. Марцін Бубер прыводзіў азначэнне ідалапаклонства, сфармуляванае рабінам з Коцка. З ідалапаклонствам мы сутыкаемся тады, «калі звяртаецца поўнае пашаны аблічча да аблічча, якое не з'яўляецца абліччам»[10]. Замест таго, каб верыць у Бога, чалавек жадае ўшаноўваць ідала, аблічча якога можна адлюстраваць і паходжанне якога вядомае, бо ён учынены намі. У выпадку ідала няма небяспекі магчымага паклікання, якое патрабавала б выракчэння ўласнага пачуцця бяспекі, бо ідалы «маюць вусны, але не гавораць» (*Пс* 115, 5). Таму мы разумеем, што ідал з'яўляецца выдуманай прычынай для таго, каб паставіць саміх сябе ў цэнтр рэчаіснасці, пакланяючыся справе ўласных рук. Чалавек, калі губляе асноўны напрамак, які яднае яго жыццё, губляецца ў разнастайнасці сваіх жаданняў. Баронячыся ад чакання часу абяцання, ён распыляецца на тысячы хвілінаў сваёй гісторыі. Таму ідалапаклонства — гэта заўсёды політэізм, рух без мэты ад аднаго гаспадара да другога. Ідалапаклонства не паказвае адной дарогі, але шмат шляхоў, якія не вядуць да выразнай мэты, а хутчэй ствараюць лабірынт. Хто не хоча даверыцца Богу, вымушаны слухаць галасы многіх ідалаў, якія клічуць яго: «Даверся мне». Вера, паколькі звязана з навяртаннем, з'яўляецца супрацьлегласцю ідалапаклонства; гэта аддаленне ад ідалаў дзеля вяртання да жывога Бога праз асабістую сустрэчу. Верыць — значыць даверыцца міласэрнай любові, якая заўсёды прымае і прабачае, падтрымлівае і накіроўвае існаванне, становіцца магутнай у сваёй здольнасці раўняць скрыўленні нашай гісторыі. Вера заключаецца ў гатоўнасці адкрыцца на ўсцяж новую перамену, якую здзяйсняе Божы заклік. Вось парадокс: няспынна звяртаючыся да Пана, чалавек знаходзіць пастаянную дарогу, што вызваляе яго ад хаатычных рухаў, да якіх змушаюць яго ідалы.

14. У веры Ізраэля з'яўляецца таксама постаць Майсея, пасрэдніка. Народ не можа сузіраць аблічча Бога. Гэта Майсей размаўляе з ТЫМ, ЯКІ ЁСЦЬ (*YHWH*), на гары і перадае ўсім волю Пана. Дзякуючы пасрэдніку Ізраэль навучыўся вандраваць у з'яднанні. Акт веры асобнага чалавека ўпісваецца ў супольнасць, у супольнае «мы» народу, які ў веры ёсць як бы адным чалавекам, «сынам маім першародным», як назаве Бог увесь Ізраэль (пар. *Зых* 4, 22). Пасрэдніцтва становіцца не перашкодай, але адкрыццём: пры сустрэчы з іншымі мы скіроўваем позірк да праўды, якая нас пераўзыходзіць. Ж. Ж. Русо скардзіўся, што не можа асабіста ўбачыць Бога: «Колькі ж людзей паміж Богам і мною!»[11] «Ці гэта так проста і натуральна, што Бог пайшоў да Майсея, каб гаварыць да Жана Жака Русо?»[12]. Беручы за пункт выйсця індывідуалістычную і абмежаваную канцэпцыю пазнання, нельга зразумець сэнсу пасрэдніцтва, гэтай здольнасці ўдзельнічаць у візіі іншага чалавека, дзялення пазнаннем, пазнаннем, уласцівым любові. Вера — бескарыслівы дар Бога, які патрабуе пакоры і адвагі, каб паверыць і даверыцца, і такім чынам заўважыць ясную дарогу сустрэчы паміж Богам і людзьмі, гісторыю збаўлення.

## *Паўната хрысціянскай веры*

15. «Абрагам <...> рады быў убачыць дзень Мой; і ўбачыў, і ўзрадаваўся» (*Ян* 8, 56). Згодна з гэтымі словамі Езуса, вера Абрагама была скіравана да Яго, была ў пэўным сэнсе падрыхтоўкай для таго, каб бачыць Яго таямніцы. Так разумее гэта св. Аўгустын, калі сцвярджае, што Патрыярхі былі збаўленыя ў веры, не ў веры ў Хрыста, які ўжо прыйшоў, але ў веры ў Хрыста, які паві-

нен прыйсці, у веры, скіраванай да будучыні, якая звязана з Езусам[13]. Хрысціянская вера сканцэнтравана на Хрысце, з'яўляецца вызнаннем, што Езус ёсць Панам і што Бог уваскрасіў Яго з мёртвых (пар. *Рым* 10, 9). Усе фрагменты са Старога Запавету сыходзяцца ў Хрысце, Ён становіцца канчатковым «так» для ўсіх абяцанняў, фундаментам нашага канчатковага «Амэн», сказанага Богу (пар. *2 Кар* 1, 20). Гісторыя Езуса — гэта поўнае аб'яўленне верагоднасці Бога. Калі Ізраэль успамінаў вялікія справы Божай любові, якія былі цэнтрам яго вызнання і адкрывалі зрок яго веры, сённяшняе жыццё Езуса з'яўляецца нібы месцам канчатковай інтэрвенцыі Бога, найвышэйшым праяўленнем Яго любові да нас. У Езусе Бог не скіроўвае да нас дадатковае слова сярод многіх іншых, але сваё спрадвечнае Слова (пар. *Гбр* 1, 1-2). Бог не мог даць нам большай гарантыі, каб пераканаць нас у сваёй любові, як нагадвае нам св. Павел (пар. *Рым* 8, 31-39). Такім чынам хрысціянская вера з'яўляецца верай у поўную Любоў, у яе плённую моц, у яе здольнасць перамяняць свет і тлумачыць час: «І мы пазналі, і паверылі ў любоў, якую мае да нас Бог» (*1 Ян* 4, 16). У Божай любові, аб'яўленай у Езусе, вера заўважае фундамент, на якім грунтуецца рэчаіснасць і яе канчатковае прызначэнне.

16. Найбольшым доказам верагоднасці любові Хрыста з'яўляецца Яго смерць за чалавека. Калі ахвяраванне жыцця за сяброў з'яўляецца найвышэйшым доказам любові (пар. *Ян* 15, 13), то Езус ахвяраваў сваё жыццё за ўсіх, таксама за тых, хто быў ворагам, каб такім чынам перамяніць сэрцы. Вось чаму Евангелісты гадзіну Крыжа лічылі кульмінацыйным момантам позірку веры: у гэтай гадзіне яснее бляск велічы і глыбіні Божай любові. Св. Ян змясціў тут сваё ўрачыстае сведчанне, калі разам з Маці Езуса глядзіць на таго, каго прабілі (пар. *Ян* 19, 37): «А той, хто ўбачыў, засведчыў, і сведчанне яго праўдзівае. І ён ведае, што кажа праўду, каб і вы паверылі» (*Ян* 19, 35). У сваім творы «Ідыёт» Ф. М. Дастаеўскі ўкладвае ў вусны героя, князя Мышкіна, які глядзіць на вобраз мёртвага Хрыста ў гробе, карціну Ганса Гольбейна Малодшага, наступныя словы: «З прычыны гэтага вобраза хтосьці мог бы страціць веру»[14]. Бо карціна паказвае вельмі брутальна знішчальныя вынікі дзеяння смерці на целе Хрыста. Але менавіта праз сузіранне смерці Езуса ўмацоўваецца вера, атрымліваючы яркае святло, калі яна прадстае як вера ў Яго непарушную любоў да нас, здольную ўвайсці ў смерць, каб нас збавіць. Магчыма верыць у гэтую любоў, якая не ўхіляецца ад смерці, каб паказаць, як моцна мяне любіць; яе бязмежнасць перамагае ўсялякія падазрэнні і дазваляе нам у поўні даверыцца Хрысту.

17. Вось жа, смерць Хрыста адкрывае поўную сапраўднасць Божай любові, калі глядзім на яе ў святле Яго ўваскрасення. Уваскрослы Хрыстус з'яўляецца верагодным сведкам (пар. *Ап* 1, 5; *Гбр* 2, 17), моцнай падтрымкай для нашай веры. «А калі Хрыстус не ўваскрос, то вера ваша марная», — сцвярджае св. Павел (*1 Кар* 15, 17). Калі б любоў Айца не ўчыніла таго, што Езус паўстаў з мёртвых, калі б не змагла вярнуць жыццё Яго целу, не была б у поўні сапраўднай любоўю, здольнай асвятліць таксама цемру смерці. Калі св. Павел кажа пра сваё новае жыццё ў Хрысце, ён мае на ўвазе веру «ў Сына Божага, які палюбіў мяне і аддаў сябе за мяне» (*Гал* 2, 20). Без сумнення гэтая вера ў Божага Сына ёсць вераю Апостала Народаў у Езуса, але яна прадугледжвае таксама сапраўднасць Езуса, яна мае сваю падставу ў Яго любові аж да смерці, а таксама ў Яго быцці Сынам Божым. Менавіта таму, што Езус з'яўляецца Сынам, што цалкам укаранёны ў Айцу, Ён мог перамагчы смерць і дазволіць заяснець паўнаце жыцця. Наша культура страціла здольнасць заўважаць канкрэтную прысутнасць Бога, Яго дзеянне ў свеце. Мы думаем, што Бог знаходзіцца дзесьці далёка, на іншым узроўні рэчаіснасці, аддзелены ад нашых канкрэтных адносін. Калі б так было, калі б Бог не быў здольны дзейнічаць у свеце, Яго любоў не была б сапраўды магутнай, сапраўды рэальнай, а значыць не была б нават сапраўднай любоўю, здольнай гарантаваць тое шчасце, якое абяцае. Тады было б абсалютна ўсё роўна, ці верыць у Яго, ці не верыць. Аднак жа хрысціяне вызнаюць канкрэтную і магутную любоў Бога, які сапраўды дзейнічае ў гісторыі і вырашае яе канчатковы лёс. Гэтую любоў можна сустрэць, яна ў поўні аб'явілася праз муку, смерць і ўваскрасенне Хрыста.

18. Паўната, да якой Езус прыводзіць веру, мае яшчэ адзін вырашальны аспект. У веры Хрыстус з'яўляецца не толькі тым, у каго мы верым, найвышэйшым аб'яўленнем Божай любові, але таксама тым, з кім мы яднаемся, каб верыць. Вера не толькі глядзіць на Езуса, але глядзіць з пункту гледжання Езуса, Яго вачыма: з'яўляецца ўдзелам у Яго спосабе глядзець. У многіх сферах жыцця мы давяраем іншым асобам, якія лепш за нас ведаюць справу. Давяраем архітэктару, які будуе наш дом, фармацэўту, які дае нам лекі дзеля нашага выздараўлення, адва-

кату, які абараняе нас у судзе. Мы таксама патрабуем кагосьці, хто быў бы надзейным экспертам у справах Бога. Езус, Яго Сын, ёсць тым, хто вучыць аб Богу (пар. *Ян* 1, 18). Жыццё Хрыста, Яго спосаб пазнання Айца, абсалютнае жыццё ў адносінах з Ім, адкрывае перад жыццём чалавека новую прастору, і мы можам у яе ўвайсці. Св. Ян выказаў важнасць асабістых адносінаў з Езусам для нашай веры, карыстаючыся па-рознаму дзеясловам *верыць*. Акрамя «веры ў тое, што» праўдай ёсць тое, што кажа Езус (пар. *Ян* 14, 10; 20, 31), Ян выкарыстоўвае таксама выразы: «верыць» Езусу, а таксама «верыць у» Езуса. «Верым» Езусу, калі прымаем Яго слова, Яго сведчанне, бо Ён праўдзівы (пар. *Ян* 6, 30). «Верым у» Езуса, калі асабіста Яго прымаем у нашым жыцці, калі далучаемся да Яго ў любові, а таксама калі крочым за Ім на нашым шляху (пар. *Ян* 2, 11; 6, 47; 12, 44).

Каб мы змаглі пазнаць Яго, прыняць і наследаваць, Сын Божы прыняў нашае цела і праз гэта глядзеў на Айца таксама як чалавек, вандруючы і жывучы ў часе. Хрысціянская вера — гэта вера ва Уцелаўлёнае Слова, а таксама ў Яго ўваскрасенне ў целе; гэта вера ў Бога, які наблізіўся да нас настолькі, што ўвайшоў у нашую гісторыю. Вера ў Божага Сына, які стаў чалавекам у Езусе з Назарэта, не аддаляе нас ад рэчаіснасці, але дазваляе нам зразумець яе глыбінную сутнасць, адкрыць, наколькі Бог любіць гэты свет і надалей накіроўвае яго да сябе; у выніку хрысціянін штораз больш удзельнічае і мацней перажывае сваю вандроўку на зямлі.

### *Збаўленне праз веру*

19. Зыходзячы з гэтага ўдзелу ў спосабе гледжання Езуса, апостал Павел у сваіх пасланнях даў нам апісанне жыцця веруючага чалавека. Веруючы, прымаючы дар веры, перамяняецца ў новае стварэнне. Атрымлівае новае існаванне, існаванне сыноўскае, становіцца сынам у Сыне. «*Abba* — Ойча» найбольш характэрнае слова з досведу Езуса, якое становіцца цэнтрам хрысціянскага досведу (пар. *Рым* 8, 15). Жыццё ў веры, як сыноўскае жыццё, ёсць прызнаннем першаснага і радыкальнага дару, які з'яўляецца падставай існавання чалавека, і яго можна выказаць у словах св. Паўла, скіраваных да Карынцянаў: «Што ж маеш ты, чаго б не атрымаў?» (*1 Кар* 4, 7). Менавіта гэта з'яўляецца кантэкстам палемікі св. Паўла з фарысеямі, дыскусіі на тэму збаўлення праз веру або праз учынкі Закону. Св. Павел адкідвае пазіцыю чалавека, які хоча апраўдацца перад Богам сваімі ўчынкамі. Такі чалавек, нават калі выконвае запаведзі, нават калі здзяйсняе добрыя ўчынкі, ставіць сябе ў цэнтры і не прызнае, што крыніцай дабрыні ёсць Бог. Хто так паступае, хто хоча быць крыніцай уласнай справядлівасці, заўважае, што яна хутка вычэрпваецца, а таксама адкрывае, што не можа нават быць верным Закону. Замыкаецца ў сабе, аддзяляецца ад іншых, і перш-наперш ад Пана, таму яго жыццё становіцца дарэмным, яго ўчынкі бясплоднымі, ён становіцца як дрэва, што стаіць далёка ад вады. Св. Аўгустын так выказвае гэта сваёй канкрэтнай і трапнай мовай: «*Ab eo qui fecit te noli deficere nec ad te*» — «ад таго, хто цябе ўчыніў, не адыходзь, нават калі ідзеш да сябе»[15]. Калі чалавек думае, што адшукае самога сябе, аддаляючыся ад Бога, яго існаванне становіцца паражэннем (пар. *Лк* 15, 11-24). Пачаткам збаўлення становіцца адкрыццё на штосьці, што папярэднічае, на першасны дар, які пацвярджае і захоўвае жыццё. Толькі праз адкрыццё на гэты пачатак і яго прызнанне мы можам перамяніцца, дазваляючы, каб у нас споўнілася збаўленне, а жыццё стала плённым, поўным добрых пладоў. Збаўленне праз веру заключаецца ў прызнанні першынства Божага дару, як гэта прадстаўляе св. Павел: «Бо ласкаю вы збаўлены праз веру. І гэта не ад вас, гэта Божы дар» (*Эф* 2, 8).

20. Новая логіка веры сканцэнтравана на Хрысце. Вера ў Хрыста збаўляе нас, бо менавіта ў Ім жыццё радыкальна адкрываецца на Любоў, якая апярэджвае нас і перамяняе нас знутры, дзейнічае ў нас і з намі. Гэта выразна бачна ў прадстаўленай Апосталам Народаў эгзэгезе тэксту з Кнігі Другазаконня, эгзэгезе, якая ўпісваецца ў найглыбейшую дынаміку Старога Запавету. Майсей кажа народу, што загады Бога не празмерна высокія і не празмерна далёкія ад чалавека. Не трэба казаць: «Хто ж <...> узыдзе ў неба і прынясе іх нам?» ці: «Хто ж пойдзе за мора і прынясе іх нам?» (пар. *Дрг* 30, 11-14). Св. Павел раз'ясняе гэтую блізкасць Божага слова як тое, што звязана з прысутнасцю Хрыста ў хрысціяніне. «Не кажы ў сэрцы тваім: "Хто ўзыдзе на неба?", каб Хрыста прывесці, або: "Хто сыдзе ў адхлань?", каб Хрыста ўзняць з мёртвых» (*Рым* 10, 6-7). Хрыстус зышоў на зямлю і ўваскрос; праз сваё Уцелаўленне і Уваскрасенне Божы Сын прайшоў увесь шлях чалавека і жыве ў нашых сэрцах праз Духа Святога. Вера ведае, што Бог стаў для нас вельмі блізкім, што Хрыстус быў дадзены нам як вялікі дар, які ўнутрана перамяняе нас, які жыве

ў нас і праз гэта адорвае нас святлом, якое асвятляе пачатак і канец жыцця, увесь шлях чалавека.

21. Дзякуючы гэтаму можам зразумець навізну, да якой вядзе нас вера. Веруючы чалавек перамяняецца Любоўю, на якую адкрыўся ў веры, а калі адкрываецца на гэтую ахвяраваную яму Любоў, яго існаванне выходзіць па-за яго межы. Таму св. Павел можа сказаць: «І ўжо не я жыву, а жыве ўва мне Хрыстус» (*Гал* 2, 20) і заклікаць: «...каб праз веру Хрыстус пасяліўся ў сэрцах вашых» (*Эф* 3, 17). У веры пашыраецца «я» веруючага, каб пасяліўся ў ім хтосьці Іншы, каб ён жыў у кімсьці Іншым, і такім чынам яго жыццё пашыраецца ў Любові. Тут мае месца менавіта дзеянне Духа Святога. Хрысціянін можа мець вочы Езуса, Яго пачуцці, Яго сыноўскую гатоўнасць, бо яму дадзены ўдзел у Яго Любові, якой ёсць Дух. І ў гэтай Любові набываецца пэўным чынам позірк, уласцівы Езусу. Без гэтага прыпадабнення ў Любові, без прысутнасці Духа, які вылівае яе ў нашыя сэрцы (пар. *Рым* 5, 5), немагчыма вызнаваць Езуса як Пана (пар. *1 Кар* 12, 3).

### *Эклезіяльнае вымярэнне веры*

22. Такім чынам жыццё ў веры становіцца эклезіяльным жыццём. Калі св. Павел кажа хрысціянам у Рыме пра адно цела, якое ствараюць у Хрысце ўсе веруючыя, ён заклікае, каб яны не ганарыліся; бо кожны павінен ацэньваць сябе «паводле веры, удзеленай кожнаму Богам» (*Рым* 12, 3). Веруючы вучыцца глядзець на самога сябе паводле вызнаванай веры. Постаць Хрыста — гэта люстэрка, у якім ён адкрывае свой вобраз. А паколькі Хрыстус заключае ў сабе ўсіх веруючых, якія ўтвараюць Яго цела, хрысціянін разумее сябе ў гэтым целе, у першасных адносінах да Хрыста і да братоў па веры. Вобраз цела не зводзіць веруючага да простай ананімнай часткі цэлага, да звычайнага элемента вялікага механізма, але больш падкрэслівае жыццёвую сувязь Хрыста з веруючымі і ўсіх веруючых паміж сабою (пар. *Рым* 12, 4-5). Хрысціяне ўтвараюць «адно» (пар. *Гал* 3, 28), не губляючы сваёй індывідуальнасці, а ў служэнні іншым кожны атрымлівае да канца ўласнае жыццё. Становіцца зразумелым, чаму па-за целам, па-за гэтай еднасцю Касцёла ў Хрысце, па-за Касцёлам, які — згодна са словамі Рамана Гуардзіні — «з'яўляецца гістарычным носьбітам поўнага позірку Хрыста на свет»[16], вера губляе сваю меру, не знаходзіць ужо сваёй раўнавагі, дастатковай прасторы, каб утрымацца. Вера па неабходнасці мае эклезіяльную форму, вызнаецца знутры цела Хрыста як канкрэтная камунія веруючых. Менавіта з гэтай касцёльнай прасторы яна адкрывае кожнага хрысціяніна на ўсіх людзей. Пачутае слова Хрыста моцаю свайго дынамізму перамяняецца ў хрысціяніне ў адказ і становіцца ў сваю чаргу словам сказаным, вызнаннем веры. Св. Павел сцвярджае: «<...> сэрцам вераць для апраўдання, а вуснамі вызнаюць для збаўлення» (*Рым* 10, 10). Вера — гэта не прыватная справа, не індывідуалісцкае паняцце, не суб'ектыўнае меркаванне, яна нараджаецца са слухання і прызначана стаць выказваннем, абвяшчэннем. «Як жа будуць заклікаць таго, у каго не паверылі? Як будуць слухаць, калі няма каму абвяшчаць?» (*Рым* 10, 14). Вера дзейнічае ў хрысціяніне, пачынаючы ад прынятага дару, ад Любові, якая вядзе да Хрыста (пар. *Гал* 5, 6), і робіць яго ўдзельнікам дарогі Касцёла, які пілігрымуе ў гісторыі да свайго спаўнення. Перамененаму такім чынам чалавеку адкрываецца новы спосаб бачання, вера становіцца святлом для яго вачэй.

*Пераклад*
*Секцыі па перакладзе літургічных тэкстаў*
*і афіцыйных дакументаў Касцёла*
*Камісіі Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамэнтаў*
*пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі*

---

[1] *Dialogus cum Tryphone Iudaeo*, 121, 2: *PG* 6, 758.
[2] Св. Клеменс Александрыйскі, *Protrepticus*, IX: PG 8, 195.
[3] *Brief an Elisabeth Nietzsche* (11 чэрвеня 1865), у: *Werke in drei Bänden*, München 1954, 953 s.
[4] *Paradisus*, XXIV, 145-147.
[5] *Acta Sanctorum*, Iunii, I, 21.
[6] «Нават калі Сабор непасрэдна не выказваецца пра веру, ён кажа пра яе на кожнай старонцы, прызнае яе жыватворны і звышпрыродны характар, засноўвае яе ўсю і моцную і будуе на ёй сваё вучэнне. Дастатковым было б прывесці саборныя выказванні <...>, каб зразумець істотнае значэнне, якое Сабор, згодна з дактрынальнай традыцыяй Касцёла, прыпісвае веры, сапраўднай веры, якая мае моц у Хрысце, а канал пераказу ў Настаўніцкім Інстытуце Касцёла» (Павел VI, *Генеральная аўдыенцыя* [8 сакавіка 1967]: *Insegnamenti*, V [1967], 705).
[7] Пар. напр., I Ват. Сабор, Дагмат. канст. пра каталіцкую веру *Dei Filius*, раздз. III: *DS* 3008-3020; II Ват. Сабор, Дагмат. канст. пра Божае Аб'яўленне *Dei Verbum*, 5; *Катэхізіс Каталіцкага Касцёла*, 153-165.
[8] Пар. *Катэхезы* V, 1: *PG* 33, 505A.
[9] *In Psal*. 32, II, s. I, 9: *PL* 36, 284.
[10] M. Buber, *Die Erzählungen der Chassidim*, Zürich 1949, 793.
[11] *Émile*, Paris 1966, 387.
[12] *Lettre a Christophe de Beaumont*, Lausanne 1993, 110.
[13] Пар. *In Ioh. Evang*., 45, 9: *PL* 35, 1722-1723.
[14] Частка II, IV.
[15] *De continentia*, 4, 11: *PL* 40, 356.
[16] *Vom Wesen katholischer Weltanschauung* (1923), у: *Unterscheidung des Christlichen. Gesammelte Studien 1923-1963*, Mainz 1963, 24.

*Энцыкліка* Lumen Fidei *ў перакладзе на беларускую мову выйшла асобнаю кнігаю ў выдавецтве «Pro Christo».*

**Ян Анджэй Клачоўскі** — дамініканін, гісторык мастацтва, тэолаг, філосаф, выкладчык і прапаведнік.
Аўтар кніг «Filozofia dialogu» («Філасофія дыялогу», 2005), «Zawierzyc prawdzie» («Паверыць праўдзе», 2006), «5 kroków w stronę pojednania» («Пяць крокаў да паяднання», 2008) і інш.
Жыве ў Кракаве.



Ян Анджэй Клачоўскі OP

# Дзе «пускаеш карані»?

*Дух свету заклікае брацца за зброю, дух Евангелля — схаваць яе. Аднак гэта не капітуляцыя і не згода на паразу, а радыкальнае адмаўленне карыстацца падчас канфлікту метадамі гэтага свету.*

Пытаюся ў сябе і ў чытачоў пра карані, бо хачу падзяліцца некалькімі думкамі наконт «радыкалізму». Прапаную пачаць з каранёў, а менавіта з паходжання гэтага тэрміна, пра які будзе весціся размова і які — хіба ўсе пагодзяцца — выклікае вельмі вялікую рознагалосіцу. Варта прыгадаць, што слова «радыкалізм» паходзіць ад лацінскага *«radix»,* што азначае «корань». Корань, з дапамогаю якога дрэва або куст чэрпаюць сокі з зямлі, каб расці і даваць плён. Гэта слова выкарыстоўваецца таксама ў пераносным сэнсе і можа мець значэнне «падставы» або «крыніцы». Такім чынам, паслухмяныя мудрасці, сказанай па-лацінску, мы можам назваць нейкага чалавека радыкальным, калі ён будзе «ўкаранёным», а значыць будзе не толькі моцна стаяць на зямлі, але будзе і тым, хто ў гэтую зямлю — у аснову — моцна ўрос.

**Біблійны радыкалізм**

*Шчаслівы чалавек, які не ходзіць*
*за радай бязбожных*
*і не ўзыходзіць на шлях грэшных,*
*і між насмешнікаў не засядае;*
*але ў Законе Пана яго асалода,*
*над ім разважае ўдзень і ўначы.*
*Ён будзе як дрэва,*
*пасаджанае каля воднага патоку,*
*якое плод прыносіць у свой час,*
*і лісце яго не вяне,*
*а ўсё, што ён чыніць, яму ўдаецца.*
*Не такі лёс бязбожных:*
*яны як мякіна, што вецер разносіць* (Пс 1, 1–4).

Словы псальміста зразумелыя: глеба, у якую пасаджаны *«шчаслівы чалавек»,* — гэта кніга Закона, кніга Аб'яўлення, што вучыць яго мудрасці, той найважнейшай — пра плённае жыццё чалавека. Пасадка *«каля воднага патоку»* з'яўляецца не толькі разумовай дзейнасцю, вырашэннем інтэлектуальных загадак, але і павінна пладаносіць, або даваць плён, які вынікае з гэтай мудрасці.

Такім чынам, можна гаварыць пра біблійны радыкалізм або пра настаўленне, як жыць, што павінны рабіць людзі, каб іх жыццё было «ўкаранёнае». Езус ставіць перад сваімі вучнямі радыкальныя задачы: *«Ідзі, прадай усё, што маеш, і раздай убогім, і будзеш мець скарб у небе. Потым прыходзь і ідзі за Мною»* (Мк 10, 21). Аднак чалавек, які пачуў такі адказ на пытанне, што ён павінен рабіць, каб збавіцца, не быў чалавекам радыкальным, ён не мог пагадзіцца са словам «усё». Ён, напэўна, штосьці аддаў бы, нават шчодра падзяліўся б з беднымі, якія вялікаю чарадою ішлі за Настаўнікам. Але «ўсё»? Як можна аддаць «усё», неяк жа трэба жыць, адным паветрам нельга пратрымацца. Таму ён засмуціўся ад гэтых словаў і адышоў маркотны, бо меў вялікую маёмасць (пар. Мк 10, 22).

Праз некалькі стагоддзяў гэтыя словы пачуў у касцёле іншы чалавек і ўспрыняў іх радыкальна: раздаў усё, што меў, і пайшоў у пустыню, каб цалкам прысвяціць сваё жыццё толькі Богу. Так святы Антоній, пустэльнік, названы таксама Вялікім, даў пачатак манаскаму жыццю.

Уважлівы чытач Евангелля, вядома, памятае іншую сцэну, калі Езус на шляху ў Ерузалем, які акурат ішоў праз непрыязную да габрэяў Самарыю, выслаў перад сабою пасланцоў. Тыя прыйшлі ў самаранскае мястэчка, каб падрыхтаваць Яму побыт, *«але там не прынялі Яго, бо Ён накіроўваўся ў Ерузалем. Калі вучні Якуб і Ян убачылі гэта, сказалі: „Пане, хочаш, мы скажам, каб агонь сышоў з неба і знішчыў іх?". Але Ён, абярнуўшыся, забараніў ім. І пайшлі ў іншую вёску»* (Лк 9, 51–55).

Езус ставіць перад сваімі вучнямі вельмі сур'ёзныя — менавіта радыкальныя — задачы, але не пагаджаецца прымяняць насілле да сваіх праціўнікаў. Гэтак жа Ён зробіць, павучаючы Пятра, калі той выцягне меч, каб бараніць свайго Пана ад катаў у Гетсіманскім садзе (Мц 26, 52).

Што будзе большым радыкалізмам у святле вучэння Хрыста? Адсячы праціўніку вуха або схаваць меч у ножны? Дух свету заклікае брацца за зброю, а дух Евангелля — схаваць яе. Аднак гэта не капітуляцыя і не згода на паразу, а радыкальнае адмаўленне карыстацца падчас канфлікту метадамі гэтага свету (нават за самую высокую плату), ды і трапнымі будуць тут словы Сімоны Вайль (французскі філосаф і рэлігійны мысляр. — *Заўв. перакладчыка*), якая напісала: «Хто меч адкладае, той памірае на крыжы». Але ёсць перамога іншага кшталту, якая звяртаецца да іншай сілы, таму быць хрысціянінам — гэта ўшаноўваць Уваскрослага. Такі вось урок біблійнага радыкалізму!

**Паміж літаральнасцю і вобразам**

Радыкалізм — гэта слова, якім мы перадусім карыстаемся ў палітычных і грамадскіх дэбатах, ведучы барацьбу за важныя для нас каштоўнасці, за фундаментальныя праўды. Хрысціяне жывуць у свеце, але, калі яны па-сапраўднаму даверыліся Езусу, то не кіруюцца логікаю свету і правам барацьбы, якія ён навязвае. Яны не бяззбройныя, бо таксама змагаюцца, але іх зброя паходзіць з іншага арсенала.

Паглыбленыя ў постмадэрнісцкую мыслярскую імглу, мы маем спакусу, і многія з нас паддаюцца ёй, схапіцца за зброю, якая дае надзею на раптоўную перамогу, або «схавацца ў акопах Святой Тройцы» са спадзяваннем захаваць скарб, пакуль не надыдзе лепшы час. З вялікім разуменнем я прачытаў словы чэшскага духоўніка Тамаша Галіка ў яго кнізе «Цярплівасць паводле Бога», нядаўна выдадзенай у Польшчы: «Я пераканаы, што цяпер няма нічога больш важнага ў нашым свеце, чым знаходзіць дарогу паміж двух агнёў: рэлігійнага фундаменталізму і фанатычнага секулярызму». Падзяляю гэты пагляд. Ён датычыць вельмі істотнай справы, або таго, як хрысціяне (ці ўвогуле рэлігійныя людзі) павінны знаходзіць сабе месца ў сучаснай культуры, пазначанай хаосам і перарываннем далейшай гістарычнай перадачы каштоўнасцяў і веры. Існуюць розныя стратэгіі.

Калі ўзяць справу разумення Бібліі, то ёсць хрысціяне, якія сутаргава трымаюцца літаральнай інтэрпрэтацыі яе перадачы і гатовыя аддаць жыццё за тое, што Бог за шэсць дзён стварыў свет, лічачы, што ўсялякія спробы іншага тлумачэння пярэчаць высокаму аўтарытэту Божага слова і вядуць да бязбожнасці. Такія людзі знаходзяць вартых сябе праціўнікаў сярод прыхільнікаў не толькі эвалюцыі, але і (што, можа, найважней) сярод гісторыкаў, для якіх гісторыя Ізраэля не з'яўляецца нейкаю выключнаю з'яваю на фоне гісторыі Бліжняга Усходу, а рэлігійныя погляды (перадусім вера ў адзінага Бога) былі зачэрпнутыя са скарбніцы мудрасці найбольш развітых культур, напрыклад, Егіпта. Разумею інтэнцыю хрысціянаў, якія прагнулі захаваць веру ў праўдзівасць біблійнай перадачы, але разумець гэта — не значыць пагаджацца з іх поглядамі. Мудрасць Касцёла ўжо даўно паказала шлях, на якім можна шукаць вырашэння гэтай рознагалосіцы, у адрозненне ад мусульманаў, для якіх кожная літара іх святой Кнігі з'яўляецца не толькі натхнёнаю, але і перадае аб'яўленне, якое трэба разумець літаральна. У галоўнай, а не ў фундаментальнай плыні хрысціянскай тэалогіі зроблена важнае адрозненне — не трэба блытаць натхненне з Аб'яўленнем. Што азначае гэта формула, якая таямніча гучыць для свецкіх? Усё Святое Пісанне нахнёнае, пра яго стварэнне клапаціўся Святы Дух, але не ўся інфармацыя, якую мы знаходзім на старонках Кнігі, мае аб'яўленую збаўчую праўду. Гэта выразна акрэслена ў важным дакуменце Другога Ватыканскага Сабору, у якім гаворыцца пра сувязь паміж натхненнем і Аб'яўленнем. *«Паколькі ўсё, што сцвярджаюць натхнёныя аўтары, або агіёграфы, павінна лічыцца сцвярджэннем Духа Святога, таму неабходна вызнаваць, што кнігі Пісання трывала, верна і беспамылкова вучаць праўдзе, якую Бог дзеля нашага збаўлення пажадаў замацаваць у Святым Пісанні»* (Канстытуцыя пра Божае Аб'яўленне, 11). Такім чынам, аб'яўленаю праўдаю, паводле Святога Пісання, з'яўляюцца шляхі, што вядуць чалавека да збаўлення, аўтары ж гавораць тое самае, але спосабам, адпаведным вобразу іх бачання свету. Ужо даўно вельмі яскрава і выразна пра гэта сказаў Галілей, калі тлумачыў тэолагам, занепакоеным небяспечнымі — як яны меркавалі

— для веры вынікамі яго астранамічных адкрыццяў. Ён пісаў: «Святое Пісанне вучыць, як трапіць у неба, а не як рухаюцца нябесныя целы».

**Фундаменталізм і фанатызм**

Не толькі сярод хрысціянаў ёсць радыкальныя фундаменталісты. Яны маюць блізкіх «сваякоў» сярод г. зв. «новых атэістаў», або пісьменнікаў, якія адначасова з'яўляюцца навукоўцамі і спецыялістамі ў гэтай галіне і сваім жыццёвым пакліканнем лічаць «крыжовы паход» супраць усялякіх рэлігійных веравызнанняў. Калі хтосьці паставіць сабе за мэту прачытаць іх кнігі, то пераканаецца ў тым, што нямногія аўтары гэтых публікацый валодаюць рэлігійнымі ведамі. Адзін з галоўных прадстаўнікоў гэтай плыні Рычард Докінз у радыёпраграмах на хвалях *BBC* бесцырымонна прапагандаваў сваё перакананне ў тым, што рэлігія — гэта інфантыльнае тлумачэнне свету, а яе аповеды, як, напрыклад, пра св. Мікалая, належаць да жанру казак.

На выступленні Докінза адрэагаваў яго калега з Оксфардскага ўніверсітэта, пратэстанцкі тэолаг Алістэр Макграт, заўважыўшы, што яго праграмы прыдаліся б для напісання такіх кнігаў, як, напрыклад, «Уяўны Бог».

Палемісты дакаралі брытанскага біёлага за адсутнасць асноўных ведаў па рэлігіі, а перадусім за атаку на хрысціянства, але гэта не перашкаджае яму надалей з вялікай энергіяй і прапаведніцкім запалам гаварыць пра неабходнасць вызвалення чалавецтва з няволі рэлігійных уяўленняў.

Сфераю рознагалосіцы, дзе сутыкаюцца два фундаменталізмы, безумоўна, з'яўляецца палітыка. Трэба прызнаць, што гэта складаная тэма, нават больш складаная за «крыжовы паход» прафесара Докінза. Пра гэта піша французскі сацыёлаг і палітолаг Жыль Кепель у нашумелай кнізе «Помста Бога. Рэлігійная рэканкіста свету».

Рэканкіста — тэрмін, якім іспанцы назвалі барацьбу за адваёўванне земляў Пірынейскага паўвострава ў мусульманаў. Прафесар Кепель прымяняе яго ў адносінах да распачатай у другой палове XX стагоддзя з'явы, якую часам называлі «вяртанне *sacrum*». На здзіўленне многіх тэарэтыкаў, якія прадвяшчалі хуткі канец рэлігіі, з'явіліся адзнакі яе плёну, хоць у адрозных ад традыцыі формах. Да гэтага «вяртання *sacrum*» залічваюцца розныя формы г. зв. *new age*, экспансіі сектаў розных відаў і г. д.

Кепеля як палітолага галоўным чынам цікавіць адзін аспект гэтага працэсу: умяшальніцтва рэлігіі ў публічную сферу. Гэта па сутнасці скасаванне прынцыпу, які быў прадметам гонару асвечанай Еўропы (і Амерыкі), прынцыпу, заснаванага на адзяленні публічнай сферы ад рэлігійнай і пакіданні для гэтай апошняй абшару прыватнай інтымнасці. Кепель выносіць на шырокае абмеркаванне праблему ісламісцкага тэрарызму, а таксама прыкметы, якія, на яго думку, сведчаць пра палітычны аспект хрысціянскай праграмы рэхрысціянізацыі Заходняй Еўропы, або двухзначнай ролі Касцёла (перадусім Каталіцкага) на развалінах камунізму ў Цэнтральнай Еўропе. Яму далёка да спрошчаных аргументаў Докінза, але і ён не пазбягае спрошчванняў, калі на адным дыханні піша пра джыхад і італьянскі рух *«Comunione e Liberatione»*, пра палітычных амерыканскіх фундаменталістаў і польскую «Салідарнасць». У яго кнізе глыбока схаваны тэзіс пра фундаментальную спакусу, якая ёсць у кожнай рэлігійнай традыцыі і якая, калі знікае, то толькі пад прымусам знешніх абставінаў. Але ці ўпісваецца гэта спакуса ў саму сутнасць рэлігіі?

**Калі цэзар — Бог**

Як хрысціянін магу спаслацца на Евангелле, у якім гаворыцца, што цэзару трэба аддаць цэзарава, а Богу — Богава (пар. Лк 20, 25). Таму я ахвотна задаў бы пытанне прафесару Кепелю: што рабіць, калі цэзар лічыць сябе Богам і абсалютным уладаром? Ці было далучэнне евангелісцкага пастара Дзітрыха Бохёфера да антыгітлераўскай апазіцыі неправавым уваходам хрысціяніна ў публічную сферу? Ці павінен быў ён сядзець склаўшы рукі і сачыць за раскладам набажэнстваў у сваім касцёле? У той жа час прыхільнікам абвяшчэння Хрыста Валадаром Польшчы і вынікаючым з гэтага не толькі духоўным, а і прававым наступствам я хацеў бы задаць пытанне: ці насамрэч яны ўважліва і пакорна прыслухоўваюцца да евангельскага паслання?

Тэзісы кс. Галіка пра прорву (і адначасова парадаксальную блізкасць) паміж рэлігійным фундаменталізмам і фанатычным секулярызмам прыадкрываюць штосьці вельмі істотнае ў духоўным пейзажы нашай сучаснасці. Нам застаецца толькі евангельскі радыкалізм, ды яшчэ які радыкалізм! Жыць, як дрэва, пасаджанае каля воднага патоку, каб сведчыць пра сталую і мудрую любоў. Важнейшым за рознагалосіцу пра крыж застаецца сам Крыж, бо ён для веруючых хрысціянаў з'яўляецца дрэвам жыцця.

*Пераклад з польскай мовы Іны Ламакі.*
*Паводле: «W drodze», 11, 2011 г.*

Стэфан Свяжаўскі

# СВЯТЫ ТАМАШ, ПРАЧЫТАНЫ НАНАВА

IX. АДНОСІНЫ БОГА ДА СВЕТУ

Філасофія св. Тамаша глыбока тэацэнтрычная. Калі нехта ўступіць на сапраўдны шлях метафізічнага разважання і пагглядзіць на рэчаіснасць з боку глыбіннай будовы рэчаў, ён знойдзе аснову гэтай будовы. Паколькі найістотнейшымі складнікамі бытаў з'яўляюцца сутнасць і існаванне (магчымасць і здзяйсненне), то, узіраючыся ў гэтую будову, мы заўважаем, што самаіснае існаванне, быт, сутнасць якога — існаванне, з'яўляецца асноваю ўсёй рэчаіснасці. Гэта на першы погляд вельмі кароткі шлях, але ён вымагае велізарнага высілку сузірання, высілку ўдумвання, а не штучных, заблытаных, складаных разважанняў, якія павінны былі б урэшце прывесці да высновы, што сцвярджае існаванне самаіснай прычыны ўсёй рэчаіснасці — Бога. Трэба ўмець убачыць гэтую будову рэчаіснасці, пра якую мы гаворым.

Цяпер пяройдзем ад пытанняў, датычных непасрэдна Бога, ад таго, што складае самую сарцавіну метафізікі, а менавіта ад тэалогіі натуральнай, ці тэалогіі, даступнай прыроджанаму разумоваму пазнанню, да праблемы: Бог — свет, датычнай сувязяў паміж Богам і светам. Пазбаўленае ідэалагічных тэндэнцый сузіранне рэчаіснасці, усё роўна, ці возьмем як прадмет нашых разважанняў знікомую частку таго, што нас атачае, ці ўвесь свет, усю рэчаіснасць, усё, што існуе, непазбежна вядзе нас да Бога. Мы ўжо ведаем, што ў метафізіцы св. Тамаша існаванне — гэта тое, што найглыбейшае ў рэчах. А паколькі гэты чыннік існавання з'яўляецца тым, што найглыбейшае ў рэчах, Бог знаходзіцца ў аснове ўсяго, ахоплівае самую глыбіню ўсіх рэчаў і ўсё пранікае. І так павінна быць, калі Бог ёсць крыніцаю, прычынаю і коранем існавання. Гэтая праўда з'яўляецца тым філасофскім каменем, якога шукалі філосафы, і разам з тым у ёй праяўляецца Бог Аб'яўлення, які адкрываецца нам хоць бы і ў тых словах св. Паўла: «у Ім мы жывём, рухаемся і існуем» (Дз 17, 28). Бо ўсё, што ёсць – ёсць добрае (кепскія толькі недахопы), таму ўсё да самага дна пранікнута Богам, і таму і філасофска-тэалагічныя аўтары, і містыкі маглі абвяшчаць, што Бог да нас нашмат бліжэй, чым мы гэта сабе ўяўляем. Найістотнейшае ў нас – нашае існаванне: Бог гэтае існаванне носіць у сабе, таму Бог нашмат бліжэй да нас, чым мы самі да сябе. Вось сцвярджэнні, да якіх нас наўпрост прыводзіць філасофскае разважанне; для гэтага яшчэ не патрэбнае Аб'яўленне.

У св. Тамаша мы знойдзем вельмі моцны тэкст. Тэкст, які можа нават палохаць сваім нібы пантэістычным гучаннем (*pan* па-грэцку значыць усё, *Theos* — значыць Бог; пантэізм — гэта погляд, што ўсё ёсць Богам, г.зн., што Бог атаясамляецца са светам). У *Каментары да Сэнтэнцыяў*, адным з самых ранніх твораў (*I Sent.* 8,1, 2), св. Тамаш піша: *Deus est esse omnium* — Бог — гэта існаванне ўсяго, але дадае: *non essentiale sed causale* — не сутнасна, а прычынна. Таму Бог — гэта існаванне ўсяго, аднак не існаванне як складнік рэчаў, а як іх дзейная прычына, гэта значыць як крыніца, з якой вынікае існаванне гэтых рэчаў, а значыць Ён *non essentiale* — не сутнаснае існаванне, г.зн. не існаванне, якое злучаецца з сутнасцю, бо існаванне ў нас частковае, прычаснае, а *causale* — г.зн. існаванне, якое ёсць прычынаю. Але мы ўжо ведаем, што – паводле Тамаша — *Esse est illud quod est magis intimum cuilibet, et quod profundius omnibus est* (S.th. I q.8 a. 1 c.) — існаванне — гэта той чыннік у нас, а таксама ва ўсіх рэчах, у кожным прадмеце, які найбольш глыбокі за ўсё іншае. *Intimum* — значыць тое, што найбольш інтымнае, глыбіннае, якое даходзіць да самай сарцавіны. *Et quod profundius omnibus est* — і што найглыбейшае за ўсё ў кожным быце, у кожнай рэчы. А паколькі Бог, як толькі што мы чыталі ў св. Тамаша, ёсць — *esse omnium* — ёсць тым існаваннем, якое з'яўляецца прычынаю тых дробных частковых існаванняў, што ёсць ва ўсіх рэчах, то, кажа св. Тамаш далей, — *oportet quod Deus sit in omnibus rebus et intime* — трэба, нават неабходна, каб Бог быў ва ўсіх рэчах *et intime* глыбінна (S.th. I q.8 a.l c.).

Мы закранаем тут праблему Божай прысутнасці. Сама філасофія адкрывае перад намі ашаламляльныя далягляды, паказваючы, што Бог як прычына існавання знаходзіцца абсалютна ва ўсіх рэчах. Таму Бог пранікае ўсё. Усе рэчы прасякнутыя Богам. Але паколькі Бог не з'яўляецца сутнасным існаваннем у рэчах, а прычынаю іх існавання, існаваннем прычынным, таму тут няма пантэізму. Уся сукупнасць рэчаў, увесь свет не атаясамляюцца з Богам, але Бог — гэта той, «у якім мы жывём, рухаемся, існуем». Гэта менавіта тая праўда, якая ў філасофскай мове называецца іманентнасцю Бога — *manere* азначае «заставацца», «трываць», «знаходзіцца», а *immanere* — значыць «заставацца, знаходзіцца ў», вось жа, іманентнасць азначае, што Бог знаходзіцца ў рэчах, ва ўсёй сукупнасці рэчаў і ў кожнай часцінцы гэтай сукупнасці. А незвычайнай таямніцай, на якую ўказвае філасофія, але якой яна абсалютна не можа для нас вытлумачыць, з'яўляецца тое, што іманентнасць Бога спалучаецца з Яго абсалютнай трансцэндэнтнасцю. Слова «трансцэндэнтнасць» паходзіць ад лацінскага *transcendere* «выступаць, выходзіць па-за». Бог, які найглыбей знаходзіцца ў рэчах, адначасна бясконца пераўзыходзіць увесь свет і кожную рэч. Гэтая таям-

*Працяг. Пачатак у 3 за 2011 г.*

ніца таксама незразумелая, як траістасць і еднасць у Святой Тройцы. Гэта справы, пра якія мы нібыта ведаем, якія нібыта знаходзяцца ў нас як праўды веры, але бадай рэдка мы над імі задумваемся і рэдка робім гэта, кіруючыся нагэтулькі глыбокай філасофскай думкай, якой асвятляе нам шлях св. Тамаш. Вось жа іманентнасць і трансцэндэнтнасць, адно і другое ў аднолькавай ступені: «знаходжанне ў» і «выхад па-за» — толькі разам характарызуюць належным чынам адносіны Бога да свету. «Свет» мы разумеем тут і як сукупнасць усіх створаных рэчаў, усіх рэчаў, існуючых па-за Богам, і як кожную часцінку гэтай велізарнай цэласці.

Можна яшчэ ўказаць на шэраг якасцяў, ад якіх паходзяць адпаведныя імёны Бога. Адзіны павінна паказваць, што Бог абсалютна адзін, Нязменны, што ў Ім нічога не змяняецца. Філасофія, а не толькі Аб'яўленне кажа нам, што Бог як чыстае здзяйсненне можа быць толькі адзін. Не можа быць двух чыстых здзяйсненняў, ці чыстых актаў. Чысты акт можа быць толькі адзін. Калі б былі два, то адзін чымсьці адрозніваўся б ад другога, а калі б чым-небудзь адрозніваўся, то ўжо адзін мог бы стаць другім і не мог бы быць поўным здзяйсненнем. Поўнае здзяйсненне можа быць толькі адно адзінае, і гэта ёсць абгрунтаваннем адзінства Бога – Бог абсалютна нязменны. Разважаем такім чынам: поўнае здзяйсненне не дапускае далейшага здзяйснення, а кожнае змяненне з'яўляецца пераходам ад магчымасці да здзяйснення гэтай магчымасці. Бо калі б у Богу была зменнасць, Ён не быў бы чыстым здзяйсненнем, ці чыстым актам, а таму Бог павінен быць як абсалютна адзіны, гэтак і безумоўна нязменны. Мы разумеем, што Бог вечны, гэта значыць, што Ён перасягае ўсялякую часовую зменнасць, і бясконцы, бо перасягае ўсялякія абмежаванні. Усё гэта вынікае з разважання над тым, што значыць поўнае, чыстае здзяйсненне, якім у выпадку Бога ёсць самаіснае існаванне. Мы ўвесь час павінны вяртацца да таго цэнтральнага пункту разважанняў, у якім казалі пра Бога як пра *ipsum esse subsistens* — пра самаіснае існаванне. Гэта асноўны пункт, без якога ўсё, пра што ідзе гаворка далей, не было б цалкам зразумелым.

Вучэнне пра якасці Бога мае сваё ўласнае месца ў гісторыі тэалогіі. Было шмат славутых тэолагаў, не толькі хрысціянскіх, але і арабскіх, юдэйскіх, індускіх, якія глядзелі на Бога праз адну Яго якасць. Гэта не значыць, што такія розныя погляды былі неадпаведнымі; ідзецца толькі пра тое, які з гэтых поглядаў сягае найглыбей. Вялікая неаплатонаўская думка, якая звярталася да Платона, праз св. Аўгустына і ўсю аўгустынскую тэалогію, вылучыла адзінства Бога; у творцы неаплатанізму, Плотына, Бог названы Праеднасцю. Найважнейшым ёсць тое, што Бог адзіны, абсалютна просты, не складзены, а ўсе іншыя якасці, на думку гэтых тэолагаў, павінны вынікаць з еднасці. У св. Аўгустына, побач з еднасцю, якасцю, што адрознівае Бога ад усіх іншых рэчаў, ёсць абсалютная нязменнасць. Мы казалі пра тое, якой была экзэгеза біблійнага «Які ёсць». Св. Аўгустын тлумачыць гэтыя словы: «Той, які не змяняецца, які застаецца»; а таму абсалютная нязменнасць была б тут крыніцаю ўсіх іншых Божых дасканаласцяў.

Дунс Скот, адзін з найвялікшых францішканскіх «філасофскіх тэолагаў», вылучыў на першае месца іншую якасць Бога, а менавіта — бясконцасць. Дунс Скот лічыў, што ёсць адзін адзіны бясконцы быт, якім ёсць Бог. Такім чынам, уся рэчаіснасць падзяляецца дыхатамічна, ахопліваючы дзве катэгорыі быту: быт бясконцы — Бог, быты канечныя — усе іншыя рэчы. Увесь шэраг гістарычных абумоўленасцяў схіляў вялікага вучонага, якім быў Вільгельм Окам, творца новага кірунку ў познесярэднявечнай філасофіі і тэалогіі, да вылучэння Божай свабоды і ўсемагутнасці. Гэта прыклады розных тэалогій, розных поглядаў на тое, што ў Богу найважнейшае. Св. Тамаш не адмаўляе ніводнай з гэтых вылучаных якасцяў, прымае іх усе, але лічыць, што іх прычынаю з'яўляецца тое, што Бог ёсць самаісным існаваннем, – гэта для св. Тамаша сапраўднае імя Божае і сапраўдная прычына ўсіх Божых якасцяў, і ключ да зразумення адносінаў Бога да свету.

Разважаючы над праблемаю стварэння свету, мы павінны выкінуць з нашых галоваў наіўную і аблудную канцэпцыю, быццам стварэнне было фактам, які адбыўся дзесьці, калісьці, мільёны гадоў таму і ўжо даўно скончыўся. Гэта памылковае разуменне стварання і стварэння. Ствараннe — гэта ўдзяленне існавання таму, што не існуе, і гэта чыніцца пастаянна. Таму таксама выказванне: *Conservatio est continua creatio* (S.th. I q.103 a.3) — утрыманне рэчаў у існаванні ёсць далейшым працягам акту стварэння, ёсць пастаянным ствараннем — не з'яўляецца метафарай. Гэта трэба разумець даслоўна: ствараннe адбываецца пастаянна. У поглядах св. Тамаша сцвярджэнне пра стварэнне свету не ёсць аб'яўленай праўдаю. Тут ізноў мы маем *revelabile*, ці аб'яўленую праўду, да якой, аднак, мы даходзім таксама і ўласным розумам. Калі мы бачым неабходнасць прычыны існавання рэчы, то сцвярджэнне, што з гэтай прычыны, з гэтага кораня вынікае існаванне, ёсць адначасна прызнаннем акту стварэння. Менавіта гэта з'яўляецца сутнасцю Бога як Створцы.

Факт бесперапыннага стварання, у якім мы пастаянна жывём, гэта важны і рэальны аспект рэчаіснасці. Іншая рэч, калі вера кажа нам, што свет калісьці пачаў існаваць, але гэта не значыць, што тады аднаразова здзейсніўся акт стварэння і на тым скончыўся, што, стварыўшы свет, Пан Бог нібы адвярнуўся ад яго. Гэта быў бы дэістычны погляд. У Тамаша справа падаецца цалкам інакш: Бог — калі можна выкарыстаць метафару — нібы акумулятар, з якога пастаянна цячэ існаванне, што ўдзяляецца ўсім рэчам. Толькі Бог ёсць Створцам, не можа быць стварання апасродкаванага. Чалавек можа быць творцам, але ніколі — створцам. Створцам ёсць толькі Бог, і толькі з Бога паходзіць ствaральны акт, бо: *Creatio est quaedam acceptio esse* (Sent. II, 1, 2c). *Creatio* азначае тут быццё створаным, а быццё створаным — гэта атрыманне існавання ад крыніцы гэтага існавання, а значыць — ад Бога. Толькі Бог для ўсіх рэчаў без вынятку ёсць крыніцаю існавання і таму ёсць Створцам.

У гістарычным плане важна — і гэта трэба ўсвядоміць, — што філасофскае паняцце Бога-Створцы (а гэта паняцце філасофскае) было цалкам не вядомае старажытнай філасофіі. Старажытныя філоса-

фы ўвогуле не ўводзілі яго ў «інвентар» сваіх паняццяў, бо звязвалі стваранне з нейкім пачаткам у часе, а паколькі свет для іх існаваў заўсёды, то паняцце стварання не бралася ўвогуле ў разлік; тым больш стварэнне з нічога. Свет быў заўсёды. Разважалі над тым, з чаго створаны свет, якія яго элементы, што з'яўляецца яго сутнасцю. Але экзістэнцыяльная праблематыка, прычына існавання свету — гэта пытанні, якія з'явіліся ў філасофіі толькі пад уплывам рэлігійнай тэматыкі, перададзенага ў Бібліі апісання стварэння свету. Толькі Аб'яўленне ў Кнізе Быцця кажа, што на пачатку не было нічога, пакуль Бог стварыў штосьці, што свет узнік з нічога.

Св. Тамаш таксама падкрэслівае, што ствараль-ны акт для Бога абсалютна свабодны. Тут Тамаш выказвае думку, выказаную таксама Окамам, які навучаў пасля яго, — стварэнне свету не ёсць чымсьці неабходным. Неаплатонаўская філасофія тлумачыла, што свет быццам бы эмануе з неабходнасці, вынікае са сваёй крыніцы, якой ёсць Праеднасць; зусім інакш у Тамаша — свет цалкам залежны ад свабоднага Божага акту. Божыя дзеянні навонкі (на лаціне: *ad extra*, у адрозненне ад унутранага дзеяння *ad intra*) з'яўляюцца дзеяннямі абсалютна свабоднымі, у іх няма ніякай неабходнасці. Неабходнасць са свабодаю злучаныя таемным чынам ва ўнутраным жыцці Бога, чаго мы відавочна не можам зразумець, можам толькі звярнуць увагу на гэтую таямніцу і на гэтую праўду.

Памятайма, што свет мог бы ўвогуле не пачаць існаваць; абсалютна ў нічым гэта не змяніла б таго найістотнейшага жыцця, якім ёсць жыццё Тройцы. Тая хвала, пра якую кажа Хрыстус у Евангеллі: «услаў Мяне ў сабе хвалою, якую меў Я ў Цябе перад існаваннем свету» (Ян 17, 5) — гэта і ёсць уласна ўнутранае Божае жыццё, зусім незалежнае ад свету. Свет цалкам выпадковы, усё яго існаванне залежнае ад вольнага рашэння Бога. Мы ведаем, што Бог пазнае ўсе быты — не толькі тыя, якія існуюць, якія ёсць, якія калі-небудзь існавалі ва ўсім сусвеце, ва ўсіх галактыках і ва ўсім духовым свеце, але Бог ведае таксама па неабходнасці ўсе магчымыя рэчы, гэта значыць несупярэчныя. Бо тое, што супярэчнае, — немагчымае. Таму Бог, па-чалавечых мерках можна гэтак сказаць, мае паняцце ўсіх рэчаў, якія ёсць, былі і будуць магчымыя; як кажа св. Тамаш: *Deus inteligit plures rationes propriae plurium rerum quae sunt plures* — сапраўдныя паняцці ўсіх рэчаў знаходзяцца ў Богу (S.th. I q.l5 a.2 c.), але — паколькі Ён ведае ўсе быты — то мае ў сабе таксама нібы мадэлі ўсіх магчымасцяў, усіх магчымых светаў.

Св. Тамаш зазначае, што свет, які існуе, у якім мы жывём, які нас атачае, не адзіны магчымы свет; гэта адзін з бясконцага мноства магчымых светаў, і ён не з'яўляецца найдасканалейшым, як хацеў Лейбніц, вялікі філосаф XVIII стагоддзя. Кожны з магчымых светаў, а таксама наш рэальны свет, мусіць быць адносна дасканалым і адносна недасканалым. Вось жа, свет, у якім мы жывём, не з'яўляецца найдасканалейшым светам: ён дасканалы таму, што ў ім якімсьці чынам адлюстроўваецца Бог. Уласна адну з незлічоных мадэляў магчымых светаў Бог выклікае да існавання; на гэтым палягае безупыннае яго стваранне, пастаянная *continua creatio,* расцягнуты ў часе і прасторы акт стварэння. Таму памятайма, што гэты свет, у якім мы жывём і рухаемся, мог бы быць цалкам іншы і мог бы таксама зусім не існаваць, і гэта ні ў чым не змяняла б і не змяншала б вялікасці, паўнаты і дасканаласці Бога.

У часы св. Тамаша горача дыскутаванай праблемай было пытанне вечнасці свету. Старажытныя філосафы лічылі, што свет ніколі не пачынаў існаваць. Вызначальным з'яўляецца погляд на гэтыя справы св. Тамаша; гэты погляд пралівае таксама святло на Тамашава разуменне акту стварэння. Божы акт стварэння — паводле Тамаша — не ёсць чымсьці, што адбылося калісьці, але чымсьці, што дзейнічае пастаянна. Тое, што свет пачаўся ў часе, што мінула вызначаная колькасць часавых адрэзкаў ад моманту, калі не было нічога і пачаўся свет, гэта — *credibile;* можна і трэба ў гэта верыць, але гэта не тая праўда, якую можна філасафічна, навукова — кажа св. Тамаш — давесці. Больш за тое: з гэтай прычыны сцвярджэнне пра пачатак свету ў часе для яго — *revelatum*, а не *revelabile,* гэта праўда аб'яўленая, а не праўда, да якой можа дайсці сама філасофія.

Затое тэза, што свет створаны, што мусіць быць створаны, калі існуе, — гэта *revelabile* — праўда, да якой прыводзіць нас філасофскае мысленне. Калі б мы нават прынялі, што свет вечны альбо што матэрыя вечная, то св. Тамаш гэтак адказаў бы на тое: абсалютна ўсё роўна, ці матэрыя вечная, ці мае пачатак у часе — у кожным выпадку яна створаная, бо не мае існавання сама па сабе. Ці — калі б мы прынялі такую гіпотэзу, што свет быў заўжды, то св. Тамаш кажа, што ні ў чым гэта не парушае таго факту, што ён створаны. Гэта важна і актуальна з увагі на сённяшнія дыскусіі з марксістамі, частыя асабліва ў студэнцкім асяроддзі. Факт, што свет, цялесныя быты, не маюць пачатку ў часе, што былі заўсёды, для св. Тамаша ні ў чым не парушае тэзы, што яны створаныя, бо залежныя ў сваім існаванні ад таго, чым ёсць ствараль-ны акт, ці ад жадання, ад вольнай волі Бога, самаіснага існавання.

Гэтае быццё створаным азначае атрымаць існаванне; існаваць неабавязкова, мець існаванне прычаснае, якое вынікае з існавання самаіснага; гэта — сутнасць быцця створаным. Вось жа, Бог — самаіснае існаванне, таму Ён мусіць быць дзейнай прычынай, ці прычынай, якая ўдзяляе існаванне. Ён таксама іманентны, як дзейная прычына, як тое *esse causale* — ва ўсіх рэчах, і адначасна трансцэндэнтны, бо бясконца перасягае ўсе рэчы, цалкам незалежны ад іх у плане існавання. Толькі гэта прыводзіць нас да зразумення, наколькі цалкам чужыя св. Тамашу такія тэорыі як пантэізм, ці погляд, што Бог атаясамляецца са светам, альбо дэізм, погляд, што Бог аднойчы стварыў свет, а потым «адвярнуўся», пачаў свой сёмы дзень — дзень адпачынку, і ўвогуле перастаў займацца светам. Бог не ёсць душою свету і не стаіць па-за ім, Ён цалкам яго пранікае як канчатковая крыніца быту: Ён — дзейная і мэтавая прычына ўсяго, што робіцца ў свеце. Ці таксама і зла?

*Пераклад з польскай мовы*
*Алеся Жлуткі.*

*Працяг будзе.*

Андрэй Шпунт

# ПАМІЖ КАТОЛІКАМІ І ПРАВАСЛАЎНЫМІ



«Януш Радзівіл».
Літаграфія Войцеха Герсана, каля 1860–1862 гг.

## Складанасці і супярэчнасці

Гэты чалавек выклікаў абагаўленне і нянавісць. Ён выяўляў складанасці і супярэчнасці трагічнага XVII стагоддзя, што між іншым ілюструюць міжканфесійныя адносіны, праз якія ён «прадзіраўся».

Хваля рэфармацыі, узнятая манахам аўгустынцам Марцінам Лютэрам, да другой паловы XVI стагоддзя накрыла нашыя землі, зацягнуўшы ў свой вір большую частку шляхты і магнатэрыі. З пратэстанцкіх плыняў найбольш па густу прыйшоўся кальвінізм, і тут Радзівілы ішлі наперадзе, пашыраючы новае вучэнне, — будавалі зборы і друкарні, засноўвалі адпаведныя навучальныя ўстановы, ахвяравалі сродкі і інш. У віленскага біскупа Валяр'яна Пратасевіча з парафіянаў нікога не засталося. Выратаваннем былі 13 першых езуітаў у 1569-м. Праз год іх было 300, а за імі 24 ордэны — францішкане, дамінікане, кармэліты, бэнэдыктыны і іншыя. Плёнам іх дзейнасці стала сярод іншага вяртанне блудных авечак у лона Касцёла. Не было толькі сярод іх князя Януша Радзівіла — правадыра кальвіністаў. Раскіданыя па ўсім Вялікім Княстве, таючы як вясновы снег, пад промнямі святла, што неслі ордэны, ва ўладаннях князя яны складалі маналітны аплот, свайго роду дзяржаву ў дзяржаве.

Князь быў у першую чаргу жаўнерам і досыць адукаваным, а не рэлігійным фанатыкам, якім яго хацелі лічыць. Рэлігійныя перакананні не з'яўляліся перашкодай, каб у 1638 годзе ўзяць шлюб з Кацярынай Патоцкай — вельмі прыгожай, але каталічкай. Адразу ж падпаў пад моцны ўплыў жонкі, з-за чаго рэзка разышоўся з бацькам. Спадзяваліся, што пераход князя ў каталіцтва — пытанне часу. І здавалася б, для гэтага меліся падставы — пасля смерці бацькі, уваходзячы ва ўладанне спадчынай, звальняў слугаў-кальвіністаў, замяняючы іх католікамі. У 1642 годзе Кацярына памерла і князь наладзіў пышнае пахаванне ў віленскай катэдры, аднавіўшы пры гэтым табліцы

---

**Андрэй ШПУНТ** — беларускі гісторык, архівіст. Нарадзіўся ў 1969 годзе. Скончыў БДУ (1997). У 1989—1994 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі (аддзел старажытнабеларускага мастацтва). У 1996—1998 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (генеалагічныя даследаванні), у 1998—2000 гг. — вядучы спецыяліст Дзяржкамархіва (геральдыка і генеалогія), аўтар зацверджаных праектаў гербаў Маладзечна, Заслаўя, Крупак, Акцябрскага (Рудабелка), Белаазёрска, Івянца. Аўтар шэрагу навуковых і папулярных публікацый.

з імёнамі сваіх каталіцкіх продкаў.

Далей, аднак, не пайшло. У 1640-м, у Вільні, падчас пахавання настаўніка і апекуна Аляксандра Пжыпкоўскага, адбыліся сутыкненні паміж кальвіністамі і католікамі. Пяхота Радзівіла абстраляла натоўп каля дамініканскага кляштара, у выніку чаго пастановай Сойму кальвінскі збор быў вынесены за гарадскую мяжу.

У пошуках новай жонкі князь вырашыў падпарадкавацца волі нябожчыка бацькі, жадаўшага, каб яна была з нейкага пануючага дому і з багатым пасагам. Кароль Уладзіслаў IV прапанаваў кандыдатку — дачку праваслаўнага малдаўскага гаспадара Базыля Лупула — Марыю, якая паспрыяла б больш цесным адносінам з гэтай краінай у сувязі з планамі вайны супраць Турцыі. 5 лютага 1645 года адбылося вяселле. Картэж, які рушыў праз Львоў і Камянец да Ясаў, складаўся з 60 карэтаў, запрэжаных шасцёркамі коней, за кожнай — 10 конных гайдукоў, а яшчэ з рэгімента іншаземнай пяхоты, дзвюх казацкіх і дзвюх гусарскіх харугваў, апранутых так пышна, што ажно ламіла вока ад бляску.

Гэты шлюб канчаткова пахаваў спадзяванні на пераход Радзівіла ў каталіцтва. У 1647-м Віленскі біскуп Абрагам Война выступіў з абвінавачваннем, што нібыта ва ўладаннях князя зносяцца прыдарожныя крыжы, і запатрабаваў пакарання. Уратавала заступніцтва пробашчаў мясцовых касцёлаў, канцлера літоўскага і каралевы Марыі Людвікі.

Цяпер князь успрымаўся праваслаўнымі і пратэстантамі як галоўны абаронца, а ён між іншым выступаў супраць пазбаўлення арыянаў шляхецкіх



Партрэт дзвюх жонак Януша Радзівіла, 1640-я гг.

правоў, папярэджваючы, што гэта выкліча такі ж выбух, як на поўдні Рэчы Паспалітай, ды супраць касцёльных судоў, арганізаваных на ўзор іспанскай інквізіцыі...

...Гэты час можна было б назваць рэхам залатога стагоддзя, залатой восенню Рэчы Паспалітай. У апошнія гады ўладарання Уладзіслава IV, калі ўся Цэнтральная Еўропа была спустошана Трыццацігадовай вайной, у краіне панавалі вольнасць, дабрабыт і супакой.

Толькі ўвесь гэты шчаслівы стан трымаўся як на парахавой бочцы, а выбуховым рэчывам былі казацкія масы на паўднёвых і паўднёва-ўсходніх абшарах Рэчы Паспалітай — прытулку збеглага сялянства, злачынцаў, авантурыстаў, шукальнікаў прыгодаў, якія сцякаліся з усёй Кароны і Літвы. Жылі з вайны і рабунку. Паступова пачалі значна ўплываць на палітычную сітуацыю ва Усходняй Еўропе, сепаратна парушаючы мірныя дамовы паміж Рэччу Паспалітай і Турцыяй. Да таго ж, у нетрах самога казацтва наспявалі эканамічныя праблемы, што выклікала шматлікія канфлікты, якія ўрэшце скончыліся тым, што адзін рэестравы казак Багдан Хмель, ці Хмяльніцкі, падняў Запарожскую Сеч на паўстанне супраць «ляхаў, жыдоў і папоў супастатаў» (гэты надпіс «аздабляў» яго зброю). Упэўненасць уладаў Рэчы Паспалітай у лёгкай перамозе над бунтаўшчыкамі прывяла да сакрушальных паражэнняў кароннага войска 6 мая 1648 года пры Жоўтых Водах, 16 мая — пад Корсунем і ў верасні — пад Піляўцамі. Там Хмяльніцкі захапіў вялікую колькасць зброі і некалькі мільёнаў злотых. Шлях на захад і поўнач быў адкрыты. На мяжы Валыні войска Хмяльніцкага падзялілася: адна частка рушыла на Львоў, другая — на ВКЛ. У хуткім часе ўвесь поўдзень Вялікага Княства апынуўся ў руках паўстанцаў.

У студзені 1649 года польны гетман вырушыў на чале 15-тысячнага войска ВКЛ у першы ў сваім жыцці самастойны паход. Адразу ж быў заняты Тураў, з якога большая частка паўстанцаў адышла да Мазыра. 19 студзеня прапанова Радзівіла здацца з правам свабоднага выйсця была адхіленая. Тады загаварылі гарматы. Увечары таго ж дня Мазыр паў. Рэшткі паўстанцаў былі адціснутыя да Прыпяці і перабітыя. Такі ж лёс напаткаў Бабруйск і іншыя гарады.

У сваю чаргу Хмяльніцкі выслаў у Беларусь 6 тыс. казакаў Чарнігаўскага палка пад камандаваннем палкоўнікаў Сцяпана Падбайлы і Іллі Гаркушы, даручыўшы ім заняць пераправы цераз Дняпро каля Лоева — г. зв. «Лоеўскай брамы» — шля-

ху з ВКЛ ва Украіну. Польны гетман таксама меў усяго каля 6 тыс. войска, але перавага праціўніка значна павялічылася, калі Хмяльніцкі накіраваў яшчэ 15-тысячнае аб'яднанае казацкае войска пад агульным камандаваннем берасцейскага шляхціца Міхаіла Крычэўскага, які 31 ліпеня раптоўна ўдарыў першы. Князь вытрымаў націск і імкліва заатакаваў казакаў пад моцным агнём. Зыход бітвы вырашыў удар у тыл кавалерыйскіх аддзелаў Адама Паўловіча і Самуля Камароўскага. Было знішчана амаль усё войска Крычэўскага, а сам ён, знойдзены цяжка параненым, памёр на трэці дзень у лагеры Радзівіла.

Прайшло некалькі дзён, і вынікам перамогі пад Лоевам стала мірная дамова ў Збораве. Паводле яе ўсё памежжа з Украінай кантралявалася войскамі ВКЛ.

У снежні Радзівіл склаў вялікую рэляцыю аб ваеннай кампаніі на поўдні Рэчы Паспалітай, атрымаў публічныя падзякі ад сенатараў, кінуў пад ногі каралю казацкія сцягі, здабытыя пад Лоевам, і паклапаціўся аб тым, каб гэтая перамога была ўвекавечана ў серыі палотнаў і габеленаў.

Вясной 1651 года польны гетман пачаў рыхтавацца да новага паходу супраць казакаў. У шэрагах яго войска стаяла 15 тысяч чалавек. Напрыканцы мая Хмяльніцкі накіраваў да Радзівіла пасольства на чале з палкоўнікам Падбайлам. Парламенцёры перадалі словы Хмяльніцкага аб тым, што казакі заўсёды з Літвой жылі ў сяброўстве і толькі да палякаў маюць рахункі. Радзівіл, хаця палякаў вельмі не любіў (у 1636 годзе, падчас Віленскага Сойму, падтрымліваючы бацьку, які сутыкнуўся з каронымі вяльможамі, крыкнуў, што «прыйдзе час, калі палякаў не цераз дзверы, але цераз вокны будзе выкідваць»), адказаў, што Літва і Польшча складаюць адну дзяржаву. І 6 ліпеня зноў атрымаў перамогу пад Лоевам. Усё адбылося настолькі хутка, што бакі нават не паспелі ўжыць агняпальную зброю. Раптоўнасць і імклівасць вырашылі зыход бітвы. Амаль уся казацкая старшына была перабітая. Трафеямі войска ВКЛ сталі 20 баявых казацкіх сцягоў.

У сярэдзіне ліпеня прыйшла вестка пра паражэнне Хмяльніцкага пад Берасцечкам. 8 жніўня войскі ВКЛ увайшлі ў Кіеў. 4 верасня пад Васількавам Радзівіл злучыўся з каронным войскам, каб даць новую генеральную бітву. Але не спатрэбілася; 29 верасня пад Белай Царквой была заключана новая мірная дамова.

Польны гетман знаходзіўся на вяршыні славы. Як вызваліцеля Кіева яго параўноўвалі з Баляславам Храбрым. На ўшанаванне той падзеі быў выбіты медаль з надпісам на лацінскай мове: «Табе, каралю Яну Казіміру, Радзівіл аддае ў рукі разбітыя муры Кіева і зброю бунтаўшчыкоў».

Нягледзячы на ўсе перамогі, драматызм становішча Рэчы Паспалітай заключаўся ў тым, што грамадзянская вайна ішла не толькі на палях бітваў. Адбылося мноства ўнутраных канфліктаў, якія адыгралі сваю ролю ў катастрафічных наступствах.

На Варшаўскім Сойме 1652 года, 26 лютага, князь рабіў справаздачу аб дзеяннях войскаў Рэчы Паспалітай падчас усёй кампаніі. Сойм быў скліканы з мэтай выдзялення сродкаў на правядзенне новай вайны з казакамі. Але замест гэтага галоўнае для краіны пытанне патанула ва ўнутрыпалітычнай барацьбе, якая на пачатку сакавіка з аголенымі шаблямі вылілася на вуліцы.

Падчас Берасцейскага Сойму 30 сакавіка 1653 года Радзівіл вымусіў караля аддаць яму найвышэйшую ў ВКЛ пасаду віленскага ваяводы (з гэтай нагоды быў выбіты медаль з выявай толькі што пабудаванага радзівілаўскага палаца і ганарлівым надпісам на лаціне: «Калі валадарыш і прыгожыя будуеш палацы, слушна твая Вільня шануе цябе як свайго палатына»). У верасні таго ж года кароннае войска на чале з Янам Казімірам у ходзе вайсковых аперацый ва Украіне было блакіравана ў крэпасці Жванец. Кароль загадаў польнаму гетману ісці на дапамогу, але той не здолеў гэтага зрабіць (ці не захацеў). У снежні да Жванца дайшлі весткі, што Земскі Сабор у Маскве вырашыў узяць Запарожскае войска пад апеку Маскоўскай дзяржавы. Гэта азначала аб'яўленне вайны Рэчы Паспалітай. Перад маскоўскай пагрозай Рэч Паспалітая і Турцыя прымірыліся. Хмяльніцкі ад'ехаў у Пераслаў, дзе 8 студзеня 1654 года аддаў Украіну пад уладу цара Аляксея Міхайлавіча. Кароль быў вельмі абураны паводзінамі польнага гетмана і толькі яго лічыў віноўным у няўдалым паходзе ва Украіну.

Тым не менш Радзівіл працягваў барацьбу за вялікае гетманства, што каштавала чарговага сарванага Сойму. У выніку толькі праз месяц, калі 80-тысячнае маскоўскае войска імкліва наступала, спусташаючы ВКЛ, кароль пад ціскам апазіцыі аддаў булаву. Тое, што Радзівіл варты быў яе, бачылі многія. Галоўнае супрацьдзеянне ішло з боку караля, які лічыў польнага гетмана зацятым сепаратыстам. Радзівіл абураўся тады, што ўсё робіцца «на зло ВКЛ...», і рыхтаваўся да вайны сам як мог. Яшчэ 16 лютага ён выдаў Універсал аб зборы войска, а казакам нагадаў, каб тыя

«ярма царскага, горшага ад няволі паганскай, на сябе не бралі».

Але польную булаву кароль прызначыў свайму надзейнаму прыхільніку Вінцэнту Гансеўскаму, а пры вялікім гетмане паставіў двух камісараў, якія мусілі кантраляваць яго кожны крок.

Вайна з Масквой, што пачалася 20 мая 1654 года, застала ВКЛ цалкам непадрыхтаваным. 1 чэрвеня капітуляваў Белы, 3-га — Дарагабуж, 25-га пачалася аблога Смаленска.

У ліпені 1654 года пад камандаваннем вялікага гетмана было сабрана каля 10 тысяч войска, але ў лагеры пад Оршай ён меў усяго каля 4 тысяч. У тых абставінах ён бачыў выйсце ў тым, каб нападаць на малыя групы войскаў праціўніка і дапамагаць абложаным крэпасцям. Аляксей Міхайлавіч, разумеючы небяспеку для сваіх тылоў, вырашыў ліквідаваць войскі, сканцэнтраваныя пад Оршай, і накіраваў 20 тысяч на чале з адным са сваіх лепшых палкаводцаў Якавам Чаркаскім, а з боку Мсціслава — яшчэ 15 тысяч Трубяцкога. Радзівіл вырашыў змагацца з тымі сіламі, што меў, толькі каб не дапусціць злучэння Чаркаскага з Трубяцкім, і 12 жніўня разбіў Чаркаскага пад Шкловам. Страты войска ВКЛ склалі 700 чалавек, у праціўніка — у разы больш. Але з-за слабасці сіл выкарыстаць перамогу належным чынам не ўдалося. З усходу цераз Дняпро ўжо перапраўлялася войска Трубяцкога, што «спазнілася толькі на гадзіну бітвы».

Пачаўся адыход на захад. Трубяцкі ішоў следам. Два дні былі страчаны з-за нездароўя князя, а маскоўцы тым часам пачалі адразаць шляхі да адступлення. На світанні 24 жніўня ў адкрытым полі пад Шапялевічамі стаялі 5 тысяч вялікага гетмана супраць 25 тысяч. Малы літоўскі фронт не мог доўга трымацца. Правы фланг Радзівіла хутка быў абыйдзены і пачаў адступаць. Каля пераправы цераз Друць маскоўцы асабліва зацята атакавалі Радзівіла, які вылучаўся сярод сваіх жаўнераў «у белым атласным жупане, на пярэстым кані». Князь быў паранены ў правую нагу і страціў каня.

З кастрычніка 1654 года капітуляваў Смаленск.

Разам з вайсковым шчасцем вялікага гетмана пакідала і здароўе — моцна пакутаваў ад болю ў суставах.

Усе, хто здолеў ацалець пасля паражэння пад Шапялевічамі, збіраліся ў лагеры вялікага гетмана ў наваколлі Менска. Пакрысе падыходзілі падмацаванні, у тым ліку і з Кароны, значныя сілы выставілі таксама сем'і Радзівілаў і Сапегаў — усяго прыблізна 15 тысяч.

На плечы князя лёг вялікі цяжар. Набліжаўся час аплаты наёмнаму войску, а дзяржаўны скарб быў пусты. Не хапала людзей, зброі, пораху — і ўсё гэта на фоне звадак з каралём і яго атачэннем.

Праціўнік адышоў з ВКЛ (эпідэмія чумы ў Масковіі і дэзарганізацыя тылу), пакінуўшы ў захопленых гарадах свае гарнізоны. Пад ціскам караля ў апошнія дні снежня 1654 года вялікі гетман пачаў зімовую кампанію, што зводзілася да аблогі ўмацаваных пунктаў, для чаго адсутнічалі адпаведныя сродкі.

Адразу ж войска ВКЛ спазнала вялікія страты не столькі ў баях, колькі ад маразоў, снегападаў, голаду і дэзерцірства. У тых умовах галоўнымі мэтамі вялікага гетмана сталі Шклоў і Магілёў, куды першыя літоўскія атрады прыбылі 13 лютага 1655 года.

Казакі наказнога гетмана Залатарэнкі як маглі перашкаджалі аблозе, робячы рэйды па тылах, знішчаючы населеныя пункты і гарнізоны. З надыходам вясны ўсё большая небяспека пагражала з боку маскоўскіх войскаў.

Адступленне пачалося 11 мая. Разумеючы, што ўтрымацца ў здабытых прыдняпроўскіх гарадах няма шанцаў, Радзівіл забраў гарнізоны з Копыся, Оршы і Дуброўны.

**Паміж двух ліхаў.**
**Хроніка трагедыі**

«Гаворка ідзе не пра славу, не пра Рэч Паспалітую, не пра волю і дабрабыт, але пра жыццё. З абодвух ліхаў меншае павінны абраць, з плачам развітваючыся з уласнай свабодай».

*Князь Януш Радзівіл.*
*1654 год.*

24 мая 1655 года маскоўскія войскі пачалі наступ. З ліпеня яны былі ўжо на подступах да Менска.

У той жа час скарыстаў зручны момант шведскі кароль Карл X Густаў. Яго 50-тысячная выдатна ўзброеная і навучаная армія хлынула моцным патокам на Карону і Вялікае Княства. Нездарма гэты перыяд нашай гісторыі атрымаў назву Патоп. Вялікі гетман «аддаў перавагу шведскай пратэкцыі перад маскоўскай тыраніяй». ВКЛ мусіла адарвацца ад Кароны, а шведскі кароль –стаць вялікім князем.

У жніўні маскоўскія войскі стаялі пад Вільняй. Князь разлічваў адвесці свае харугвы на Жамойць (сучасная Літоўская Рэспубліка), дзе можна было б чакаць дапамогі шведаў. Апошняй спробай пазбегнуць праліцця крыві быў ліст Радзівіла і Гансеўскага да цара з прапановай аб мірных перамовах, якая была адхілена, бо калі ВКЛ хоча міру, то няхай паддаецца «пад царскую руку».

Увечары 8 жніўня ў Вільню ўвайшлі казацкія атрады Зала-

тарэнкі. На наступны дзень пачаліся масавыя забойствы, рабаўніцтва і праявы вандалізму. Разбурэнні дапоўніў пажар, які лютаваў 17 дзён. Квітнеючы горад ператварыўся ў гурбу развалінаў...

Пад пахавальны гром маскоўскіх гарматаў атрады вялікага гетмана адступалі ў напрамку Жамойці на Кейданы.

18 жніўня ў Яшунах Радзівіл і яшчэ 435 прадстаўнікоў ВКЛ паставілі свае подпісы пад часовай дамовай аб уніі ВКЛ са Швецыяй.

24 жніўня царскі пасол Ліхараў прапанаваў князю перайсці на службу да Аляксея Міхайлавіча. Вялікі гетман адмовіўся, падкрэсліваючы, што «ў Віленскім павеце ратныя царскія людзі сялянаў, кабетаў і малых дзяцей сякуць усіх ды хаты паляць».

20 кастрычніка, пасля доўгіх і складаных перамоваў, у Кейданах быў заключаны Акт уніі ВКЛ са Швецыяй, але яшчэ 12 жніўня частка войска ВКЛ, дакладней, тое, што ад яго засталося, выйшла з-пад гетманскай улады, і 23 жніўня атрады, падначаленыя пераважна Гансеўскаму, стварылі ў Вербалаве (на прускай мяжы) канфедэрацыю на баку Яна Казіміра, які абʼявіў князя ворагам Айчыны.

Пры Радзівілу засталося каля тысячы наёмнікаў. Ён далучыўся да шведскіх атрадаў Магнуса дэ ла Гардзі, якія выступілі супраць канфедэратаў.

17 снежня яшчэ нядаўна самы магутны чалавек ВКЛ зачыніўся з невялікім атрадам у галоўнай крэпасці Падляшша — Тыкоцінскім замку, дзе быў абложаны войскамі Паўла Яна Сапегі — новага галоўнакамандуючага войскамі ВКЛ.

Пакутуючы ад страшэннага болю, духоўна прыгнечаны, усімі пакінуты, Радзівіл памёр ноччу з 30 на 31 снежня 1655 года.



Труна з парэшткамі Януша Радзівіла ў крыпце евангелісцка-рэфарматарскай царквы ў Кейданах.

Тыкоцін абараняўся яшчэ два гады.

Цела вялікага гетмана было вывезена і пахавана ў маёнтку Сялец пад Брэстам, а пасля вайны яго парэшткі ціха і таемна перапахавалі ў кальвініскцкім зборы ў Кейданах.

**Некаторыя рысы**

Януш IX Радзівіл герба «Трубы», з Божай ласкі князь на Біржах і Дубінках, граф на Невелі і Себежы, князь Свяшчэннай Рымскай імперыі, ваявода віленскі, гетман вялікі літоўскі, цівун рэтаўскі, староста казімерскі, камянецкі, мсціслаўскі, быстрыцкі, вількіцкі і інш., нарадзіўся 2 снежня 1612 года ў мястэчку Папелі Вількамірскага павета ў сямʼі віленскага ваяводы і вялікага гетмана літоўскага князя Крыштофа Радзівіла і Ганны з Кішак.

Януш — чацвёрты сын Крыштофа, у 1625–1628 гадах вучыўся ў Слуцкай гімназіі. Ва ўзросце 16 гадоў быў адпраўлены за мяжу працягваць вучобу і пабачыць свет. За пяць гадоў ён прайшоў навучанне ў Лейпцыгскім, Альтдорфскім і Лейдэнскім універсітэтах.

Напрыканцы 1632 года кароль Рэчы Паспалітай Уладзіслаў IV накіраваў яго з дыпламатычнай місіяй у Галандыю і Англію. Выдатна справіўся з абавязкамі і за гэта атрымаў пасаду, якая датуль заставалася вакантнай 60 гадоў, — падкаморага літоўскага.

Восенню 1633 года вярнуўся на радзіму, дзе з навербаванымі па даручэнні караля тысячай чалавек іншаземнай пяхоты, 200 драгунамі, а таксама пушкарамі і ваеннымі інжынерамі, так неабходнымі пад мурамі Смаленска, за які ішла чарговая вайна з Маскоўскай дзяржавай, прыняў камандаванне над пяхотай і гусарскімі харугвамі.

Пасля смерці бацькі ў верасні 1640 года стаў уладальнікам Біржаў, Кейданаў, Свядосці, Візуноў, Попеля, Яшуноў, Любіча, Дойлідаў, Заблудава, Орлі, северскага і быстрыцкага староставаў, магілёўскай эканоміі. Яго людзі зіхацелі ад золата. Былі апрануты ў аксаміт, шоўк, собалі, рысі, пурпур, вышываную золатам парчу, рубіны і дыяменты. Казакі яго ўласнага войска былі ў зялёным атласе і багатых панцырах, а харугва лёгкай кавалерыі — у пурпуры. Але ўсе яго багацці не маглі кампенсаваць той лад жыцця, які назаўсёды адбіўся ў памяці пакаленняў пры слове «Радзівілы».

19 красавіка 1646 года князь атрымаў з рук караля булаву польнага гетмана літоўскага і праз два гады пацвердзіў, што не дарэмна трымае яе ў руках. З таго часу ён стане ў цэнтры драматычных ключавых падзеяў і застанецца адной з самых супярэчлівых постацяў у нашай гісторыі.

Ева ЛЯВОНАВА

# «АНЁЛЫ Ў ПОШУКАХ ЦЯБЕ...»

## КАНЦЭПТ *«АНЁЛ»* У ПАЭЗІІ РАЙНЕРА МАРЫЯ РЫЛЬКЕ: СЕМАНТЫКА, ПАЭТЫКА, МАСТАЦКІ КАНТЭКСТ

Асабліва глыбока і шматстайна ўвасоблены анёларый у паэтычным цыкле Райнера Марыя Рыльке «Дуінскія элегіі» («Duineser Elegien»). Працу над імі Рыльке распачаў стагоддзе таму — у 1912 годзе, калі жыў у радавым замку аўстрыйскай княгіні Марыі фон Турн унд Таксіс Гогэнлоэ на беразе Міжземнага мора — Дуіно (адсюль назва цыкла). Затым, цягам дзесяці гадоў, Рыльке прыкладае намаганні, каб дарэшты рэалізаваць адну з самых запаветных сваіх творчых задумаў, але зрабіць гэта яму ўдаецца толькі ў 1922 годзе, гэтым разам — у замку Мюзот у Швейцарыі. Варта толькі ўдумацца, сведкам якіх катаклізмаў стаў Рыльке за гэты адмежак часу: мільёны жыццяў забрала Першая сусветная вайна, распалася на часткі радзіма паэта — некалі магутная Аўстра-Венгерская імперыя. Усе гэтыя падзеі ён — з яго ўражлівай натурай, з яго імкненнем жыць «напаўголаса» — перажываў надзвычай востра. У лісце да Марыны Цвятаевай ад 17 мая 1926 года Рыльке заўважыць, што працу над «Дуінскімі элегіямі» ён, маг-

*Заканчэнне. Пачатак у 2.*

**Ева Лявонава** — кандыдат філалагічных навук, прафесар кафедры замежнай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Крытык і навуковец. Працуе ў такіх галінах літаратуразнаўства, як германістыка, беларусістыка, кампаратывістыка, вывучае беларуска-замежныя літаратурна-культурныя сувязі. Апублікавала ў айчынным і замежным друку больш за 400 артыкулаў, навуковых і навукова-метадычных працаў, у тым ліку кнігі «Плыні і постаці: З гісторыі сусветнай літаратуры другой паловы ХІХ–ХХ стагоддзяў» (1998), «Беларуская літаратура ХХ ст. і еўрапейскі літаратурны вопыт» (2002), «Агульнае і адметнае: Творы беларускіх пісьменнікаў ХХ стагоддзя ў кантэксце сусветнай літаратуры» (2003), «Немецкая литература ХХ века: Германия. Австрия» (Москва: Флинта; Наука, 2010) і інш. Аўтар і сааўтар многіх вучэбных праграм, вучэбных дапаможнікаў і падручнікаў для выкладчыкаў-славеснікаў, студэнтаў і школьнікаў.

чыма, завяршыў бы яшчэ ў 1914 годзе, «калі б не велізарны разлом, які зрынуў мяне ў здранцвенне і немату... Ці ўдалося мне штосьці выратаваць у гэтай доўгай зіме душы, я і сам яшчэ не ведаў...» (цыт. па: 5, 331).

А можа, лёс і час «вялізнага белага ветразя Элегій», як назваў іх аўтар, вырашаліся не ім і не тут, на зямлі? Ва ўсякім выпадку, гісторыя «Дуінскіх элегій» падаецца дзіўнай і таямнічай. Захаваўся расповед самога Рыльке, паводле якога аднойчы ён выйшаў з замка Дуіно і, знаходзячыся на вышыні двухсот футаў над хвалямі Адрыятыкі, раптам адчуў, як скрозь шум буры да яго данёсся голас: «Хто ж бы з анёлаў, калі б закрычаў я, пачуў?». Ён адразу ж запісаў гэтыя словы (яны стануць пачаткам Першай элегіі), і міжвольна, без якіх бы то намаганняў з боку паэта, да іх дадалося яшчэ некалькі радкоў. Пасля Рыльке вярнуўся ў свой пакой, а ўвечары Першая элегія была завершана. І па сёння «Дуінскія элегіі» ўражваюць нечуванай моцай увасобленай у іх магутнай стыхіі чалавечых перажыванняў і пачуццяў, успрымаюцца як «падзея звышнатуральнай велічы» і «феномен вялікага натхнення», як творы, што пераўзыходзяць нашы традыцыйныя ўяўленні пра шэдэўры ўласна мастацкага слова і сягаюць «у сферу прафетычнай мовы» (5, 168,170). Асэнсаванне быцця ў іх настолькі ўсёабдымнае, што знікаюць звыклыя межы паміж трансцэндэнтным і іманентным, зямлёй і небам, жыццём і смерцю, а свет яўлены ў сваёй звышсветавай (надсветавай) рэальнасці (überweltliche Wirklichkeit). Невыпадкова вядомы аўстрыйскі празаік Роберт Музіль у сваёй «Прамове пра Рыльке» скажа: «Сферы быцця розных істотаў, размежаваныя звычайным мысленнем, нібы аб'ядноўваюцца ў адзіную сферу. Ніколі адно не параўноўваецца з чымсьці іншым, як дзве розныя і размежаваныя з'явы...калі ж дзе-небудзь у яго вершах такое і адбываецца, дык у той жа самы момант падасца, нібы спрадвеку яно было і тым і іншым адначасна» (13, 41). Нямецкі біёграф і даследчык творчасці Р.М. Рыльке Ганс Эган Хольтхузен падкрэсліць: «...Элегіі рухаюцца ў адкрытай прасторы велізарных сэнсавых абагульненняў» (5, 231).

У «Дуінскіх элегіях» (вернемся да выразу А.В. Карэльскага) «вышэйшая інстанцыя» прадстаўлена таксама, але, у адрозненне ад «Кнігі гадзін», прадстаўлена менавіта анёламі. Бог амаль не згадваецца, нібы ў дадзеным выпадку функцыю апекавання і ўмацавання чалавека Ён цалкам усклаў на сваіх верных пасланцоў. Апроч жанравай прыналежнасці, «Дуінскія элегіі» адрозныя ад «Кнігі гадзін» адчувальна меншай спантаннасцю перажыванняў і пачуццяў, пры тым што па каласальнай духоўнай і псіхалагічнай напружанасці, па складанасці структуры мыслення, па энергіі рэфлексій яны не толькі не саступаюць «Кнізе гадзін», а нават яе пераўзыходзяць; гэта з першага ж радка адчуваецца амаль фізічна. У іншым ракурсе паўстае тут і двухадзінства «чалавек — анёл», акцэнт зараз ставіцца менавіта на першым складніку — на чалавеку, на яго духоўным пошуку; адпаведна не анёлы паказаны ў сваіх рэакцыях на чалавека, у стасунках з ім, а чалавек — у спробах такіх стасункаў. Прычым спробы гэтыя адпачаткава марныя, што ясна ўсведамляецца лірычным героем і надае яго становішчу, яго жыццеўспрыманню свайго роду трагічны стаіцызм.

Што паказальна, як і ў «Кнізе гадзін», лірычны герой Рыльке — пры ўсёй фенаменальнай паглыбленасці ў свой унутраны свет — не забываецца на свет навакольны, не звужае яго да ўласнай асобы, у ім — не толькі з нябёсамі, але і з паднебнай прасторай — шукае суперажывання і водгуку на свой боль.

У атмасферу трагізму акунае чытача ўжо «Першая элегія», лірычны герой якой не знаходзіць жаданага водгуку на свае звернутыя да анёлаў ціхія і гучныя скаргі. Ні мінулае, ні цяперашчына, ні каханне, ні «прырода стомленая» не ў стане абараніць чалавека, якому няўтульна «ў свеце тлумачаным жыць». Не чакаючы дапамогі і суцяшэння ні ад анёлаў, ні ад людзей («Анёлы — не, людзі — не!»), ён сунімае «парывы свае», свой «покліч жахлівага плачу».

Аднак ужо ў «Першай элегіі» экзістэнцыяльная разгубленасць перад непазбежнасцю і неспасцігальнасцю смерці («Дзіўна — зямлю назаўсёды пакінуць, не марыць») змяняецца разуменнем таго, што смерць — гэта толькі пярэйсце ў іншаіснаванне: «Памыляюцца толькі // жывыя, калі яны вельмі выразна, дакладна // смерць ад жыцця адасобіць спрабуюць». І зноў пагляд лірычнага героя скіроўваецца на анёлаў, якія, у адрозненне ад людзей, не робяць кардынальнага размежавання паміж жывымі і памерлымі: «Кажуць, анёлы часам і самі не знаюць, // ці да жывых, ці да мёртвых прыходзяць яны». Бо, як істоты, найбліжэйшыя да Бога, яны пасвечаны ў таямніцу ісціны і ведаюць: «Вечная плынь абмывае абодва царствы // і паглынае ў абодвух усе пакаленні»; тут-быццём (Hiersein) не завяршаецца «рух», фізічнай смерці супрацьстаіць вечнасць, «як страла // супрацьстаіць цецціве... // раптам адпушчаная, яна робіцца нечым // большым, чым ёсць яна, бо ёй супыну няма». Большасць жа людзей не ў стане «вечнасць нутром адчуваць», адсюль — скрушная канстатацыя: «Мы не патрэбны анёлам, адорвені прахлыя // ад маладога жыцця» (9, 71–72).

Менавіта чалавек — перад тварам анёла — ёсць канстантным клопатам паэта, што пацвярджаюць і наступныя творы цыкла. У «Другой элегіі» Рыльке вуснамі свайго лірычнага героя звяртаецца да «закаханых, шчаслівых у шчырай любові», тых, «хто жыве ў захапленні другога, пакуль // не задаволіць палкіх жаданняў пакорай» (9, 75); у «Трэцяй элегіі» — да маці, якая, даючы жыццё, адначасна дае і смерць і якая ад самага пачатку не ў стане пазбавіць дзіця ад цёмных інстынктаў, ад «бунту ўначы», ад «вінаватага бога рачнога ў крыві» (9, 76); у «Пятай элегіі», напісанай, як вядома, паводле матываў славутай карціны Пабла Пікаса, — да вандроўных акрабатаў, якіх злая і свавольная доля «гоніць, круціць, трасе, нагінае, // кідае ўгору, хапае» і для якіх «падасланы пад ногі старэнькі дыван» — нешта накшталт «мяккай латкі ў сусвеце» (9, 81). У лёсе апошніх пазнаецца

незайздросны лёс усякага чалавека, якога напрыканцы зямнога існавання непазбежна чакае «мадыстка madam Lamort» (9, 84; франц. спадарыня Смерць). За натужнай усмешкай хаваюць акторы-блуканцы слёзы і знямогу, і лірычны герой просіць для іх у анёла спагады і спачування:

*Анёле!*
*Сарві гэту ўсмешку, як каліўца з кветкай,*
*і апусці яе ў вазу разам з усімі*
*радасцямі, не спазнанымі намі* ***дагэтуль***,
*і ўвекавеч іх...* (9, 83).

У нейкі момант думка паэта ад вандроўцаў-акрабатаў сягае да ўжо знаёмых нам закаханых, лішні раз пераконваючы чытача ў абгрунтаванасці аналогій паміж канкрэтнымі героямі элегіі і людзьмі з усёй драмай іх зямнога існавання, яго хуткаплыннасцю, няўстойлівасцю «ў гэтым цяжка здабытым Нідзе», з трагічным усведамленнем «паражнечы надмернасці», выратоўным правадніком у якой можа быць толькі анёл:

*Анёле! Пакажы тое месца, яшчэ не вядомае нам,*
*дзе закаханыя, стаўшы на дыване небывалым,*
*паказалі б нам тое, чаго*
*тут паказаць не могуць, – бясстрашнасць*
*фігур і палёту іх сэрцаў,*
*вежы прынадных уцех і драбіны, адна на адну*
*абапёртыя там, дзе няма ім апоры, –*
*тут бы* ***адважыліся*** *сярод тлуму*
*знямоглых, маўклівых нябожчыкаў-гледачоў, –*
*ці кінулі б гэтыя мёртвыя людзі*
*свае дбайна сабраныя,*
*пільна, ашчадна хаваныя,*
*вечна патрэбныя, вечна апошнія*
*грошыкі шчасця вось гэтай*
*усмешлівай пары*
*на іх прыціхлы*
*дыван?* (9, 84–85).

Анёлы нязменна прысутныя ў спробах аўтара зразумець сутнасць чалавека, спасцігнуць прынцып суаднесенасці ў ім уласна чалавечага і анёльскага. Якім ёсць наканаванне чалавека не толькі на зямлі, але і ў сусвеце? Ці не мае сусвет, у якім усе мы рана ці позна раствараемся, і «нашага прысмаку»? Куды знікаюць нашы ўсмешкі, нашы «палкага сэрца парывы»? Няўжо наша, «Наша» гіне бясследна, «як з лісця раса», і марныя ўсе намаганні «знайсці нам маленькае чыстае поле // чыста людскога, шнурочак зямелькі ўрадлівай // паміж патокам і скаламі»? Ці мажліва, каб хоць часцінка чалавечай існасці палягала і ў анёльскай істоце? Гэтыя пытанні асабліва выразна пастаўлены Рыльке ў «Другой элегіі»:

*Можа, анёлы ўспрымаюць толькі сваё,*
*тое, што выпраменьваюць самі, а можа,*
*ім дастаюцца часцінкі ад сутнасці нашай?*
*Можа, упісаны мы*
*ў рысы іх так, як няпэўнасць — хай нават не часта —*
*ўпісана ў рысы аблічча цяжарнай жанчыны?*
*У пастаянным вяртанні ў сябе яны могуць*
*гэтага нават не бачыць. (Хоць бачыць павінны.)*
(9, 74).

З новай варыяцыяй пытання аб сутнасці чалавека чытач мае справу ў «Чацвёртай элегіі» Райнера Марыя Рыльке. Хто або што ёсць чалавек — анёл або лялька? Вобраз лялькі быў падказаны паэту, як небеспадстаўна мяркуюць даследчыкі, працай «Пра тэатр марыянетак» знанага нямецкага рамантыка Генрыха фон Клейста; зрэшты, яна і па сённяшні не страціла свайго ўплыву на аўстрыйскіх мастакоў слова; назавём, да прыкладу, аднаго з самых значных сучасных пісьменнікаў Аўстрыі Петэра Хандке (20). Драма чалавечай дваістасці, страты асобай сваёй унутранай цэласнасці, паводле Рыльке, невырашальная: мы «раз’яднаны», бо і ў празе прастораў вольных помнім пра межы, бо глыбіні пачуццяў для нас недасяжныя — мы ў стане бачыць «толькі абалонку фармавання», бо ў кожным з нас — і «цацка», і анёл:

*...І я чакаю*
*на лялечным памосце дзеі...*
*Не, не чакаю – прагну ўбачыць,*
*бо, каб увагу пільную спатоліць,*
*між лялек выйдзе неўзабаве сам*
*анёл і выступіць жывым акторам.*
*Відовішча! – анёл і лялька разам!*
*Тады і ўключыць, можа, ён усё,*
*што разлучае нас, у кругаверць*
*надзей і змен і падначаліць там*
*сабе ўсе поры года – і анёл*
*пачне ігру сваю паказваць нам* (9, 80).

Адсутнасць у чалавеку ўнутранай цэласнасці — рэч трагічная, але ж, з іншага боку, наяўнасць у ім і анёльскага пачатку абнадзейвае; можа, дзякуючы гэтаму чалавек «у сваім самотным руху» знойдзе мэту і сэнс, выявіць у сабе здатнасць да «ўчынкаў больш высокіх»?

Відавочна (і гэта канцэптуальна важна ўсведамляць), палітра настрояў і перажыванняў у «Дуінскіх элегіях» не вычэрпваецца адно расчараваннем у чалавеку і яго сапраўдных памкненнях. Лірычны герой той жа цытаванай вышэй «Чацвёртай элегіі» нагадвае старажытнага стоіка; нават усведамляючы, што чалавечае існаванне — толькі «спектакль», які мусіць быць завершаны, а пасля «на сцэну / пустэча выйдзе шэрым скразняком», і што ў самотным прадчуванні канца не дапамогуць ні «нямыя прашчуры», ні жывыя блізкія, ён тым не менш выбірае жыццё: «Я тут, я перад сцэнай», «...я застаюся на спектаклі, тут» (9, 79).

Асаблівым напалам пачуццяў адметная «Сёмая элегія», у якой пададзены такі характэрны для Рыльке вобраз «суцэльнага сэрца, якое цела // ў неба душэўнае ўзносіць», – эмблематычнае ўвасабленне адзінства духоўнага і цялеснага, анёльскага і першароднага, нябеснага і зямнога. Такое сэрца не даецца чалавеку адпачаткава; трэба прайсці «ўгору прыступкамі», трэба расці і спеліць у сабе разуменне каштоўнасці і непаўторнасці кожнага імгнення жыцця, кожнага золку і кожнага вечара, і «лугоў на змярканні», і «сну набліжэння», перш чым прыйдзе радаснае азарэнне, што «няма тут месца, // дзе не гучала б

прадвесце любві», што шукаць свет трэба перадусім у сабе, «у каханні стваральным», што ў кожнай «зямной рэчы» трэба бачыць «бясконцую безліч рэчаў». Толькі так можна падрыхтаваць сябе да жыцця іншага, вечнага. Апафеозам гэтаму новаму светаадчуванню, гімнам зямному існаванню гучаць узнёслыя словы: «Жыць на зямлі — гэта велічна!». (У «Дзявятай элегіі» яны знойдуць свой працяг: «Зямля, я люблю цябе».)

Ключавым словам «Сёмай элегіі» з'яўляецца, бадай, слова «ператварэнне» (Verwandlung). Семантыка яго адпаведная новаму, здабытаму на «цяжкім шляху пазнання» жыццеўспрыманню: ператварэнне — гэта духоўнае развіццё, стварэнне ў сабе «сховішчаў моцы», узвядзенне ва ўласнай душы «гонкага з калонамі храма», які зможа выстаяць і вытрываць «у цэнтры знішчальнага лёсу», сярод жорсткіх падзей і людской абыякавасці, дазволіць прыгарнуць «да сябе зоркі з бяспечнага неба».

*Ператварэнне — вось наша няспыннасць жыцця...*
*...Сховішчы моцы будуе сабе дух часу*
*бясформнаю сілай, якую ён чэрпае скрозь.*
*...Мы, спажываючы сэрца,*
*нешта ашчадна збіраем. І кожная рэч,*
*намі здабытая просьбамі, мольбамі, прагне*
*цалкам з Нябачным самкнуцца. А большасць падзей*
*гэтага бачыць не могуць, не могуць яны*
*гонкі з калонамі храм збудаваць **у сабе*** (9, 88).

Авалодаўшы горкім веданнем, лірычны герой Рыльке набывае і неверагодную ўнутраную свабоду, якую, нарэшце, можа дазволіць сабе нават у зносінах з анёламі. Стрымана-годна звяртаецца ён да анёла з заклікам да сузірання «велічнага храма» — цудоўнага плёну творчых здзяйсненняў чалавека:

*...Анёле, **табе***
***тут** гэта я пакажу. У паглядзе тваім*
*хай ратаванаю стройнасцю ён узнясецца.*
*Сцены, калоны, упоры, аркады і сфінкс*
*у заняпалым паселішчы – велічны храм.*

*Хіба ж не цуд? І яго – мы зрабілі, анёле.*
*Вызнай, вялікі, што здольныя мы на такое –*
*і на хвалу мне дыхання не хопіць. Не марна,*
*значыць, імкнёмся ў прасторы, у **нашы** прасторы...*
*Вежа высокая, праўда, анёле? І нават*
*у параўнанні з табою высокай была...* (9, 89).

«Велічны храм», «вежа высокая» — тут сімвалы не так фізічных, як духоўных магчымасцяў чалавека, сведчанні яго мудрасці, яго «ўзыходжання», знакі прарыву са сферы будзённа-побытавай у сферу высока-быційную. Невыпадкова апісанне «велічнага храма» месціць у сабе мінімум прадметных атрыбутаў, прычым суцэльна абстрагаваных (які ж храм не мае сцен, калон, аркадаў), а «вежа высокая» наогул пазбаўлена якой бы то ні было прадметнасці і паўстае выключна ў вымярэнні «чыстай ідэі».

Тым не менш той жа «велічны храм» (няхай і з мінімальнай прадметнай атрыбутыкай) і іншыя падобныя да яго вобразы варта разглядаць у ракурсе «новай рэчавасці» (14, 122–138) — філасофска-эстэтычнай канцэпцыі Рыльке, якая патэнцыяльна адчувалася ўжо ў «Кнізе гадзін», але асабліва выразна была ўвасоблена ў паэтычных зборніках «Новыя вершы» (1907) і «Новых вершаў другая частка» (1908). Паводле гэтай канцэпцыі, рэч (Ding) — гэта не толькі ўласна прадмет з яго знешняй фактурай, не толькі рэч нерухомая (храм, акно, партал і інш.), не толькі прадстаўнік флоры (ружа) або фаўны (пантэра, газель, лебедзь), але і чалавек, з'ява прыроды, твор мастацтва, мастацкі вобраз і сам яго стваральнік. У рэчах чалавек рэалізуе свой духоўны патэнцыял, і праз іх паэтычнае ўвасабленне гэтая духоўнасць спасцігаецца сучаснікамі і наступнікамі. Клапоцячыся аб зберажэнні рэчы ў яе сутнасцях, як эмпірычных, так і фенаменальных, паэт зберагае само жыццё ў яго сапраўдным святле, гарантуе чалавеку яго пасмяротны працяг, непарыўнасць быцця. «Першапачаткова рэч акрэслена, — выкладае сваю канцэпцыю Р.М. Рыльке. — Рэч, створаная мастацтвам, павінна быць яшчэ больш акрэсленай; вызваленая ад усіх выпадковасцяў, пазбаўленая ўсякай няяснасці, выключаная з часу і аддадзеная прасторы, такая рэч становіцца нятленнай, здольнай да вечнасці. Прадмет, які служыць мадэллю, здаецца, — рэч, створаная мастацтвам, ёсць. Такім чынам, адно пераступае праз іншае, выходзіць за яго безыменныя межы, становіцца нарастаючым і спакойным здзяйсненнем таго жадання быць, якое зыходзіць ад усяго, што ёсць у прыродзе» (15, 479).

Рэч у такім яе разуменні нясе ў сабе не толькі «чалавечую», але і «боскую» сутнасць; значыць, ні Бог, ні анёлы не могуць быць да яе абыякавымі. Да ролі рэчы ў існаванні чалавека і свету філасофская і эстэтычная думка звярталася задоўга да Рыльке. Уражвае, напрыклад, кніга шведскага вучонага-містыка Эмануэля Сведэнборга «Ісцінная хрысціянская рэлігія», адзін з раздзелаў якой прысвечаны нямецкаму багаслову, паплечніку Лютэра, Філіпу Меланхтону. Асабліва паказальны ў святле нашай тэмы 797-ы эпізод з гэтага раздзела: Сведэнборг распавядае, што Філіп Меланхтон, апынуўшыся ў духоўным (пасмяротным, патойбочным) свеце, быў забяспечаны пакоем, падобным да таго, у якім жыў і працаваў на гэтым свеце, і ўсе рэчы ў яго пакоі нагадвалі цалкам рэальныя, ранейшыя, — стол, канторка з шуфлядамі, шафа з кнігамі. Абудзіўшыся, ён сеў да стала і пачаў пісаць, як звычайна, сваё апраўданне толькі вераю; робячы гэта цягам некалькіх дзён, ён так і не напісаў ніводнага слова пра міласэрнасць. Гэта было заўважана анёламі, і яны паслалі вешчуноў запытацца: чаму ён нічога не напісаў пра міласэрнасць? Меланхтон адказаў, што ў міласэрнасці няма нічога ад Царквы, бо калі б міласэрнасць успрымалася як надзённая для яе, чалавек прыпісваў бы сабе заслугі апраўдання і выратавання і адмаўляў бы духоўную сутнасць веры. Пачуўшы гэта, анёлы адмовіліся ад стасункаў з навапрышэльцам і адступіліся ад яго. А ў хуткім часе і рэчы, якімі ён карыстаўся ў сваім пакоі, пачалі блякнуць і знікаць...» (гл.: 16).

Цяжка сказаць, ці ведаў Райнер Марыя Рыльке гэтую працу Сведэнборга (цалкам мажліва, што ведаў). У кожным разе, хто-хто, а ён, безумоўна, змог бы па вартасці ацаніць не толькі ўсведамленне веры як міласэрнасці і выратавальнай каштоўнасці апошняй, але і стаўленне да рэчы як анёлавай узнагароды за міласэрнасць і любоў. Яскравым пацвярджэннем гэтай думкі можа служыць «Дзявятая элегія», лірычны герой якой горача апякуе перад анёлам чалавечую веліч, спасылаючыся — у якасці яе доказаў — перадусім на зямныя рэчы:

*Хочам Зямнымі быць.*
*Каму перадаць гэта потым?*
*Лепш захаваць назаўсёды сабе... На той свет*
*што з сабой возьмеш? Не возьмеш Убачанасць,*
*добра спазнаную тут, і мінулых падзей.*
*Значыць, адны толькі болі, спазнаныя лепш,*
*і даўгачасны свой вопыт кахання. І ўсё...*
*Толькі ўсяго,* ***невымоўнае*** *толькі.*
*Што з гэтым зробіш*
*там, сярод зорак? А зоркі найбольш невымоўныя...*
*...Мы, пэўна, жывём*
***тут****, каб казаць чыста: «дрэва, дом, студня, акно».*
*Самае большае: «вежа, калона».* ***Казаць.***
*О, так казаць, каб падказваць сутнасць, схаваную*
*ў рэчах, самім гэтым рэчам...*

*...Свет услаўляй перад анёлам, не свет невымоўны...*
*Бо ў тым сусвеце, дзе адчуваюць пачуцці,*
*ты – немаўля. Лепш раскажы там анёлу*
*простае нешта...*
*...Выкажы рэчы яму.*
*І ён здзіўлена стане...* (9, 93–94).

Вернемся, аднак, да «Сёмай элегіі», у якой асабліва выразна — у параўнанні з папярэднімі элегіямі цыкла — выявілася парадаксальная сітуацыя: з аднаго боку, адзіным сведкам, адзіным сузіральнікам сваіх намаганняў, думак, учынкаў лірычны герой Рыльке згодны мець толькі анёлаў; з іншага боку, ён ясна ўсведамляе іх недасягальнасць для чалавека, прынамсі — у часе яго зямнога існавання:

***...Не думай,***
*быццам, анёле, я клічу цябе! Ты ж не прыйдзеш...*
*не, ты не пойдзеш...*

Гэтым жа ясным усведамленнем экзістэнцыяльнага адзіноцтва чалавека абумоўлены і змест заключнай, «Дзясятай элегіі», пра якую Рыльке пісаў гаспадыні замка Дуіно: «Ад гэтай апошняй вялікай (што ўзыходзіць да таго, распачатага яшчэ некалі ў Дуіно зачыну: „Хай бы хоць раз на зыходзе жорсткага знання славу запеў я і радасць анёлам зычлівым...“), ад гэтай апошняй, што ўжо тады мыслілася як а п о ш н я я — ад гэтай — у мяне ўсё яшчэ дрыжыць рука!» (5, 229). Тут тая ж бязмежная прага суцяшэння для «парванай душы», бязмернае жаданне спачувальнага водгуку «анёлаў зычлівых» (zustimmenden Engeln) («Хай бы хоць раз на зыходзе жорсткага знання // славу запеў я і радасць анёлам зычлівым». — 9, 96), і тое ж цвярозае веданне пакінутасці чалавека ў яго пакутлівым узыходжанні на сваю «Пра-мукі гару» (якая, найверагодней, ёсць сугестыўнай адсылкай да Хрыстовай Галгофы). Ды і ці заслугоўвае чалавек анёлавай спагады і зычлівасці? І што рабіць анёлу на гэтым «Рынку Уцех» (Trostmarkt), на вечным кірмашы, дзе ўсё прадаецца і купляецца, дзе няма нічога святога, дзе спраўляюць баль «батлейкі, вярцепы», а адзіная цікавая для чалавека навука — гэта навука множыць грошы? «О, як стаптаў бы анёл іхні Рынак Уцех...» І — ніякіх патрабаванняў, ніякіх папрокаў і дакораў у адрас анёлаў не прагучыць ні ў гэтай апошняй элегіі, ні ў цыкле наогул, нават з вуснаў тых, хто ў «Краіне Пакут» (Leidland), сярод «Дрэваў слёз» і «Палеткаў Журбы», шукаеззяючую «радасці крыніцу», на «беразе бездані» прагне «ўзнёсласці ў долі».

І вось тут, бадай, самы час задумацца, як жа ў такім выпадку разумець самыя славутыя з цыкла элегій словы Рыльке: «Ein jeder Engel ist schrecklich» («Кожны анёл жахлівы»; іншыя значэнні нямецкага прыметніка *schrecklich* — грозны, вусцішны, жудасны, страшны). Яны гучаць у сёмым радку першай страфы «Першай элегіі» і імі ж распачынаецца «Другая элегія». Прынцыпова важна, што ў арыгінале фраза застаецца амаль нязменнай (у другім выпадку губляецца артыкль). Перакладчыкі ж нярэдка могуць адыходзіць ад аўтарскай волі, хаця, разумеючы асаблівае значэнне гэтых словаў Рыльке, звычайна ашчаджаюць іх, імкнуцца зберагчы іх сэнс у сваіх перастварэннях. Так, у В. Сёмухі ў першым выпадку чытаем: «Вусцішны кожны анёл і жахліва прыгожы» (9, 70), у другім — «Кожны анёл — жахлівы» (9, 73).

У кантэксце не толькі «Дуінскіх элегій», але і наогул творчасці (і жыцця!) Рыльке канстатацыя «Кожны анёл жахлівы» сапраўды, на першы погляд, можа падацца абсурднай. Мусіць, паэт сам гэта адчуваў, а таму і спяшаўся патлумачыць свайго анёла, у прыватнасці — у лісце да В. Гулевіча ад 13 лістапада 1925 года: «Анёл Элегій — гэта тая істота, у якой ператварэнне бачнага ў нябачнае, над чым мы працуем, ужо цалкам здзейснена. Для Анёла Элегій вежы і палацы, якія канулі ў вечнасць, існуюць, т а м у ш т о даўно нябачныя, а яшчэ існуючыя вежы і масты нашага быцця — у ж о нябачныя, хаця фізічна яны яшчэ доўжацца. Анёл Элегій — гэта істота, гатовая паручыцца, што ў нябачным месціцца вышэйшы слой рэальнасці. — Таму і „жахлівы“ ён для нас, што мы, хто любіць і ператварае, усё яшчэ залежым ад бачнага» (цыт. па: 5, 237). Але гэтае аўтарскае сведчанне, як і ўсё ў Рыльке, таксама ў пэўным сэнсе паэзія; своеасаблівая філасофская парафраза элегій, яна вымагае тлумачэння ці не менш за самі элегіі. Гэтаксама філасофскае бачанне рылькеўскага анёла прапанаваў у адным са сваіх зномаў і беларускі паэт Алесь Разанаў, чыя творчасць па многіх параметрах судакранаецца з творчасцю аўстрыйскага мастака слова:

«Адлегласць — гэта тое, што аддзяляе чалавека ад рэчаіснасці і адначасова лучыць яго з ёю.

У ёй — і ёю — зберагаецца мера, дзякуючы якой рэчаіснасць мае самую сябе, а чалавек самім сабой ёсць.

Калі яна парушаецца, тады рэчы мяняюць аблічча і «кожны анёл жахлівы», як некалі ў Р. М. Рыльке» (17, 81).

На наш погляд, заслугоўваюць увагі словы айца С. Булгакава, які — безадносна да мастацкай літаратуры — у свой час пісаў: «Анёл-ахоўнік, жыхар горняга бесцялеснага свету, не мае непасрэднага доступу да нашага рэчаўнага свету, да нашай плоцевай існасці. Вядома, ён мог бы ўскалануць яго або нават разбурыць гэтую нашу тленную існасць страшным яўленнем сваім (адкуль і вынікае яшчэ старазапаветны **жах перад яўленнем анёла: нельга ўбачыць яго твар у твар і не памерці** (вылучана намі. — Е.Л.). Але на гэта патрэбная прамая воля Боская...» (цыт. па: 18, 374). Іначай кажучы, чалавек настолькі аддалены ад Бога, настолькі слабы і хісткі, што адзін толькі позірк на анёлаў — істот дасканалых, асляпляльна чыстых і прыгожых — можа зрынуць яго ў небыццё. Думаецца, анёл Рыльке цалкам можа быць вытлумачаны менавіта ў гэтым ракурсе, асабліва калі прыняць пад увагу не толькі зачын, але першую страфу «Другой элегіі» цалкам:

*Кожны анёл — жахлівы. І ўсё-такі — гора мне! —*
*Вас апяваю, амаль што загубныя птушкі душы,*
*Знаючы вас. Куды ж дзеліся Товія дні —*
*Калі Прамяністы стаяў на парозе пакуты,*
*нібы вандроўнік, адзеты ў дарогу, не страшны...*
*...О, каб цяпер той архангел, што там, за свяціламі,*
*Грозна наблізіўся хоць на імгненне да нас,*
*Сэрца разбілася б наша адразу...* (9, 73).

«Сэрца разбілася б» — таму што «Товія (Товій — біблейскі персанаж, якога наведаў анёл. — Е.Л.) дні» прамінулі, чалавек маральна здрабнеў і амаль згас («...мы ад успышкі да ўспышкі // тлеем слабей і слабей»).

Блізкія да такога бачання анёлаў рылькеўскіх элегій і некаторыя іх даследчыкі, напрыклад — А.В. Карэльскі: «...анёлы» і насамрэч неартадаксальныя: да іх звяртаюцца за паратункам, але яны наўрад ці чуюць; а калі і пачуюць, калі і пашкадуюць — чалавек не ў сілах перанесці іх спачуванне, бо чалавек і анёлы — несуразмерныя. Чалавек малы і ўбогі, а анёлы недасяжныя ў сваёй веліччы. Яны — знакі, сімвалы духоўнай дасканаласці; але само сузіранне іх толькі яшчэ больш паказвае чалавеку глыбіню яго ўласнай недасканаласці. Адсюль і гэты страшны парадокс, які жалобным уступным акордам пачынае свет «Элегій»: «Кожны анёл жахлівы» (12, 274–275).

Нярэдка, намагаючыся пранікнуць у семантыку анёларыя элегій Рыльке, згадваюць падарожжы паэта ў Паўночную Афрыку і Іспанію (1910–1913), у час якіх ён зацікавіўся ісламам, што пазней магло адбіцца і на вобразах анёлаў. І ўсё ж галоўнае, думаецца, у іншым: анёлы Рыльке — гэта перадусім анёлы паэзіі, геніяльнай паэзіі, і таму — невычарпальныя ў сваіх зместавых адценнях, часам слізготных, трапяткіх, ледзь заўважных, адкрытых адно аднаму і — чытачу, удумліваму, міласэрнаму, шчыраму, здольнаму на суперажыванне і суразуменне. Мела рацыю расійская паэтка і перакладчыца Рыльке Вольга Седакова, гаворачы пра недапушчальнасць стаўлення да анёлаў Рыльке як да адназначных, «гатовых і прамінулых» (19).

## Літаратура


1. Цветаева М. Новогоднее. – Электронный ресурс. Режим доступа: www.stihi-xix-xx-vekov.ru/cvetaeva-poems6.html. Дата доступа: 18.01.2013.
2. Гандельсман В. Поэзия как религия // Иностранная литература. 2006. 2.
3. Иванов Вяч. Родное и вселенское. – Москва, 1994.
4. Рильке Р.М. Письма к молодому поэту. – Электронный ресурс. Режим доступа: www.stihi.ru/ 2006/02/11–437. Дата доступа: 18.01.2013.
5. Хольтхузен Г.Э. Райнер Мария Рильке, сам свидетельствующий о себе и о своей жизни (с приложением фотодокументов и иллюстраций) / Пер. с нем. – Челябинск, 1998.
6. Braun F. Aus einer Traurrede // Holthusen H.E. Reiner Maria Rilke. – Hamburg, 1998.
7. Свасьян К. Голоса безмолвия. – Ереван, 1984.
8. Урок Целана: С Ольгой Седаковой беседует Антон Нестеров // Контекст 9. 1999. 4. – Электронный ресурс. Режим доступа: omiliya.org/article/urok- tselana.html. Дата доступа: 12.03.2012.
9. Рыльке Р.М. Санеты Арфею: Лірыка / Пер. з ням. В. Сёмухі. – Мінск, 1982.
10. Рильке Р.М. Книга образов. – Санкт-Петербург, 1999.
11. Рыльке Р.М. Кніга гадзін / Пер. з ням. В. Сёмухі. – Мінск, 2005.
12. Карельский А. От героя к человеку: Два века западноевропейской литературы. – Москва, 1990.
13. Музиль Р. Речь о Рильке / Пер. с нем. А. Белобратова // Нева. 1997. 6.
14. Падрабязней пра гэта гл. у нашай кнізе: Леонова Е.А. Немецкая литература XX века: Германия. Австрия. – Москва, 2010.
15. Рильке Р.М. Письмо к Лу Андреас-Саломе // Р.М. Рильке. Собр. соч. в 3 т. Т. 3. – Харьков; Москва, 1999.
16. Сведенборг Э. Истинная христианская религия / Пер. с англ. – Электронный ресурс. Режим доступа: lib.guru.ua/HRISTIAN/SWEDENBORG/ tcr.txt. Время доступа: 18.01.2013.
17. Разанаў А. Сума немагчымасцяў: Зномы. – Мінск, 2009.
18. Лосский Н.О. Бог и мировое зло. — Москва, 1999.
19. Новая лирика Р.М. Рильке: Семь рассуждений (Ольга Седакова). – Электронный ресурс. Режим доступа: omiliya.org/article/novaya-lirika-rm-rilke-sem-rassuzhdenii-olga-sedakova.html. Дата доступа: 12.03.2012.
20. Петэр Хандке, дарэчы, спрычыніўся да напісання сцэнарыя культавай кінастужкі свайго суайчынніка і даўняга сааўтара Віма Вендэрса «Неба над Берлінам» («Der Himmel über Berlin», 1987), на стварэнне якой апошняга натхнілі перадусім «Дуінскія элегіі» Рыльке. Паміж імі і фільмам шмат перазоваў, але найперш гэта вобразы анёлаў, ахопленых болем за людзей, спагадай да іх і адначасна – жаданнем спазнаць чалавечыя жарсці, пакуты, каханне. Ужо пасля падзення Берлінскай сцяны, у 1993 г., Вендэрс зняў працяг «Неба над Берлінам» – такую ж кранальную і глыбокую філасофска-лірычную драму «Гэтак далёка, гэтак блізка!» («In weiter Ferne, so nah!»), дзе таксама дзейнічаюць нябесныя пасланцы.

*О, Маці Божая, што ў слаўнай Вострай Браме,*
*як зорка ясная нам свеціш заўсягды...*

Кс. Андрэй Зязюля



Маці Божая Вастрабрамская. Хромалітаграфія. 1850 г.

Святлена Немагай

# Юзаф Дашчынскі і яго Вастрабрамская літанія

Вільня. Вострая Брама...

Кропка адліку пуцявінаў жыцця. Пачатак і канец шляху. Адсюль для беларусаў адкрываецца Вільня. Адсюль вядзе простая дарога з Вільні ў Беларусь.

Вострая Брама — святое для нас месца. Два яе бакі-абліччы месцяць два наймагутнейшыя сімвалы беларускай свядомасці, замацаваныя вякамі і на вякі, бы карэнне старажытнага дрэва.

Вонкавы, пашарпаны вятрамі бок брамы — як мужны твар ваяра. Ягоны шчыт, старадаўняя Літоўская Пагоня ў атачэнні міфічных грыфонаў узняты на варту Вільні і ўсяго краю нашага. На варту нашай памяці, гістарычнай адказнасці і сумленнасці. Уначы, у цьмяным свеце ліхтароў, часам можна ўбачыць, як над Вострай Брамай на фоне зорнага неба праносяцца цені крылатых вершнікаў. Водгаласам адбіваецца ад старажытных муроў і ляціць удалячынь крышталёвы звон іх срэбнай збруі... Гэта абаронцы няскоранага нелітасцівым лёсам ліцвінска-беларускага духу.

Тыя вершнікі пільна сцерагуць і змешчаны ў малой капліцы цудадзейны абраз Вастрабрамскай Божай Маці — чулае мацярынскае сэрца горада, да якога, нібы да жыватворнай крыніцы, прыпадаеш кожны раз, прыязджаючы ў Вільню, — з пакорай, маленнем і надзеяй.

Аднолькава дарагі як для каталікаў, так і для праваслаўных гэты абраз — нібы твар шматэтнічнага і талерантнага горада, народа, краю. Лагоднасцю і спагадай Маці Божая вітае кожнага падарожнага, што кіруецца ў даўнюю сталіцу мноства рознаканфесійных храмаў, якія, нібы каляровыя кветкі, упрыгожваюць старыя скрыўленыя вулкі Вільні. На мяжы XIX і XX стагоддзяў абразы Вастрабрамскай Божай Маці можна было пабачыць «на покуці ў вянку» ў хатах па ўсёй Беларусі — як галоўны абярэжны знак. Так здавён Вастрабрамская Маці Міласэрнасці фармавала найістотнейшыя якасці беларускага менталітэту: дабрыню, рахманасць, літасцівасць.

Узнімаючыся па малых і вузкіх прыступках у капліцу, ужо ўзносішся па-над зямлёю, бліжэй да неба. І апынаешся быццам на далоні ў самой Маці Божай, верачы, што гэта менавіта Яна ціха і лагодна ўзняла цябе да сваіх заўжды журботных, але такіх спагадлівых і міласэрных вачэй.

Святое месца патрабуе абсалютнай канцэнтрацыі розуму, ашчаднасці рухаў, чысціні думак. Толькі малітва...

Да цудатворнага абраза ў Вострай Браме вякамі сцякаліся пілігрымкі верных. Да Яе, віленскай Святой Марыі, кіравалі свае маленні мільёны на-

---

**Святлена Немагай** — музыказнаўца-беларусіст, кандыдат мастацтвазнаўства. Нарадзілася ў Мінску ў 1974 годзе. У 1998 г. скончыла Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі па спецыяльнасці «Музычная беларусістыка» і ў 2007 г. — па спецыялізацыі «Арган». У 1998-1999 гг. стажыравалася ў Акадэміі музыкі імя І. Я. Падэрэўскага ў Познані. Лаўрэат прэміі НАН Беларусі імя В. Ф. Купрэвіча для маладых навукоўцаў (2008). З 2008 г. — намеснік мастацкага кіраўніка Творчага аб'яднання «Беларуская капэла» пры НАВТ оперы і балета РБ. Аўтар манаграфіі «Жыццё і творчасць М. К. Агінскага ў каардынатах яго часу і культурнага асяроддзя» (2007), а таксама звыш 50 артыкулаў у айчынных і замежных выданнях.

шых продкаў. І Яна ніколі не адмаўляла ў добрых памкненнях, бо Яна — Маці...

Нягледзячы на палітыка-адміністратыўнае адлучэнне Вострай Брамы ад нашай краіны, яна была і застаецца цэнтральным вобразам беларускай духоўнасці і культуры. Гэтая хрысціянская і краёвая святыня натхняла на напісанне цудоўных мастацкіх твораў. Копіі абраза Маці Божай ёсць у многіх храмах і капліцах Беларусі — у Гародні, Ашмянах, Вілейцы. Свае думкі і ўзнёслыя радкі да Вострай Брамы кіравалі Адам Міцкевіч, Максім Багдановіч, Янка Лучына, Алесь Салавей, Наталля Арсеннева ды многія іншыя.

Не менш узвышана і прыгожа аблічча Маці Божай Вастрабрамскай адлюстраванае ў музычнай спадчыне велічнай краіны-Атлантыды — былога Вялікага Княства Літоўскага. Да нашага часу дайшлі многія нотныя помнікі, непасрэдна звязаныя з літургіяй і набажэнствамі ў Вастрабрамскай капліцы. Большая частка іх польскамоўная — плён ліцвінскай традыцыі і культуры. Ужо ў 1761 г. былі апублікаваныя песні «Bramo święta, Bogu miła» («Святая Брама, мілая Богу») і «Maryja, Wilna obrono» («Марыя, абарона Вільні»), а таксама «Godzinki o Najświętszej Maryi Pannie Ostrobramskiej» («Гадзінкі аб Найсвяцейшай Марыі Панне Вастрабрамскай»). Штодня пры адкрыцці і закрыцці цудоўнага абраза гучалі песні «Witaj Panno» («Вітай, Панна») і «O Jasności i Światłości nieba całego» («О, Яснасць і Ззянне ўсяго неба»), якія, па ўсёй верагоднасці, паходзяць з першай паловы XIX стагоддзя. А ў XX ст., ужо на роднай мове, беларусы кіравалі да віленскай Панны Марыі песню-малітву «Вастрабрамска Маці Божа» на словы паэта і святара Казіміра Сваяка. Вастрабрамскія абразкі адбіліся ў музычным мастацтве Вільні і ў форме мастацкай рэфлексіі. Адзін з такіх узораў — фартэпіянная фантазія «Dzwonek Ostrobramski. Modlitwa wieczorna» («Вастрабрамскі званочак. Вячэрняя малітва») віленскага піяніста і кампазітара Людвіка Навіцкага (1830–1886).

Аднак найбольш рэпрэзентатыўнымі творамі, прызначанымі для асабліва ўрачыстых момантаў, былі шматгалосыя літаніі да Найсвяцейшай Панны Марыі, што гучалі ў выкананні салістаў, хору і аркестра. Сярод іх напісаныя ў 1843–1855 гадах чатыры Вастрабрамскія літаніі Станіслава Манюшкі — нашага земляка, нараджэнца маёнтка Убель пад Мінскам. Магутныя, маштабныя і адначасова чулыя і пранікнёныя гэтыя кампазіцыі, па меркаваннях знаўцаў, складаюць вяршыню рэлігійнай музыкі кампазітара.

Мала хто, аднак, дагэтуль ведаў, што манюшкаўскім літаніям папярэднічала і ў значнай ступені іх падрыхтавала **Вастрабрамская літанія Юзафа Дашчынскага** (1781–1844). Біяграфічныя звесткі пра гэтага выдатнага кампазітара надзвычай сціплыя. Ён нарадзіўся ў Вільні ў 1781 г. у шляхецкай сям'і. Падчас чэрвеньскага візіту 1812 г. Аляксандра І у Вільню за адзін са сваіх вакальных паланэзаў кампазітар быў адораны ад імператара брыльянтавым пярсцёнкам. Даслужыўшыся да звання капітана нацыянальнай віленскай гвардыі, у 1813 г. Дашчынскі выйшаў у адстаўку, каб займацца выкладаннем ігры на фартэпіяна. У 1814 г. слынны аматар музыкі Людвік Ракіцкі, вучань Джавані Бацыста Віёці і ўладальнік інструментаў Страдывары, запрасіў Дашчынскага на пасаду дырыжора аркестра ў Гарадзішча Рэчыцкага павета. Пад кіраўніцтвам Ю. Дашчынскага гэты аркестр дасягнуў такога высокага ўзроўню, што з вялікім майстэрствам выконваў сімфоніі Гайдна, Моцарта і Бетховена. Калі Л. Ракіцкі быў прызначаны губернскім маршалкам шляхты, Ю. Дашчынскі выязджаў разам з аркестрам у Мінск, дзе, верагодна, пад яго кіраўніцтвам даваліся дабрачынныя канцэрты і адбыліся вядомыя ў гісторыі тэатральнага жыцця Мінска прэм'еры опер «Аксур, цар Армуза» А. Сальеры і «Белая дама» Ф. Буальдзьё[1]. Аркестрам Л. Ракіцкага, да якога з мэтай сумеснага музіцыравання сцякаліся аматары музыкі з усяго краю, Ю. Дашчынскі кіраваў да канца сваіх дзён, каля трыццаці гадоў. Атрымаўшы пажыццёвую пенсію, кампазітар і пасля смерці свайго мецэната жыў у Гарадзішчы пад апекай яго дачкі Тэклі Прозар.

Звесткі аб даволі вялікай і разнастайнай музычнай спадчыне Ю. Дашчынскага досыць супярэчлівыя. Дамінік Ходзька сцвярджаў, што разам твораў кампазітара было 94. Розныя крыніцы падаюць, што Дашчынскаму належалі аднаактовая камедыя-опера «Дворык на гасцінцы», трохактовая меладрама «Эгберт, альбо Аб'яднанне англічанаў», 4 уверцюры, 3 фартэпіянныя канцэрты, два паланэзы для фартэпіяна з аркестрам (op. 23), фартэпіянны квартэт a-moll (op. 39), струнны секстэт, маршы для духавога аркестра, «Rondoletto» для скрыпкі і фартэпіяна, «Valse brillante» для фартэпіяна ў чатыры рукі, варыяцыі на ўласныя і запазычаныя тэмы, вакальныя творы, у тым ліку — спеў да «Віталяраўды» Ю. Крашэўскага. Усеагульную вядомасць Ю. Дашчынскаму прынеслі, аднак, шматлікія паланэзы для фартэпіяна, напісаныя ў папулярным стылі *brillant*, а таксама песня пра Зыгмунта III, змешчаная ў зборніку «Гістарычных спеваў» У. Ю. Нямцэвіча.

Як і многія кампазітары свайго часу, Ю. Дашчынскі плённа




Вастрабрамская літанія Ю. Дашчынскага. Тытульны аркуш партыі скрыпкі.




Першая старонка рукапісу партыі *Canto* (сапрана).

працаваў і на глебе літургічнай музыкі. У 1818 г. ён быў абраны чальцом Таварыства рэлігійнай і нацыянальнай музыкі ў Варшаве, што сведчыць аб прызнанні яго заслугаў у названай сферы музычнай творчасці. Вядома, што кампазітару належалі нешпары ў суправаджэнні духавога аркестра, а таксама некалькі месаў, ноты якіх лічацца страчанымі. Паводле звестак А. Плуга, гэта былі «дзве жалобныя месы [рэквіемы. – *С. Н.*] і тры светлыя»[2]. Адна з месаў была напісаная для рымска-ўніяцкага духавенства ў Варшаве з нагоды абрання Ю. Дашчынскага чальцом вышэйузгаданага таварыства.

Адзіным захаваным узорам літургічнай музыкі Ю. Дашчынскага на сённяшні дзень з'яўляецца Вастрабрамская літанія Рэ мажор, рукапіс якой, а менавіта вакальныя і інструментальныя партыі, параўнальна нядаўна нам удалося выявіць у Літоўскай нацыянальнай бібліятэцы імя Мажвідаса ў Вільні. На аснове рэканструяванай партытуры гэты твор ужо паспеў прагучаць на канцэртах «Polska muzyka sakralna XIX wieku. Wilno» (Беласток, 5 сакавіка 2011 г.), «Музычнае прынашэнне» ў рамках фестывалю «Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў» (Нясвіж, 25 ліпеня 2012 г.), а таксама на заключным канцэрце фестывалю імя Яна Тарасевіча (Беласток, 12 мая 2013 г.).

Рукапіс Літаніі з'яўляецца водпісам Станіслава Пешкі (?–1874) — дырыжора віленскіх касцёльных аркестраў і хораў сярэдзіны XIX ст. Яго манаграму «S.P.» можна ўбачыць на некалькіх партыях Літаніі, як і многіх захаваных копіях іншых твораў, што выконваліся ў віленскіх касцёлах у 1850–1860-я гады. Як сведчаць пазнакі на галасах, водпіс Літаніі Ю. Дашчынскага быў зроблены на працягу другой паловы сакавіка 1859 года. Дакладны ж час напісання твора сёння ўстанавіць немагчыма. О. Кольберг узгадвае «Вастрабрамскую літанію» ў ліку апошніх працаў кампазітара, што дае магчымасць меркаваць аб яе напісанні ў 1830-я ці на пачатку 1840-х гадоў[3]. Інфармацыі наконт часу і месца гучання твора пры жыцці Дашчынскага не захавалася.

Як і многія іншыя жанры каталіцкай музыкі (меса, афертотрый, ламентацыі, пасіёны, нешпары, *Te Deum* і г.д.), да пачатку XX ст. літанія прайшла шлях ад грэгарыянскіх манадычных песнаспеваў праз узоры поліфаніі строгага стылю, тып барочнага вакальна-інструментальнага канцэрта і шматчасткавую цыклічную кампазіцыю класіцысцкага плану да разбудаваных вакальна-інструментальных сачыненняў рамантыкаў. Сярод аўтараў літаній — Дж. Палестрына, А. Ласса, Дж. Габрыэлі, К. Мантэвэрдзі, М.-А. Шарпаньцье, Дж. Б. Пергалезі, М. Гайдн, А. Сальеры, Л. Моцарт і В. А. Моцарт, Ф. Абэр, К. Сен-Санс, Ф. Пуленк.

У якасці тэкставай асновы для музычных твораў асаблівай папулярнасцю карысталася Ларэтанская літанія да Найсвя-

Раздзел «Naczynie Duchowne» («Святыня духоўная»). Партыі скрыпак.

Апошняя старонка рукапісу партыі *Canto* з подпісам Станіслава Пешкі.

цейшай Дзевы Марыі (лац. *Litaniae Lauretanae*), першы ўзор якой сустракаецца ў манускрыпце XII стагоддзя. У першай Рэчы Паспалітай, дзе культ Багародзіцы заўжды займаў пачэснае месца, жанр літаніі быў надзвычай папулярны. У XVII–XVIII стагоддзях ларэтанскія літаніі пісалі Д. Стаховіч, С. С. Шажыньскі, А. Мільвід, М. Сойка, Я. Ружыцкі, Ф. Пакорны, Ф. К. Бryксі, В. Данкоўскі, Я. Ваньскі, Ю. Цайдлер і многія іншыя.

Асаблівае значэнне Ларэтанская літанія, што ўваходзіла ў склад марыйных маёвых і кастрычніцкіх (ружанцовых) набажэнстваў, мела ў традыцыі шанавання цудатворнага абраза Божай Маці ў віленскай Вострай Браме. У першай палове XIX ст. культ гэтага абраза перажываў сапраўдны росквіт, прычынай якога ў многім стала рэакцыя на падзелы Рэчы Паспалітай і ліквідацыю дзяржаўнасці ВКЛ, што ўспрымаліся як агульнанацыянальная трагедыя.

Аднак галоўнай урачыстасцю, якая вякамі прыцягвала вернікаў да Вострай Брамы, дзе прыгожа і ўзнёсла гучалі шматгалосыя літаніі, было свята Апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Яго пачаткі сягаюць першай паловы XVIII стагоддзя. З 1773 г. яно адбывалася 8 лістапада, пазней жа было перанесена на 16 лістапада і ўключала восем дзён — актаву.

У 1853 г. на лістападаўскіх урачыстасцях у Вільні прысутнічаў ліцвінска-беларускі «вясковы лірнік» Уладзіслаў Сыракомля, які пад уражаннем перажытага пакінуў па-мастацку яркае, маляўнічае апісанне ўбачанага:

«На працягу васьмі дзён касцёл і вуліца перапоўненыя народам... нягледзячы на прыкрую пару года, люду штодня па некалькі тысяч молячыхся. <...> Апошні дзень, а хутчэй апошні вечар... мала сабе маюць падобных ва ўсім хрысціянстве ў Еўропе. Амаль усё віленскае насельніцтва высыпае на вуліцы, займае касцёл, галерэю, заліваючы сабой вялізную прастору вакол Вострай Брамы. <...> А ўся брама і ўся вуліца багата асветленыя... і ў яркіх агнях ілюмінацыі бачна, як гэтыя некалькі дзясяткаў тысяч вернікаў, натхнёныя адзіным пачуццём, падаюць на калені. <...> Людзі... рознага веку і розных слаёў грамадства зліваюцца каля ног агульнай Маці ў адну хрысціянскую сям'ю, якая настройвае сэрцы ў агульны акорд, каб маліць аб абароне Маці Міласэрнасці. <...> Малітва ўзносіцца пад нябёсы, грукат некалькі тысяч сэрцаў паўтарае яе. <...> Уся Вільня моліцца. На фоне цёмнай ночы, у хвалях святла постаць пастыра, які благаслаўляе крыжам народ, быццам бы ўзносячыся ў паветры сярод зорак, улівае ў сэрцы надзею, што не марныя і святарскія благаслаўленні і малітвы народа; рыданні і плач расчуленых сэрцаў разлягаюцца на вуліцы...»[4].

Ларэтанская літанія да Найсвяцейшай Маці Божай была адным з галоўных момантаў урачыстасці. Яна прамаўлялася і спявалася штодня на працягу

актавы, аднак у апошні вечар гучалі асаблівыя музычныя творы, пра што таксама ўзгадвае У. Сыракомля:

«Нешпары служацца ў капліцы. Пасля іх заканчэння святар-цэлебрант, звычайна віленскі біскуп, урачыста апрануты, уваходзіць у Вастрабрамскую капліцу. Самыя лепшыя музыканты, якіх мае Вільня, выконваюць літанію ў суправаджэнні мясцовага аркестра. <...> Пасля скончанай літаніі пастыр, заклікаўшы да Божай дапамогі, звяртаецца да народа і, бачны усімі, благаслаўляе людзей, якія моляцца, і горад. Настае ўрачыстая цішыня»[5].

На жаль, паэт не данёс да нас імя аўтара літаніі, якую пачуў пры Вострай Браме. Не выключана, што ў той вечар якраз выконвалася Літанія Юзафа Дашчынскага.

У канцы XVIII – пачатку XIX ст. жанр літаніі, звычайна лацінамоўнай, па форме набліжаўся да кантаты, крайнія часткі якой (*Kyrie eleison і Agnus Dei*), як правіла, даручаліся хору, сярэднія ж, што традыцыйна ўяўлялі пераважна віртуозныя арыі альбо дуэты, — салістам. Аднымі з найбольш храналагічна блізкіх твору Ю. Дашчынскага ў культурнай прасторы Рэчы Паспалітай былі літаніі В. Данкоўскага (каля 1760 – пасля 1836), Ю. Цайдлера (каля 1744–1806) і Я. Ваньскага (1756–каля 1830). Гэта былі ўзоры вялікай царкоўнай кантаты, сфарміраванай неапалітанскай школай і ўдасканаленай у Германіі за кошт уключэння элементаў матэта, вакальнага канцэрту і пратэстанцкага харалу. Асноўнымі формамі такіх літаній былі арыі, дуэты, хоры і інструментальныя рытурнэлі[6].

У названы час літанія таксама адчувала на сабе моцны ўплыў гайдна-моцартаўскага стылю, які сцвярджаў у вакальных жанрах інструментальны, сімфанічны пачатак. Яскравым прыкладам такога ўплыву з'яўляецца, да прыкладу, сямічастковая *Litania* in C Юзафа Казлоўскага (1757–1831), напісаная для трох галасоў (*Canto, Alto, Basso*), 2-х скрыпак, 2-х валторнаў і *basso fundamento*.

На фоне названых твораў асабліва выразна выступае структурна-кампазіцыйнае наватарства Вастрабрамскай літаніі Дашчынскага, што ўяўляе з сябе маштабную **адначчастковую кампазіцыю** са шматлікімі тэматычнымі аркамі і санатна-сімфанічнымі прынцыпамі арганізацыі матэрыялу. Адыход кампазітара ад традыцыйнай кантатнай структуры літаніі і аб'яднанне частак у адзіную непадзельную кампазіцыю з элементамі скразнога развіцця выглядае на той час крокам даволі смелым. Восем пазначаных у партытуры раздзелаў ідуць адзін за адным без перапынку (*attaca*):

I. *Kyrie eleison*
II. Ojcze z nieba, Boże
III. Panno roztropna
IV. Naczynie Duchowne
V. Królowo Anielska
VI. Królowo Proroków
VII. Baranku Boży
VIII. Chryste, usłysz nas

Вобразную дамінанту Вастрабрамскай літаніі Ю. Дашчынскага, безумоўна, задае Марыйная тэматыка. Пры яе ўяўнай аднароднасці эмацыянальны дыяпазон твора даволі шырокі: ад трыумфальна-ўзнёслых настрояў у крайніх раздзелах («Ojcze z nieba, Boże», «Chryste, usłysz nas») да жаласліва-сентыментальных у сярэдніх («Naczynie Duchowne», «Baranku Boży»). Кажучы словамі Г. Аберта, «музычны партрэт Маці Божай ... адпавядае таму эталону, які даўным-даўно зацвердзіўся ў выяўленчым мастацтве: пры ўсёй узвышанасці і чысціні асноўнага вобразу ў ім ёсць і значная доля жаночай абаяльнасці, а часта — сардэчнасць і ўзнёслая самаахвярнасць»[7].

Варта падкрэсліць, што Вастрабрамская літанія — адно з першых вядомых на сённяшні дзень сачыненняў названага жанру, напісаных на польскі, а не на кананічны лацінскі тэкст. Акрамя твора Ю. Дашчынскага, нам вядомыя толькі дзве польскамоўныя літаніі, якія належаць да першай паловы XIX ст. — Фларыяна Баброўскага і Яна Мацкевіча. З аднаго боку, дадзеная з'ява суадносіцца з тэндэнцыяй напісання так званых «польскіх месаў», якія былі выразам лакальнага патрыятызму ў каталіцкай музычнай традыцыі. З іншага, Літанія Ю. Дашчынскага прынцыпова адрозніваецца ад польскіх месаў тым, што ў яе аснове ляжыць *пераклад* лацінскага тэксту, а не яго свабодная паэтычная парафраза.

Склад Літаніі ўключае ў сябе квартэт салістаў, змешаны хор і аркестр. Інструментальная партытура разлічана на дзве флейты, два кларнеты, дзве валторны і струнны квартэт. Выкарыстанне мяккіх інструментальных тэмбраў адпавядае светлай лірычнай атмасферы сачынення. Звяртае на сябе ўвагу і адсутнасць партыі аргана, традыцыйнай для такога роду твораў (В. Данкоўскі, Ю. Цайдлер, Я. Ваньскі, Ф. Сцігальскі і інш.). Гэтая асаблівасць можа ўказваць на выкананне Літаніі на свежым паветры з-за немагчымасці размяшчэння вялікага выканальніцкага складу ў мурах малой капліцы. Характэрны склад аркестра Літаніі Ю. Дашчынскага мог быць звязаны і з няпоўнай укамплектаванасцю віленскіх касцёльных капэлаў альбо разлічанасцю на канкрэтны музычны калектыў. Разам з тым, у параўнанні з літаніямі-папярэдніцамі, інструментальны склад твора выглядае пашыра-

ным: рэдка ўжываныя на той час кларнеты і поўны струнны квартэт таму пацвярджэнне. У цэлым жа склад твора Ю. Дашчынскага з'яўляецца своеасаблівым «пераходным звяном» паміж кантатным і аркестравым тыпам складаў, папярэджвае сабою практычна поўныя падвойныя сімфанічныя партытуры літаній С. Манюшкі і Я. Мацкевіча.

Асноўным носьбітам вакальнага пачатку ў Літаніі Ю. Дашчынскага выступае хор. Сольныя вакальныя фрагменты і ансамблі не з'яўляюцца ані віртуознымі, ані разгорнутымі, што наводзіць на думку аб вылучэнні салістаў са складу хору. Дамінанта калектыўнага пачатку прынцыпова адрознівае твор Дашчынскага ад літаній кантатнага тыпу. Відавочна, што ў выбары мадэлі літаніі кампазітар больш арыентаваўся на аўстранямецкія ўзоры, у якіх ужо ў другой палове XVIII ст. значна павялічваецца роля хору, што дэманструе, да прыкладу, *Litaniae Lauretanae* KV 195 В. А. Моцарта. Актыўны ўдзел хору на працягу ўсёй партытуры, а таксама нязначная колькасць сольных фрагментаў у Літаніі Дашчынскага папярэджваюць аналагічную «расстаноўку сілаў» у Вастрабрамскіх літаніях С. Манюшкі.

Такім чынам, Вастрабрамская літанія Ю. Дашчынскага рэпрэзентуе тып *сімфанічнай,* альбо *аркестравай* літаніі, які прынцыпова адрозніваўся ад кантатнай мадэлі жанру XVII–XVIII стагоддзяў. Па аналогіі з новым, сфармаваным у XIX ст. тыпам сімфанічнай месы, у творы Ю. Дашчынскага пры адсутнасці формаў сольнай арыі і фугі пераважаюць законы санатнасімфанічнага развіцця, а таксама плаўныя змены харавых, ансамблевых і невялікіх сольных фрагментаў. І хоць вонкава кампазіцыя Літаніі цалкам адпавядае літургічным нормам, яе канцэпцыя відавочна выходзіць за межы ўласна прыкладной багаслужбовай музыкі. Ва ўсім гэтым сачыненне Ю. Дашчынскага непасрэдна папярэднічае Вастрабрамскім літаніям С. Манюшкі, якія дэманструюць падобную трактоўку жанру.

Вастрабрамская літанія Ю. Дашчынскага была напісана ў час, калі ў краінах Еўропы панавала спецыфічная культурна-стылёвая сітуацыя. Гэты гістарычны момант — першая трэць XIX ст. — характарызаваўся адсутнасцю адзінага магістральнага стылю і суіснаваннем некалькіх напрамкаў. Для музычнай культуры былой Рэчы Паспалітай, мастацкая прастора якой сфарміравала асобу кампазітара і абумовіла яго творчасць, феномен стылёвай неаднароднасці быў тым больш паказальны, бо музычна-эстэтычныя працэсы не працякалі тут з такой інтэнсіўнасцю і насычанасцю, як у краінах Заходняй Еўропы, адгукаючыся нібы рэхам ад актуальных мастацкіх з'яваў. Дадзены перыяд адначасова быў «восенню класіцызму», зенітам сентыменталізму і ранняй «вясной» рамантызму.

Да сачыненняў, што з'явіліся на мяжы дзвюх буйных музычна-стылістычных фармацый — класіцызму і рамантызму, належыць і Вастрабрамская літанія Ю. Дашчынскага. Як узор часоў *перадрамантызму*, гэтае сачыненне характарызуе пранікненне ў адкрышталізаваныя мікра- і макраструктуры класіцызму новых інтанацый, карані якіх — у гарадской побытавай і народнай традыцыях. Пры ўвядзенні ў літургічны твор характэрных песенных мелодый ліцвінска-беларускага паходжання (у раздзелах «Naczynie Duchowne» і «Baranku Boży»), адшліфаванымі гайдна-моцартаўскім часам застаюцца манера выкладання матэрыялу, яго прыёмы развіцця і драматургічнай пабудовы. У гэтым святле Літанія Ю. Дашчынскага знаходзіць паралелі з паланэзамі і рамансамі М. К. Агінскага і ламентацыямі А. Сакульскага, час напісання якіх — першая трэць XIX стагоддзя.

Знаходка рукапісу твора Ю. Дашчынскага ўносіць істотныя карэктывы ў карціну развіцця жанра літаніі ў гісторыі музыкі былога ВКЛ і Рэчы Паспалітай у цэлым. Дагэтуль лічылася, што першыя апрацоўкі літаніі, выкананыя ў манументальна-канцэртным стылі, належаць С. Манюшку[8]. Сёння ж робіцца відавочным, што менавіта Вастрабрамская літанія Ю. Дашчынскага стала першым прыкладам такога роду твораў. Гіпатэтычна мы можам меркаваць, што падчас працы ў Вільні С. Манюшка мог пазнаёміцца з партытурай Ю. Дашчынскага. Канцэпцыя формы ў цэлым у абодвух кампазітараў аказваецца вельмі блізкай, хоць літаніі С. Манюшкі адрозніваюцца ад твора Ю. Дашчынскага лацінскай тэкставай асновай, цыклічнай арганізацыяй формы цэлага і, вядома ж, комплексам музычна-выразных сродкаў, тыповых для рамантызму.

[1] Jelski, M. Kilka wspomnień z przeszłości muzycznej Litwy / M. Jelski // Echo muz. – 1881. – 23. – S. 181.
[2] Pług, A. [Pietkiewicz A.] O Józefie Deszczyńskim / A. Pług // Ruch Muzyczny. – 1859. – nr 50. – S. 425.
[3] Kolberg, O. Deszczyński Józef / O. Kolberg // Orgelbrand Samuel: Encyklopedia powszechna z ilustracjami i mapami. – Warszawa: S. Orgelbranda synowie, 1899. – T. 4. – S. 330.
[4] Dąbek, S. Twórczość litanijna Stanisława Moniuszki i jej konteksty / S. Dąbek. – Warszawa: Wydawnictwo Uniwersitetu Muzycznego Fryderyka Chopina, 2011. – S. 47.
[5] Тамсама, S. 47–48.
[6] Idaszak, D. Wojciech Dankowski. Monografia. Praca doktorska / D. Idaszak. – Warszawa, 1972. – S. 148–149.
[7] Аберт, Г. В. А. Моцарт. Часть первая, книга первая 1756–1774 / Г. Аберт. – Москва: Музыка, 1987. – С. 318–319.
[8] Jachimecki, Z. Muzyka kościelna Moniuszki. Z cyklu: Muzyka i muzycy polscy. VIII Zeszyt / Z. Jachimecki. – Wydanie drugie poprawione. — Łódź: Spółdzielnia wydawniczo-oświatowa «Czytelnik», 1948. – S. 10.

# Франчэска Гвардзі. ДОЖ НАКІРОЎВАЕЦЦА Ў САБОР САНТА МАРЫЯ ДЭЛЛА САЛЮТЭ



Архітэктурны краявід у італьянскім мастацтве XVIII стагоддзя — адна з яркіх старонак еўрапейскага мастацтва. Зусім не выпадкова, што менавіта пейзажысты венецыянскай школы стварылі самыя арыгінальныя па стылі і вобразнасці палотны. Родны горад дыктаваў ім сваю паэзію і натхняў сваёй чароўнай прыгажосцю. Аднак прыжыццёвая папулярнасць жанру архітэктурнага краявіду з заканчэннем «галантнага стагоддзя» перайшла ў забыццё. Венецыянскія краявіды не цікавілі мастакоў і публіку эпохі класіцызму і ампіру, да іх раўнадушна паставіліся рамантыкі. І толькі імпрэсіяністы ўбачылі ў творах забытых майстроў родныя душы сваіх папярэднікаў.

Франчэска Ладзара Гвардзі (1712–1793) быў выдатнейшым майстрам венецыянскай відуты (краявіду). Ён нарадзіўся ў Венецыі, у сям'і жывапісца Дамэніка Гвардзі. У хуткім часе бацька памёр, пакінуўшы ўдаву з чатырма дзецьмі. Але Бог не пакінуў сям'ю Гвардзі: усе трое яго сыноў сталі жывапісцамі, а Франчэска — самым таленавітым з іх. Яго сястра Марыя Чэчылія пабралася шлюбам з вялікім мастаком барока Джавані Бацістa Ц'епола, чыёй творчасцю Франчэска Гвардзі натхняўся ўсё жыццё.

Першыя ўрокі жывапісу юны Франчэска атрымаў у бацькоўскай майстэрні ад старэйшага брата Джанантоніа, а завяршыў адукацыю ў майстэрні Мікэле Марыэскі, пейзажыста і архітэктара, які, безумоўна, паўплываў на жанравы выбар мастака. З самага пачатку самастойнага творчага шляху Гвардзі плённа працаваў для Касцёла, выконваючы алтарныя карціны з выявамі святых для храмаў Венецыі і паўночнай Італіі. І ўсё ж найбольш значным у спадчыне мастака з'яўляюцца ягоныя краявіды Венецыі. Гвардзі ўсё жыццё пражыў у родным горадзе і памёр у сваім доме ў квартале Канарэджыа (дом захаваўся дагэтуль). Ягоны сын таксама стаў жывапісцам і працаваў у манеры бацькі.

Жанр архітэктурнага краявіду атрымаў штуршок для развіцця ў сувязі з новай сацыяльнай тэндэнцыяй у Еўропе. З канца XVII стагоддзя багатыя арыстакраты пачалі захапляцца турызмам і актыўна наведваць Італію, калыску еўрапейскай цывілізацыі. Многія хацелі вярнуцца дахаты з жывапіснымі выявамі Венецыі. Паўстаў актыўны і насычаны рынак пейзажных твораў, а разам з ім і венецыянская школа відуты. Франчэска Гвардзі адрозніваўся ад сваіх сучаснікаў, вядомых па ўсёй Еўропе пейзажыстаў Каналета і Бэрнарда Бэлота. У адрозненне ад іх ён не выязджаў па-за Італію і захаваў вернасць роднаму гораду. Яго не прыцягвала іх манера дакладна-дакументальнага адлюстравання архітэктурнага матыву (пасля Другой сусветнай вайны пры адбудове разбураных Дрэздэна і Варшавы рэстаўратары актыўна карысталіся палотнамі Бэлота). Гвардзі перадаваў на сваіх палотнах непаўторную стыхію венецыянскай атмасферы, сімбіёз вады, паветра, святла і каменя. З усіх сучаснікаў ён, безумоўна, быў лепшым каларыстам і найбольш актыўным наватарам.

Італьянскі мастацтвазнаўца Луіджына Росі Барталата так ацэньвае жывапісны стыль Гвардзі: «Краявід ужо не існуе як тэма, ён з'яўляецца прэтэкстам для чыстага пошуку светлавых рытмаў, празрыстасцяў, сярэбранай блакітнай дымкі, дзе жывапісная матэрыя раствараецца ў раскошы пачуццяў»[1]. Многія з карцінаў Гвардзі сапраўды цалкам адпавядаюць гэтай сентэнцыі крытыка. Мастак выбірае нейкія выпадковыя, знешне малаэфектныя куткі Венецыі або на першы погляд выпадковыя матывы лагуны, і ў гэтых сціплых матывах ён адкрывае самакаштоўнасць жывапісу.

Луўрскі краявід Гвардзі, аднак, зусім іншага плану і, на наш погляд, не ўкладаецца ў рамкі вызначанай мастацтвазнаўчай мадэлі. Гэта ёсць франтальнае адлюстраванне аднаго з самых знакамітых помнікаў венецыянскай архітэктуры — сабора Санта Марыя дэлла Салютэ («della Salute» — ад італьянскага «здароўе, аздараўленне», у гонар вызвалення горада ад эпідэміі чумы, што здарылася ў 1631–1632 гг.). Самы знакаміты твор архітэктара Бальдасарэ Лонгены (1598–1682) з'яўляецца адной з архітэктурных дамінантаў Венецыі. Ён стаіць на стрэлцы, дзе зліваюцца галоўны канал горада *Canale Grande* і канал Джудэка. У гэтым саборы ўвасобілася ўсё лепшае, што дала чалавецтву архітэктура барока. Як напісаў пецярбургскі знаўца еўрапейскай архітэктуры Ігар Барценеў, «стыль барока, што фармаваўся ў архітэктуры гэтага часу, характарызуецца, з аднаго боку, манументальнасцю, прадстаўнічасцю, рэпрэзентатыўнасцю, з другога — перавагай дэкаратыўнага і жывапіснага пачаткаў над тэктанічным. Для дойлідаў барока асноўным быў пластычны бок архітэктуры, яе прасторавая арганізацыя»[2].

Сустрэча з Венецыяй — як сон, як здзейсненая мара, матэрыялізаваны цуд. Людзі многіх пакаленняў перажываюць гэта з новай сілай. І няма канца чароўнай візіі. А ўсё гэта — храмы, палацы, масты — было створана геніем людзей, натхнёных нябёсамі на творчы подзвіг. Кожны новы будынак венецыянцы ставілі на драўляных сваях, глыбока забіваючы іх у падводны грунт. Сабор ля Салютэ (як каротка называюць яго італьянцы) узнімаецца над невялічкай пляцоўкай пасярод вады — будаўнікі забілі пад фундамент велічнага храма больш за мільён сваяў. Калі праплываеш на кацеры каля гэтага прыўкраснага касцёла, здаецца, што і ён нетаропка і велічна таксама плыве па хвалях...

Франчэска Гвардзі жыў у фінальны перыяд венецыянскай велічы. Праз чатыры гады пасля смерці мастака Напалеон захапіў горад і ліквідаваў Венецыянскую Рэспубліку, аддаўшы яе Аўстрыі. Тое, што адлюстраваў на сваіх палотнах Гвардзі, было апошнім водблескам былой славы і магутнасці. Венецыя была фарпостам хрысціянскай цывілізацыі на працягу шэрагу стагоддзяў. Пасля заканчэння часу крыжовых выправаў і краху Візантыйскай імперыі менавіта Венецыянская Рэспубліка была галоўнай сілай, якая супрацьстаяла асманскай экспансіі на поўдні Еўропы і ў Сяродземным моры. Пры жыцці Гвардзі гэта было ўжо далёкай мінуўшчынай, але мастак стаў сведкам праяваў традыцыі, на якой грунтаваліся непераможнасць і творчы імпэт Венецыі. Першая асоба Рэспублікі – дож – разам з духавенствам, палітычнай, вайсковай і грамадскай элітай накіроўваецца на Імшу ў сабор ля Салютэ. Пляцоўка перад саборам у гэты дзень становіцца галоўнай партовай прыстанню Венецыі. Гандолы і чаўны імкнуцца да мармуровага гіганта, які ўвасабляе трыумф хрысціянскай веры. Працэсія з двух бакоў уліваецца ў храм, але зразумела, што не ўсім яе ўдзельнікам хопіць там месца і яны будуць маліцца пад адкрытым небам.

Паўсфера купала (рэмінісцэнцыя візантыйскай архітэктуры) і аформлены паводле вобразу рымскай трыумфальнай аркі галоўны ўваход з'яўляюцца галоўнымі кампазіцыйна-пластычнымі рысамі сабора (і яшчэ вялікія валюты, якія завяршаюць сабой грамадзіну галоўнага корпуса пабудовы). Крыху меншыя па памерах «трыумфальныя аркі» атачаюць корпус сабора з усіх бакоў, вызначаючы капліцы ў інтэр'еры. Некаторыя спецыялісты каментавалі архітэктуру сабора ля Салютэ як «перагружаную дэталямі», але мы разам з Франчэска Гвардзі не бачым гэтага і даем зусім іншыя эстэтычныя ацэнкі, прадыктаваныя пачуццямі і перажываннямі.

Безумоўна, мастак працаваў на пленэры, пераносячы на палатно ўсё багацце, усю радасць венецыянскай атмасферы. Сонца шчодра залівае мармур сабора, далікатна падкрэсліваючы дэталі архітэктурна-пластычнага ўбрання. Святло растварае камень і надае беламу мармуру лёгкае жаўтаватае адценне. Сабор узносіцца ўвышыню гукамі арганнай фугі і тысячамі галасоў малітвы. Палоска лазурнай, з чырвонымі рэфлексамі адлюстраванняў вады ў ніжняй частцы карціны служыць базай гэтай каларыстычнай кампазіцыі, у якой усё здаецца зіхоткім і мімалётным. Больш за палову палатна займае неба – стыхія тонкіх мазкоў, сплаўленых у далікатныя блакітныя і белыя гармоніі...

Вечная прыгажосць Венецыі абуджае ў душы самае светлае і каштоўнае. Разам з песняром роднага горада мы перажываем шчаслівыя імгненні свайго жыцця...

*Валеры Буйвал*

[1] L.R. Bortolatto. Francesco Guardi. L'Opera completa. — Milano, 1974. — С. 87.

[2] История искусства зарубежных стран 17-18 веков. Под ред. В.И. Раздольской. — Москва, 1988. — С. 16.

**Валеры Буйвал** — мастацтвазнаўца, перакладчык. Нарадзіўся ў 1955 г. Закончыў Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна ў Санкт-Пецярбурзе (1977). Даследуе беларускае і заходнееўрапейскае мастацтва. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы М. дэ Сервантэса, Г. Г. Маркеса, Ж. Амаду, Б. Б'ёрнсана, А. Стрындбэрга, Дж. Вэргі, К. Чапэка і інш.

Ірына Саматой

# З кагорты адраджэнцаў: Адвард Будзька


«Адвард Будзька».
Анатоль Крывенка, 1995, ДВП, алей. 40х30 см.

Развіццё нацыянальна-вызваленчага руху ў Беларусі на працягу XIX ст. стварыла перадумовы для ўзнікнення друку на беларускай мове. Пачынальнікамі беларускай нацыянальнай перыёдыкі сталі газеты «Наша доля» і «Наша Ніва». Першая на шостым нумары была зачынена, а другая, хаця і з вялікімі перашкодамі, выходзіла да 1915 года. Дзякуючы падтрымцы супрацоўнікаў рэдакцыі, таленавітых пісьменнікаў, некаторыя пачаткоўцы выявілі свае здольнасці і пазней сталі вядомымі дзеячамі беларускай літаратуры. У «Нашай Ніве» пачыналі сваю творчасць Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі, Алесь Гарун, Цішка Гартны, Змітрок Бядуля, Алесь Гурло.

Друкаваліся ў «Нашай Ніве» і малавядомыя сёння аўтары. Па пэўных прычынах, страхуючыся ад нападкаў цэнзуры, некаторыя хаваліся пад рознымі псеўданімамі. Звестак з іх жыцця амаль не захавалася, часам невядома нават сапраўднае прозвішча, а творчая спадчына згублена і забыта, за выключэннем газетных вершаў і апавяданняў, змешчаных найбольш у «Нашай Ніве». Па-рознаму складвалася іх жыццё, не ўсім удалося стаць вядомымі пісьменнікамі, але варта прыгадаць некаторыя імёны, раскрыць іх псеўданімы, бо яны былі адраджэнцамі, пачынальнікамі грамадска-літаратурнага і культурнага руху на пачатку новага стагоддзя. Сярод іх — нашанівец, пачынальнік беларускага школьніцтва, выдавец Адвард Будзька.

Нарадзіўся Адвард (Эдвард) Адамавіч Будзька 22 сакавіка 1882 года ў Будславе Вілейскага павета (цяпер Мядзельскі раён Мінскай вобласці). Закончыўшы чатырохкласную школу, Адвард Будзька паехаў у Рыгу, дзе паступіў у політэхнічны інстытут, але з-за недахопу фінансавых сродкаў быў вымушаны пакінуць вучобу. Дарэчы, многія з будслаўскай моладзі ехалі ў Рыгу вучыцца і працаваць: так, Паўліна Мядзёлка, далёкая сваячніца і суседка Адварда Будзькі, таксама вучылася ў гэтым горадзе разам з будучай жонкай Будзькі Валерыяй. За ўдзел у антыўрадавым мітынгу Будзьку звольнілі з працы і пасадзілі ў астрог, пасля якога ён пераехаў у Вільню.

З першых нумароў выпуску «Нашай Нівы» Адвард Будзька быў яе актыўным супрацоўнікам. Ён дасылаў у газету карэспандэнцыі пра жыццё будслаўскіх местачкоўцаў, пра справы беларусаў у Рызе. Займаўся ён і паэзіяй. Сябра Будзькі Міхась Балямук успамінаў: «Ягоныя вершы „Лес“, „Восень“, „Шпак“, „Час ляціць“, „З турмы“ былі надрукаваныя, але ён у Чыкага расказваў, што некалькі яго вершаў было ў папках рэдкалегіі, і ён не дамагаўся, каб іх друкавалі, бо былі іншыя паэты, якія, як казаў Будзька, лепшыя за яго»[1, с.4].

У гады Першай сусветнай вайны сям’я Будзькаў выехала ў Пецярбург, дзе разам з Цішкам Гартным Адвард Адамавіч выдаваў газету «Дзянніца», у якой змяшчаў артыкулы пад псеўданімам *Акцюб* ці пад крыптанімамі А. Б., Э. Б., Е. Б. У 1–7 нумарах «Дзянніцы» друкаваліся яго артыкулы пад назвай «Думкі да граматыкі», дзе ён разглядаў асаблівасці беларускай народнай мовы. Свае артыкулы Адвард Будзька пасылаў у газету «Наша будучыня». У 1916 г. ён быў рэдактарам-выдаўцом штотыднёвай грамадска-палітычнай газеты ліберальна-асветніцкага кірунку «Светач», якая прапагандавала ідэі культурна-нацыянальнага адраджэння Беларусі і выступала за пашырэнне школ на беларускай мове навучання. У снежні 1917 г. А. Будзька быў удзельнікам Першага ўсебеларускага кангрэсу і ўвайшоў у Раду Беларускай Народнай Рэспублікі.

Адвард Будзька разумеў, што для развіцця нацыянальнай свядомасці патрэбна асвета, таму яго непакоіла думка аб стварэнні ў Будславе беларускай гімназіі. У той час дзейнічаў Беларускі настаўніцкі саюз, які выказаў патрэбу ў нацыяналізацыі беларускай школы, арганізацыі беларускіх школ і настаўніцкіх курсаў. Сялянскі сход адобрыў ідэю будаўніцтва гімназіі ў Будславе. Будынак валаснога ўпраўлення пастанавілі забраць пад школу і выбралі

**Ірына Саматой** — старшы выкладчык кафедры беларускай літаратуры ВДУ імя П.М.Машэрава. Нарадзілася ў мястэчку Будслаў Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта (1984), аспірантуру пры кафедры беларускай літаратуры ВДУ імя П.М.Машэрава. Аўтар публікацый па сучаснай беларускай літаратуры.

камітэт, які ўзначаліў А. Будзька. Беларускі інжынер Лявон Вітан-Дубейкоўскі, знаёмы Будзькі па Вільні, распрацаваў план двухпавярховага будынка для гімназіі. Восенню 1918 г. новы школьны будынак быў амаль гатовы, а сама гімназія пачала дзейнічаць зімой 1917 г. у будынку валаснога ўпраўлення.

Дочкі А. Будзькі Людвіка Бяленіс і Ірэна Пануцэвіч успамінаюць: «Калі будынак быў амаль зроблены, бацька паехаў у Вільню, каб зарэгістраваць гімназію. І трэба ж было таму здарыцца, каб у той самы дзень, у той самы час, у той самы пакой, дзе ішла рэгістрацыя, прыйшоў Р. Астроўскі, які пры часовым урадзе Керанскага выкладаў у Менскім Настаўніцкім інстытуце. Р. Астроўскі заарганізаваў гімназію ў Слуцку і таксама прыйшоў яе зарэгістраваць. Бацька казаў, што заняткі ў Слуцкай гімназіі пачаліся на адзін дзень раней, чым у Будслаўскай. Гэта былі дзве першыя беларускія гімназіі, якія пачалі працаваць у канцы 1917 года»[2,с.8]. Дырэктарам гімназіі стаў Іосіф Васілевіч, які закончыў Маскоўскі ўніверсітэт і па прафесіі быў археолагам. Разам з імі працавалі настаўнікамі яго дачка Любоў Іосіфаўна і сын Мікалай з жонкай Ганнай Васільеўнай. У 1918 г. былі чатыры гімназічныя класы, у якіх займалася больш за 350 вучняў. Планавалі, што гімназія будзе васьмікласная. З дапамогай А. Будзькі ў гімназіі выходзіў часопіс «Светач», дзейнічалі аркестравы, танцавальны, харавы гурткі, а таксама культурна-асветны гурток «Вяночак», драматычная секцыя якога ладзіла ў мястэчку спектаклі па п’есах «Паўлінка» Янкі Купалы, «Па рэвізіі», «Пашыліся ў дурні» М. Крапіўніцкага, «Як яны жаніліся» А. Валодзькі і інш. Для пазашкольнай моладзі пры гімназіі арганізавалі вячэрнія асветныя лекцыі. Дарэчы, вучнем гэтай гімназіі быў доктар Вінцэнт Жук-Грышкевіч (1903–1989) — будучы старшыня Рады БНР, аўтар мемуараў «25-га сакавіка» (Таронта, 1978 г.).

«Які гэта быў чалавек! — успамінала жыхарка Будслава, былая вучаніца гімназіі Мілеўская Яўгенія Данілаўна (1908 г.н.), якая асабіста была знаёмая з Адвардам Будзькам і яго дзецьмі. — Ён любіў усё беларускае і іншым гэту любоў прывіваў. Знешне ён быў невысокага росту, жывы, рухавы, энергічны. Калі гаварыў, то ўсе заслухоўваліся. Па яго ініцыятыве і гімназію ў Будславе пачалі будаваць. Ён вельмі дапамагаў мясцовай моладзі, асабліва таленавітым сіротам. Уладкоўваў іх у гімназію, а затым у Вільню ва ўніверсітэт вучыцца адпраўляў за свой кошт. Паходзіў з небагатай сям’і, але бацькі былі людзьмі руплівымі і разумнымі. Сёстры яго на настаўніц вывучыліся, адна з іх, Поля, вучыла дзяцей нейкі час у Будславе ў прыватнай школе. Мае бацькі небагатыя былі, дык яна нават грошы з мяне не брала. Вучыла нас на беларускай мове, сама добра нямецкую ведала. Адвард Будзька меў дзвюх дачок — Ірэну, Людвіку і сына Чэся. Тады было надта цікавае, змястоўнае жыццё. У Будслава на лета прыязджала моладзь з Вільні. Тон усяму задаваў Будзька з дочкамі. Разам ставілі пастаноўкі, спявалі беларускія песні. Гучала беларуская мова, усе яе любілі і лічылі нацыянальнай і роднай. У многім гэта заслуга Адварда Будзькі. Сапраўдным ён быў беларусам, ад душы, толькі добрае нёс людзям».

Восенню 1919 г., калі ў Будслаў прыйшлі польскія салдаты, гімназію зачынілі, і А. Будзька выехаў у Вільню, бо яму пагражала пакаранне за парубку лесу пана Аскеркі на пабудову гімназіі. У 1920 г. за асабісты кошт А. Будзькі і друкара У. Знамяроўскага выйшла ў свет «Гісторыя беларускай літаратуры» М. Гарэцкага.

У Вільні А. Будзька быў сябрам управы Віленскага саюзу кааператараў і працаваў у ім кантралёрам. Ён хацеў палепшыць жыццё на вёсцы праз кааператыўныя прадпрыемствы, аднак польскія ўлады адшукалі яго, і ён пераехаў у Коўна, а затым у Дзвінск. Па яго ініцыятыве ў Дзвінску ствараецца культурна-асветніцкае таварыства «Бацькаўшчына», пачынаецца падрыхтоўка да адкрыцця беларускай гімназіі.

Напярэдадні 1939 г. А. Будзька разам з сям’ёй пераязджае жыць у Будслаў. Ён купіў зямлю і лес для будаўніцтва хаты, але ў 1939 г. савецкая ўлада ўсё забрала. Прыйшлося пераехаць у Вілейку, уладкавацца на працу бухгалтарам. «Бацька, — успамінаюць дочкі А. Будзькі, — у 1940 годзе па справах працы ездзіў у Мінск, дзе наведаў сваіх старых сяброў: Купалу, Бядулю, здаецца, Коласа. Вярнуўся ён з гэтай паездкі падаўленым. Першы раз бачылі бацьку ў такім стане. Ён не мог забыць сваёй сустрэчы з Купалам, які быў яго добрым сябрам. Бацька шчыра расказваў пра падзеі, пра жыццё, Купала ўсё ж маўчаў. Адчувалася, што той напалоханы бацькоўскай шчырасцю і нечага баяўся. З. Бядуля пасля гутаркі з ім ціха запытаўся: „Дык ты з усімі так гаворыш? Глядзі, больш нікому так не кажы“. Бацька быў вельмі здзіўлены, бо ён гаварыў тое, аб чым думаў».

У пачатку вайны Адвард Будзька працаваў у Мінску інспектарам гарадской управы, настаўнічаў у Баранавічах. З наступленнем савецкай арміі мусіў паехаць з жонкай у Варшаву, адтуль у Заходнюю Германію (Ватэнштэцкі лагер для перамешчаных асобаў). У 1950 г. выехаў у ЗША. Пасля выхаду на пенсію актыўна займаўся грамадскай працай. Памёр 14 жніўня 1958 года.

У мястэчку Будслаў на вуліцы Зялёнай захавалася хата на высокім падмурку, дзе жыў беларускі паэт, публіцыст, выдавец Адвард Будзька. Тут жа побач, у доме на гэтай вуліцы сыходзілі апошнія гады жыцця яшчэ адной славутай дачкі нашай Бацькаўшчыны — Паўліны Мядзёлкі. Яна пахавана на старых Будслаўскіх могілках побач са сваімі бацькамі. Адвард Будзька, які так марыў жыць і памерці дома, знайшоў вечны супачын у далёкім Чыкага на могілках святога Войцеха.

Літаратура

1. Белямук, М. Ён быў нашаніўцам / М. Белямук // Полацк. – 1992. – 5(15). – С.4 – 5.
2. Бяленіс, Л., Пануцэвіч, І. Слова пра бацьку // Полацк. – 1992. – 5(15). – С.6 – 9.

**Ордэн кармэлітаў старажытных правілаў — кармэлітаў «абутых» — яшчэ ў пачатку XIX стагоддзя меў у Беларусі 24 сядзібы. Сёння не засталося ніводнай. І ніводнага кляштара.**

**Пасля паўстання 1863 года ўсе кляштары ордэну ў Беларусі былі зачыненыя, а законнікі высланыя. З атрыманнем нашай краінай незалежнасці ў 1990-я кармэліты «абутыя» ў Беларусь так і не вярнуліся, у адрозненне ад сваіх братоў кармэлітаў босых.**

**Пра багатую калісьці спадчыну «абутых» кармэлітаў у Беларусі нагадваюць сёння толькі ацалелыя дзенідзе рэшткі іх кляштараў, як у Засвіры, або будынкі касцёлаў (у Княжыцах, Мсціславе, катэдра ў Магілёве).**

**Тым не менш духоўная іх спадчына захавалася. Адзін з прыкладаў — кракаўскі архіў ордэну, у якім па сённяшні дзень захоўваюцца вопісы былых беларускіх сядзібаў ордэну. Пра іх мы і гутарым з архівістам ордэну кармэлітаў старажытных правілаў на Пяску ў Кракаве Шыманам Сулецкім.**



# Беларускі след кармэлітаў у Кракаве

— *Спадар Шыман, як даўно Вы працуеце ў архіве і як Вы сюды трапілі?*

— У архіве я ўжо 15 гадоў. Пачыналася ўсё са студэнцкай практыкі, якую я праходзіў у аддзеле старадрукаў гэтага архіва. На той час ім кіраваў мой універсітэцкі прафесар, доктар Вацлаў Колак. Так я і апынуўся тут. Праца мне вельмі спадабалася — я ахвотна дапамагаў прафесару. Пазней, калі доктар Колак захварэў, апеку над архівам прыняў ужо я. А пасля смерці прафесара я пачаў стала займацца справамі бібліятэкі і архіва.

— *Колькі адзінак захоўваецца ў архіве?*

— Сёння налічваецца 965 архіўных кніг, занесеных у каталог. Калі ж называць рэальную лічбу, то іх колькасць складае каля 1000 адзінак — частка матэрыялаў яшчэ чакае каталагізацыі. У працэсе ўпарадкавання знаходзіцца навуковы збор айца Панэка, які займаўся навукай і выдаваў кнігі. Яго напрацоўкі займаюць на паліцах каля 10 метраў.

— *Якога яшчэ кшталту матэрыялы захоўваюцца ў архіве?*

— Пра ўсе дакументы можна даведацца з нашага каталога, складзенага ў 1996 годзе. Перш за ўсё, гэта інфармацыя аб правінцыях ордэну: акты правінцыяла; акты, якія датычаць колькасці законнікаў пэўнай правінцыі (манахі прыпісваліся не да кляштараў, а да правінцый) і гэтак далей.

Раней правінцый было больш, чым сёння. Напрыклад, сённяшняя Польская правінцыя раней дзялілася на Малапольскую, Літоўскую, Галіцыйскую, Польскую святога Юзафа. Былі таксама іншыя правінцыі: Руская, Літоўская, правінцыя св. Юрыя, Літоўская ўсіх святых і Вялікапольская правінцыя. Пазней гэтыя пяць правінцый зніклі, аднак да сённяшняга дня дайшлі іх дакументы.

У каталогу можна ўбачыць іх назвы, а таксама назвы актаў, складзеных на правінцыяльных капітулах, што адбываліся раз у тры гады. Даступныя таксама і дадзеныя па стане кляштараў і колькасці законнікаў — звесткі пра прыёра, казнадзея, вучобу манахаў. Гэта вельмі важныя гістарычныя крыніцы правінцыі, таму што хронікаў з тых кляштараў захавалася зусім няшмат.

— *Ці ёсць у архіве звесткі пра кляштары, размешчаныя сёння па-за межамі Польшчы — у першую чаргу ў Беларусі і ва Украіне?*

— Правінцыя Польская, ці, як яна называлася даўней, Руска-літоўская, уключала ў сябе тэрыторыі, што раней уваходзілі ў межы Рэчы Паспалітай. Таму пасля яе падзелаў паміж Расіяй, Аўстрыяй і Прусіяй ордэн захаваў толькі тыя кляштары, якія адышлі да Прусіі. Кляштары на ўсходзе пэўны час таксама існавалі і працягвалі весці да-

кументацыю. Найбольш інфармацыі да нас дайшло з кляштара ў Львове. Калі не лічыць Кракава, ад львоўскага кляштара захавалася найвялікшая колькасць актаў, у тым ліку і ўласны архіў кляштара за XIX стагоддзе, які дайшоў да нас у вельмі добрым стане.

*— Шэраг матэрыялаў, датычных дзейнасці кармэлітаў, сёння знаходзіцца ў дзяржаўных архівах Польшчы, Беларусі і Украіны. Ці былі спробы іх сістэматызацыі?*

— Так. У 1996 годзе, падчас стварэння нашага каталога, была сабраная інфармацыя пра дакументы і архіваліі, што знаходзяцца па-за межамі Кракава. Такія дакументы ёсць не толькі ў Дзяржаўным архіве Польшчы ў Кракаве і Ягелонскай бібліятэцы, але і ў архівах Львова, Мінска і Вільні.




*— Што за інфармацыя там захоўваецца, і ці былі спробы вярнуць гэтыя дакументы?*

— Самі дакументы, на жаль, мы не праглядалі. 15 гадоў таму праца вялася толькі з каталогамі. Нас цікавіла найперш наяўнасць такіх дадзеных у Беларусі і ва Украіне. Сёння, улічваючы лічбавыя магчымасці архіваў, гэтую інфармацыю можна праманіторыць больш падрабязна і нават зрабіць лічбавыя копіі.

Часам апантаныя гісторыкі распавядаюць, што падчас працы над сваімі тэмамі бачылі ў тых архівах пэўныя архіваліі, датычныя нашых кляштараў. Некаторым удаецца нават зрабіць фотакопіі гэтых дакументаў, аднак у будучыні тыя дадзеныя варта было б прапрацаваць больш дэталёва.

*— З якіх матэрыялаў зробленыя і на якіх мовах напісаныя архіўныя матэрыялы, што захоўваюцца ў Кракаве?*

— Найстарэйшымі зборамі архіва з'яўляюцца дакументы на пергаменце, якія сягаюць часу стварэння кракаўскага кляштара, — 1397 года. Першы дакумент, што датычыць гэтага кляштара, — папская була 1401 года Папы Рымскага Баніфацыя IX, якая зацвярджае каралеўскую фундацыю.

Галоўная мова архіва ў цэлым — лаціна. У пазнейшыя часы да яе дадаецца польская, у часы Аўстра-Венгрыі — таксама і нямецкая мова. Сустракаюцца некаторыя дакументы, напісаныя па-руску, — з часоў рускага панавання на тэрыторыях, дзе знаходзіліся кляштары. Але гэтых дакументаў няшмат. Пры кляштарах, якія знаходзіліся ў ваколіцах Львова, усе акты або нейкія каралеўскія загады пісаліся на старабеларускай мове.

*— Ці шмат у Кракаве архіваў, падобных да вашага?*

— Наш архіў — найважнейшы для ордэну кармэлітаў «абутых» у Польшчы. Аднак ён мае звесткі, якія датычаць толькі кармэлітаў, таму параўноўваць наш архіў колькасна з архівамі францішканаў ці дамініканаў нельга. Напрыклад, колькасць дакументаў, што захоўваюцца ў дамініканаў, пераўзыходзіць кармэліцкія зборы ў некалькі разоў. Тых жа актаў у нас, напрыклад, толькі 40 метраў паліцаў. У іх, мяркую, на некалькі дзясяткаў больш, таму што лічба законнікаў была большай. Сёння законнікаў ва ўсёй правінцыі каля 60-ці, таму акты, датычныя некаторых манахаў, змесцяцца і ў адной тэчцы. Але ў той самы час, калі нехта з іх працуе як навуковец (як вышэй узгаданы айцец Панэк), такіх актаў у дзясяткі разоў больш — да 10 метраў.

*— Як часта ў вашым архіве працуюць навукоўцы, і як выглядае працэдура атрымання дакументаў?*

— Архіўнымі матэрыяламі можа скарыстацца кожны. Вядома, спачатку трэба мець пацвярджэнне сваёй зацікаўленасці. Калі Вы студэнт, то ў Вас павінна быць папера з навучальнай установы з указаннем тэмы даследавання. Калі Вы навуковец, то ніякіх праблемаў з карыстаннем матэрыяламі ўзнікаць не павінна. Найбольш часта ў архіў звяртаюцца гісторыкі ў сферы мастацтва. Нярэдка навукоўцы даследуюць усходнія кляштары кармэлітаў ва Украіне. Бываюць дні, калі ў архіве працуе дзесяць чалавек, а бывае, што толькі адзін. Усё залежыць ад зацікаўленасці саміх даследчыкаў. Насамрэч, матэрыялаў тут процьма, і я мяркую, што іх хопіць яшчэ не на адну доктарскую дысертацыю.

*— Дзякуй за размову, і плённай Вам працы. Спадзяюся, што знойдуцца спецыялісты, якія з дапамогаю матэрыялаў вашага архіва вернуць Беларусі гісторыю ордэну кармэлітаў «абутых».*

*Гутарыў Ілля Лапато.*


Мікола Арочка. Фота М. Скоблы.

*На пачатку сакавіка не стала Міколы Арочкі. Апошнія гадоў пятнаццаць ён пражыў, як Рабінзон на пустэльнай выспе, як Дыяген у бочцы. Сам казаў мне пра гэта падчас нашых нячастых сустрэчаў у вёсцы Вецявічы на Слонімшчыне. Забытая Богам і рэйсавымі аўтобусамі, амаль вымерлая вёска нездарма параўноўвалася ім з неабжытай выспай і цеснай бочкай. Пагаварыць там доктару навук, паэту, аўтару дваццаці пяці кніг не было з кім, хоць насамрэч днём з ліхтаром па вуліцы хадзі, як той старагрэцкі філосаф, у пошуку чалавека.*

Міхась СКОБЛА

# З БІБЛІЯЙ У КОШЫКУ

Асабліва з жыццём пустэльніка было цяжка звыкнуцца ў першыя гады пасля развітання са сталіцай, дзе трагічна загінулі два ягоныя сыны. Іх смерць і змусіла згараванага бацьку пакінуць Менск, Акадэмію навук, якой аддаў больш за дваццаць гадоў жыцця. Думаў — праца на зямлі верне сілы, не дасць упасці ў беспрасветны смутак. І не памыліўся. Але без інтэлектуальнага асяродку сумаваў. Калі мы са слонімскім краязнаўцам Сяргеем Чыгрынам прыязджалі ў адведкі, доўга не адпускаў, пра ўсё распытваў, чытаў свае новыя вершы, якія чамусьці, нібы змовіўшыся, перасталі друкаваць сталічныя выданні.

Адзінай сувяззю са светам быў груваcткі радыёпрымач яшчэ савецкага вырабу, па якім вецявіцкі пустэльнік слухаў навіны. Але неяк у пакінутую незамкнёнай хату залезлі невядома адкуль прыбылыя зладзеі. Вынеслі старую лядоўню, сапсаваны пыласмок, нешта з апраткі і, галоўнае, друкарку і прымач. Ні па чым так не бедаваў гаспадар хаты, як па дзвюх апошніх рэчах.

Мы ўгаворвалі яго пісаць успаміны, а ён адмахваўся — хлопцы, няма калі. Паказваў свае спрацаваныя рукі, ківаў на сялянскі рыштунак пры хаце. І, як далёкія продкі ў XIX стагоддзі, што не ведалі ніякай механізацыі, хадзіў за плугам, касіў траву, даглядаў жывёлу і птаства. «За першыя сем летаў я накасіў сто вазоў сена!». Мы нават уявіць не маглі тых вазоў на дарозе. Якія там успаміны...

А расказваць умеў і меў пра што. Пра сваё навучанне ў заходнебеларускай польскай школе, дзе гадзінаў на беларускую мову і літаратуру адводзілася больш, чым у Беларусі сучаснай. Пра тое, як потым працягваў вучыцца ў беларускай школе пры немцах — па хрэстаматыі Дварчаніна і граматыцы Тарашкевіча. І пра тое, як потым тую школу спалілі савецкія партызаны, хоць мясцілася яна ў гэтак званым Народным доме, збудаваным на грамадскія складкі. Расказваў, як яшчэ падлеткам трапіў у спісы раскулачаных. Як разам з маці хаваўся ад «чорнага ворана», накліканага вучнёўскімі, падазронымі з гледзішча савецкай улады, вершамі. Як потым стаяў пад расстрэ-

**Міхась СКОБЛА** — паэт, журналіст, даследчык літаратуры. Нарадзіўся 23 лістапада 1966 г. на хутары каля мястэчка Дзярэчын Зэльвенскага раёна. У 1991 г. закончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Выдаў зборнікі паэзіі «Вечны Зьніч» (1990), «Вочы Савы» (1994),«Нашэсьце Поўні», кнігу літаратурных пародыяў «Розгі ў розьніцу» (1993), зборнік вершаў для дзяцей «Каменьперунок» (1998), кнігу гістарычных нарысаў «Дзярэчынскі дыярыюш» (1999). Укладальнік анталогіі беларускай паэзіі XX ст. «Краса і сіла» (2003), шматлікіх твораў класікаў нацыянальнай літаратуры ў серыі «Беларускі кнігазбор», анталогіі перакладаў сусветнай паэзіі XX ст. на беларускую мову «Галасы з-за небакраю» (2008) і інш.

лам на падпаленым немцамі хутары. Як быў самым заўзятым чытачом мясцовай Вялікакракоцкай бібліятэкі, што ў свой час камплектавалася наўпрост з віленскіх беларускіх выдавецтваў і кнігарняў. Бібліятэка пазней атрымала імя Янкі Купалы, і яе неаднойчы наведвала ўдава першага народнага паэта — Уладзіслава Францаўна Луцэвіч. Дык вось, улюбёнаму ў беларускую кнігу падлетку з Вецявічаў нават дазвалялася начаваць у бібліятэцы, і ён да світання чытаў Купалу, Коласа, Багдановіча, Гарэцкага, Танка...

У вершах Міколы Арочкі жыла і змагалася Заходняя Беларусь, падымала народ статысячная Грамада, турмы на Лукішках і ў Бярозе Картузскай не змяшчалі ўсіх, каго ўлада лічыла дзяржаўнымі злачынцамі, паэт Валянцін Таўлай «пілаваў вершам краты». Арочка нібы ажыўляў гісторыю. Яшчэ ў 70-я гады, калі ў айчыннай гістарыяграфіі панавала абэцадаршчына, паэт напісаў дзве выдатныя драматычныя паэмы — «Курганне» і «Крэва» (выйшлі пад адной вокладкай у 1982-м), дзе вялікія князі Ягайла і Вітаўт звярталіся да чытачоў на дзяржаўнай мове ВКЛ — беларускай. А якой раскошай для нас, студэнтаў, былі аўтарскія каментарыі да згаданых паэмаў! Каментарыі тыя «цягнулі» на энцыклапедычныя артыкулы! З іх можна было даведацца пра жыццяпісы вялікіх князёў, навыпісваць сабе ў сшытак старабеларускай лексікі: *маргаслепы*, *долнік*, *зжэніна*... Гэта ў «Крэве» я вышукаў назву для свайго першага паэтычнага зборніка «Вечны Зніч», пра што аўтару праз гады было прыемна пачуць у занесеных снегам Вецявічах.

Зачытаную і заканспектаваную кнігу «Курганне. Крэва» ў мяне нехта назаўсёды «пазычыў» у студэнцкім інтэрнаце. Пачуўшы пра гэта, паэт выцягнуў аднекуль з-пад стала і надпісаў свой асобнік. Дарма, што пераплёт у ім аказаўся пагрызены мышамі, ад якіх не было ратунку ў старой, месцамі дарэшты збуцвелай хаце. Той пагрызены асобнік і цяпер стаіць у мяне на ганаровай паліцы. Восем тысячаў чытачоў «Крэва» (гэткі наклад кнігі) спускаліся разам з князем Вітаўтам у лёхі Крэўскага замка, прысутнічалі пры зацятых спрэчках Вітаўта з Ягайлам, чулі лямантацыі Вітаўтавай кароны, якая так і не даехала да Вялікага Княства:

*Мяне перанялі велькапаляне.*
*Ніводзін звер не знаў такіх засад!*
*На кожнай сцежцы – біскуп ці магнат.*
*І меч. То ж на карону паляванне!*
*Мяне, рассекшы мечам надвая,*
*Прыцвікавалі ў Кракаўскім саборы...*
*Як сімвалічна са сцяны гаворыць*
*Пра еднасць душ, пра лёс наш плоцць мая!*

Падчас апошняга свайго наезду ў Вецявічы я застаў Міколу Арочку над новай гістарычнай паэмай. «Каранацыю Міндоўга» ён пісаў марудна і пакутліва. Пісаў асадкай, якую не хацелі трымаць пакручаныя цяжкай фізічнай працай пальцы. «Страціў кваліфікацыю», — аджартоўваўся. Але было відно, што не супакоіцца, пакуль не паставіць апошнюю кропку. Меў за арыенцір паэму «Mindaugas» літоўца Юсцінаса Марцінкявічуса, з якім, дарэчы, ліставаўся. Зразумела, што Арочкаў Міндоўг шмат у чым адрозніваўся ад Mindaugasa, які каранаваўся ў горадзе з дзіўнай назвай Naugardukas.


Міхась Скобла з Міколам Арочкам.

Складаючы анталогію беларускай паэзіі «Краса і сіла», я меўся ўлучыць у яе Арочкаву «Баладу пра няскошанае жыта». Арыгінальная па задуме, яна, аднак, не задавальняла мяне сваім фіналам. Не памятаю ўжо, чым канкрэтна. І я не прыдумаў нічога лепшага, як напісаць аўтару ўльтыматыўны ліст: альбо дапрацоўваеце сваю баладу, альбо ў анталогію яна не трапіць... У лепшым выпадку чакаў маўчання, у горшым — адлупу. Мікола Арочка выканаў умову і нават не паўшчуваў складальніка за нахабства!



Далікатны ў абыходку з людзьмі і з кожнай жывой істотай, ён і ў слове адчуваў і вычуваў кожны гук. Мог па-майстэрску ва ўласны верш уплесці фальклорны малюнак: *«Іду, як заваражаны, // а спеў плыве з-за гаці: // не ўсе лугі пакошаны, // не ўсе сенажаці»*. І дзе тут народнае, а дзе Арочкава?

Урабляючы зямлю і даглядаючы козаў, накошваючы свае незлічоныя стагі сена, паэт у апошнія гады зусім заняпаў здароўем, а тут яшчэ ў вёску прыехаў і пасяліўся па суседстве нейкі прыхадзень-антыбеларус. Дыскусіі і спрэчкі, што важней — каўбаса ці мова, здароўя паэту, вядома, не дадавалі. Сілы пакідалі Арочку. Вось адзін з яго апошніх вершаў «Падсочка», які я запісаў на дыктафон:

*Дажываюць сосны бору.*
*Бор той не стары.*
*Галаву задзёршы ўгору,*
*ходзяць там майстры*
*і разцом шваргочуць моўчкі...*
*Крапне з-пад ляза*
*не жывіца ад падсочкі,*
*а бурштын-сляза,*
*льецца ў посуд, нібы ў лейку,*
*праз канаўку-рой...*
*Меднастволіцам паўвеку —*
*маладая кроў...*
*Ды заступніцкае моцы*
*я не маю тут.*
*Сам я чуюся ў падсочцы,*
*як і ўвесь мой люд.*

«Падсочанага» хваробамі паэта даглядалі жонка Марыя і ўнук Валерык, які, дарэчы, следам за дзедам пачаў пісаць вершы на роднай мове.

Аднойчы, прыехаўшы ў Вецявічы, я пабачыў сапраўдны букалічны краявід. Мікола Арочка сядзеў на поплаве пад здзічэлай яблыняй, а вакол яго пасвіўся цэлы статак козаў. Наводдаль скублі траву каровы і раз-пораз рыкалі ў вялікія доўгія трубы, зрыхтаваныя для газаправоду Ямал — Еўропа. «Зірні — ім падабаецца трубіць і чуць рэха», — сказаў паэт-пастух. Мы яшчэ тады памеркавалі, куды каровы хутчэй дарыкаюцца — да Ямала ці да Еўропы.

І на пашы, і на сенажаці Мікола Арочка не разлучаўся з лазовым кошыкам. А ў тым кошыку — рукапісы і Біблія. Рукапісы ён увесьчасна дапісваў і дапрацоўваў, а Біблію чытаў у любую вольную хвіліну. У тую нашу апошнюю сустрэчу яго вельмі цікавіла Евангелле ад святога Яна, ён нават некалькі разоў паўтарыў: «І Слова стала плоцю, і ўсялілася ў нас, поўнае мілаты і праўды»*.

І слова Міколы Арочкі таксама было напоўненае праўдай і мілатой. Мабыць, і ў свой апошні шлях ён выправіўся з той зачытанай у стагах і заношанай у кошыку беларускай Бібліяй.

* Паэт чытаў Евангелле ў перакладзе Васіля Сёмухі.

МІКОЛА АРОЧКА

# МЕЧАМ ЛЮБОВІ АД ЗЛА АДБІВАЦЦА…

**Малітва да Адама Станкевіча**

Малюся я на Вас, на святара,
Пакутніка за долю Беларусі,
На Вашу святасць веры і дабра,
Упаўшы на калені, я малюся.

Малюся я на Вашыя сляды
У слонімскім выгнанні — ў горкай скрусе.
На той зямлі не ведаў я тады,
Які круты зацягваецца вузел!

Малюся я на Ваш ахвярны крыж,
Які панеслі Вы — аж да Тайшэта...
Галгофа наша, ты яшчэ стаіш,
Касцямі ўсланая, як ганьба свету!

Малюся я на Ваш свяшчэнны прах,
Зламысна патаптаны ў завірусе.
З нямой слязой надзеі на вачах
На Вас — як на святога! — я малюся.

Так, на святога! Прэч, ліхая замець!
Збяру я ў думках рэшткі з мерзлаты,
Пастаўлю дамавіну ўсім — як памяць,
І ўбачу я над ёй — Ваш Дух Святы!

Я Ваш вызнанец мэтаў і надзей
На Адраджэнне вольнай Беларусі.
Я з вераю у Боскі Дом людзей
Заходжу ціха — і да Вас малюся.

## Укрыжаванне

Ты Богам мне пасланая, Марыя,
Мы чуем лёсу лютага пазоў.
І ўваскрасаюць вобразы жывыя:
Твая сястра з Віфаніі – Марыя
Духмянаю пяшчотай валасоў
Ісусу выцірае з ног стамлёнасць.
Гаючы дотык слухае Хрыстос,
На твары дабрыня і задумёнасць.
І ўжо не цешыць цеплыня яднання
Святога Духу і яе душы.
Усё канае ў смутку прадчування
Цярністага цярпення на крыжы,
Ён бачыць зло, што возьме ў нас сыноў,
І людскасці трагізм — без пакаяння,
І рабства душ, і фарысейства слоў,
І на крыжы тым — наша ўкрыжаванне!

## Апосталка

*Божа Зямлі мае, Божа продкаў маіх,*
*дай мне сілы вытрымаць найцяжэйшае.*
Ларыса Геніюш

Дабраславіў Вас, Апосталка, Бог —
Мечам любові ад зла адбівацца!
Зброю такую ў пекла дарог
Колісь панеслі на вуснах — Дванаццаць.

З Богам бацькоўская ў горы зямля
Рукі на плечыкі ўсклала дзяўчаці:
Дочка, забудзься на ўтульнасць жылля,
Выйдуць у шлях твой — страта на страце...

Сына ад Вас, як лісток, адатнуць,
Маці данішчаць галодным выгнаннем,
Бацьку на браме турмы разапнуць,
Вытнуць братоў і сясцёр — каб нізвання!

Толькі ж самую з адчайнай душой
Як жа ім выкрасці ў Бога Айчыны?
Божа, навошта Твой Дух сышоў
На скрыжаваныя рукі жанчыны?

Песню сваю, як дзіця ў пеляне,
Неслі з Зяльвянкі Вы — з хваляў хрышчэння!
Сорам кідае долу мяне
Перад жаноцкай адвагай служэння!

Гэта ж мальба Найвышэйшаму!.. Дол
З гожага цела вып'е ўсе сілы.
Толькі душа не ідзе па дазвол:
Браць непадлегласць Айчыны — ў магілу!

Дол ёй капалі сярод мерзлаты,
Ікламі рвалі ў лагернай Інце.
Думка ж аб тым тэстаменце святым
Грэла далонь, як сцяблінка ў жыце.

## Каронная балада Вітаўта

Адчуўшы блізкі скон, вялікі Вітаўт
Сабраў ля ложа ўдалых ваяроў,
З рассечанай кароны выцер кроў,
Змачыў яе гаючай акавітай.

Перахапіць хіба маглі магнаты?
Асвечаную Рымам — ды на злом?!
Яна ўцякла параненай ад здрады
На нашае дзяржаўнае чало!

На раны яе Вітаўт самавіта
Усклаў далоні — з пошаптам бароў,
З расстайным рыкам збуджаных зуброў —
І ажыла карона, з мараў літая!

Цяпер з чала не дайце яе зрынуць,
Зноў мечам ці маной распалавініць,
Пасеч зямлю, нябёс блакітны дах!

Зямля сябе ўзгадуе ўласным коштам,
Хоць шлях Айчыны будзе і няпростым,
Ды ў бок Свабоды выкіруе Шлях!



**Леанід ГАЛУБОВІЧ** — паэт, крытык. Нарадзіўся 12 жніўня 1950 г. у вёсцы Вароніна Клецкага раёна. Аўтар зборнікаў паэзіі «Таемнасць агню» (1984), «Споведзь бяссоннай душы» (1989), «Бусел без гнязда» (1989), «Таемнасць споведзі» (1993), «Заложнік цемры» (1994), «Апошнія вершы Леаніда Галубовіча» (2000), «З гэтага свету» (2012), кнігі мініяцюраў «Зацемкі з левай кішэні» (1998), а таксама кнігі літаратурна-крытычных эсэ «Сыс і кулуары» (2010). Жыве ў Мінску.

Леанід ГАЛУБОВІЧ

# *НЕНАЗВАНЫЯ ВЕРШЫ*

* * *

Белы гай бяроз –
стройных, статных –
пад высокім небам шуміць,
а адна – крывая...

Пад святлом іх шатаў іду –
і душой чысцею,
ды адна з бяроз
у ваччу стаіць,
не дае спакою...

Ну чаму ж, чаму
ўсе равесніцы
вершалінамі
ў неба цягнуцца,
а яна адна
перад ім
скрушна ўкленчыла?..

Хто ж яшчэ,
як не ты, –
валацуга ўбогі –
да яе –
беспрытульніцы –
прыхінецца...

## ВЕРТЫКАЛЬ

Грозна дыхнуў вятрыска –
рэкнуў камель,
захістаўся ствол,
заварушылася вершаліна,

загула,
зашумела крона,
галіна роспачна
загайдалася,
затрапятаў ліст –
і...
долу сарваўся...

## ЯБЛЫК ДЛЯ СПАСА

Ранні яблык на галіне спее,
яснабоказзяючы ў лісці,
верыцца, што ўсё-ткі ён паспее
да вяршэнства Спаса дарасці...

Не страсе яго залётны вецер,
ні чарвяк не сточыць, ні шальмец
не сарве з-за плоту разам з веццем,
каб няўзнак аскоміну займець...

І калі да Спаса не загіне,
то на свята спеласць несучы,
галаву – да рук, як да галінаў,
схіліць ён, сябе аддаючы...

* * *

Ён думаў, розумам душу ўратуе,
і зазіраў у вечнасці пралом,
быў пэўны, калі Бог і падрахуе, –
пагрэшнасці пакрыюцца дабром...

Сваё хоць агароджваў і даладжваў,
а ўпасці яблыку даваў за плот,
і кожную з правін сваіх загладжваў
дабром, з якога потым меў даход.

Калі ж прыйшло і да яго кананне,
ён зразумеў, што не здабыў душы,
з якой бы змог апошняе жаданне –
упасці яблыкам за плот чужы...

* * *

Скрозь жыццё чакаем мы крыжа
там
дзе лёс акрэсліла мяжа
і ніхто не абмінуў яшчэ свой крыж
бо жыццё і смерць нібы спарыш
складзеныя н*а*крыж
н і з
і
выш

* * *

Мы пішам чужыя вершы,
чужыя ідэі *посцім*,
і справы чужыя вершым,
і ў Бога чужое просім...

Свае, як чужыя, жыцці
гвалтуем, спрабуем выжыць,
бы той васілёк у жыце,
якога цвітучым выжнуць...

* * *

Ніхто не ўнік зямных пакут
жыцця ў паднебнай паняверцы.
Народжаныя,
мусім тут
усе да аднаго памерці.

Але даецца шанец нам –
пакаяцца і азірнуцца...
Памерлыя,
мы можам там
усе да Аднаго вярнуцца...

* * *

Яшчэ не цяжкі на хаду,
хоць сіл для ўзлёту ўжо не маю,
я час у вечнасці краду,
нібыта ўклад чужы здымаю...

І зерне дзён мялю ў муку,
кручу кругі каменных жорнаў:
пераплысці хачу Раку
сам, без Харонавага чоўна,

хаця б адно дзеля таго,
каб зразумець на плыні вечнай,
куды плыву і да каго
ў Засвет з радзімы чалавечай...

* * *

Як танцуе матылёк,
выклікаючы здзіўленне,
прыпыніўшы свой палёт
дзеля творчага натхнення!

Аднадзёнка, віртуоз...
Узнімаючыся з квету,
свету ўдзячны ён за лёс,
адлятаючы са свету...

*2010–2013*


Фота Валерыя Дубоўскага.

# Сяржук Сыс

**Сяржук Сыс** — паэт, перакладчык, публіцыст. Нарадзіўся 26 студзеня 1962 г. у в. Пракісель Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл. у сям'і вясковых настаўнікаў. Закончыў Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт. Друкаваўся ў рэспубліканскіх і замежных выданнях; аўтар калектыўных зборнікаў і анталогій, а таксама кніг паэзіі «За трапяткім матыльком кахання» (2000) і «Стрэмка» (2011). Творы перакладаліся на англійскую, польскую, расійскую, украінскую, літоўскую і сербскую мовы. На многія вершы С. Сыса напісаныя песні. Жыве ў Мінску.

* * *

Не вый у коміне, вятрыска,
Далёкі мой і крэўны брат,
І кроплямі дажджу не пырскай
На апусцелы ціхі сад.

Не спаць і мне з табой да рання,
Стаіўшыся ў начной цішы:
Ты — валацуга па прызванні,
І я вандроўнік у душы.

Паслухай, лепей кінь бадзяцца,
Спачні хоць крыху ў пастцы сцен.
Няхай табе — спакой і праца,
А мне — трывога перамен!

* * *

Несуцяшальна і нястрымна
Нібы ад свечкі тонкі дым,
Цяпло сыходзіць ад каміна,
Ад нас — гады.

Хвіліна гіне за хвілінай
У пырсках часу залатых...
А недзе блізка той прыпынак,
Дзе сыйдзеш ты.

Успыхнуць чырванню рабіны,
І зледзяніць твой скон зіма,
З палёгкай разагнуцца спіны:
Цябе — няма.

Але жыццё на тым не згіне,
Бо Творцы мудрага рука
З падатлівае злепіць гліны
Твой дублікат.

## ДАРОГІ

Вы дарагія мне
Гасціннасцю абочын,
Усцяж якіх суседзяць
І студні, і крыжы,
Дарогі, па якіх
Мы так зацята крочым,
Яшчэ хацеў бы доўга
Адно — дарогай жыць!

## ПОЗНЯЯ ВІШНЯ

Белыя кроплі ў зялёным:
Вішня прыбралася кветам.
Жніўную тры дні да скону,
Столькі ж да скону лета.

Гонкая, любая вішня,
Глянь, як у небе хмарна!
Квет твой запознены, лішні,
Долу асыплецца марна.

Дорыш адну гарчыну.
Сэрцу шчэ болей слёзна:
Я пакахаў дзяўчыну,
Ды непапраўна позна.

Сам жа свавольнік гэткі –
Сэрца не ў час расквеціў...
Звянуць пачуццяў кветкі,
Не абзавуцца дзеці.

Квет твой цнатлівы і цёплы,
Ў сэрцы не будзе замглёны.
Свецяцца белыя кроплі
Позна ў лісці зялёным.

## БЕЛАСТОК

У гарадах блукаў далёкіх,
Губляўся ў скопішчах людзей,
І толькі ў ціхім Беластоку,
Так, так, у ціхім Беластоку,
Найбольш утульна і мілей.

Да Заменгофа вольным крокам
Прайсці па Ліпавай наўсцяж...
Бо толькі ў шчырым Беластоку,
Так, так, у шчырым Беластоку
Яшчэ застаўся подых наш.

А як злятаюцца аблокі
На мадэрновы свенты Рох!
Ды ўсё таму, што ў Беластоку,
Так, так, у светлым Беластоку
Здаецца, часам, ходзіць Бог.

Яшчэ не раз усцешаць вока
Пляц і Браніцкага Версаль,
Пакуль спачну — не ў Беластоку,
Так, так, спачну не ў Беластоку,
А ў Беларусіі, на жаль...

## РЫБКА

Рыбіна-гарэза
пляжыць хвалі целам,
вольна раскашуе
ў бездані рачной,
то хвастом — аж пырскі! —
праблiскоча смела,
то імклiва кiнецца
з кручы галавой.
У вадзе крыштальнай
жвір на дне здаецца
смелай ганарліўцы
срэбным мурагом.
Аніхто не трэба
ледзяному сэрцу,
толькі б супраць плыні
піць жыццё нагбом.
Не дражні, бліскучка,
долю сваю злую,
не паказвай сонцу
шэры плаўнічок,
бо аднойчы ранкам
і цябе ўпалюе
востры і цярплівы
рыбака кручок.

## СВАЯКАМ

На кладах, па-над стромкім Дняпром,
Між старых раскудлачаных ліп,
Спяць даўно неабудным сном
Баба Ганна і дзед Піліп.
Ручаіна ды жвірысты груд,
Кружна ўзносіцца клёкат буслоў.
Тут жылі і пакутвалі тут,
Сябравалі з касой ды вяслом.
Дзе жалобныя кірлі крычаць
Над нястомнаю плынню Дняпра,
Будуць вечна, нязбудна спаць
Дзед Піліп і яго сястра.
У клапотах, якіх віхор,
Не пакінуць мяне ні на міг,
Бо ёсць права ў тых, хто памёр,
Ад бяды бараніць жывых.
Быццам зоркі нябёс, неўпрыкмет
Падыходзяць да родных сядзіб
І, здаецца, глядзяць мне ўслед
Баба Ганна і дзед Піліп.

Клайв Стэйплз Льюіс

# Чатыры віды любові

## Раздзел II

## Упадабанні і любоў да таго, што ніжэй за чалавека

Для некаторых людзей, асабліва для жыхароў Англіі і Расіі, тое, што мы называем «любоўю да прыроды», з'яўляецца трывалым, сур'ёзным пачуццём. Я маю на ўвазе тую любоў да прыроды, якую нельга ў поўнай меры назваць звычайным праяўленнем нашай цягі да прыгажосці. Зразумела, што многае ў прыродзе — дрэвы, кветкі і жывёлы — прыгожае. Але тыя аматары прыроды, пра якіх я кажу, не надта захапляюцца асобнымі прыгожымі з'явамі такога кшталту. Падобны чалавек іх збянтэжыць. Для сапраўднага аматара прыроды няма горшай кампаніі на доўгі шпацыр, чым поўны энтузіязму батанік, бо ён заўжды спыняецца, каб звярнуць увагу свайго спадарожніка на дробязі. Тыя, хто любіць прыроду, не шукаюць і «краявідаў», прыгожых ландшафтаў. Вордсварт[6], прамаўляючы ад іх імя, рэзка асуджае падобны падыход, што вядзе да «параўнання пейзажу з пейзажам», прымушае вас «забаўляцца ўбогай розніцаю колераў і формаў». І, цалкам занятыя крытыкай ды пошукам адрозненняў, вы губляеце тое, што мае сапраўднае значэнне, — «настрой часу і пары года», «дух» пэўнага месца. І, без сумневу, у гэтым Вордсварт мае рацыю. Таму, калі вы любіце прыроду так, як любіў яе ён, для вас пейзажыст — нават горшая кампанія на шпацыры, чым батанік.

Менавіта «настрой» і «дух» — самае галоўнае. Людзі, любячы прыроду, жадаюць як мага паўней увабраць тое, чым (калі так можна выказацца) яна з'яўляецца ў кожнае асобнае імгненне ў кожным асобным месцы. Відавочная раскоша, вытанчанасць і гарманічнасць аднаго краявіду і злавеснасць, панурасць, змрочнасць і ўбоства іншага маюць для іх аднолькавую каштоўнасць. Нават самы непрыкметны від выклікае ў іх душах гарачы водгук, з'яўляючыся яшчэ адным словам, прамоўленым прыродаю. Сапраўдныя аматары прыроды адкрытыя нават на самыя тонкія ўласцівасці кожнага краявіду ў любую гадзіну дня і ночы. Яны жадаюць насыціцца ім напоўніцу, яшчэ і яшчэ раз увабраць у сябе ўсе яго адценні.

Гэтыя перажыванні, як і многія іншыя, спачатку, у XIX стагоддзі, былі ўзнесеныя да нябёсаў, а пасля — развянчаныя. У адным можна дакладна згадзіцца з крытыкамі Вордсварта — перастаючы апісваць усё як паэт і пачынаючы гаварыць пра любоў да прыроды як філосаф (хутчэй, псеўдафілосаф), ён нясе бязглуздзіцу. Неразумна лічыць, не маючы гэтаму ніякіх сведчанняў, што кветкі цешацца паветрам, якім дыхаюць, і яшчэ больш неразумна не дапускаць, што яны непазбежна павінны пакутаваць у той жа ступені, у якой і радавацца. Нямногія людзі аказаліся здольнымі пераняць маральныя прынцыпы ў прыроды разам з «подыхам вясновага лесу».

А калі б і перанялі, гэта не абавязкова былі б тыя самыя прынцыпы, якія так ухваляў Вордсварт, а мог быць, напрыклад, прынцып бязлітаснай канкурэнцыі. Для некаторых нашых сучаснікаў так і ёсць, мне здаецца. Яны захапляюцца прыродаю, пакуль бачаць, як тая ўсклікае да «цёмных крывавых багоў», любячы яе не насуперак, а дзякуючы таму, што ў прыродзе пажадлівасць, голад і няўрымслівая сіла дзейнічаюць па-за сорамам або шкадаваннем.

Калі ўзяць сабе прыроду за настаўніцу, яна навучыць вас дакладна таму, чаму вы самі вырашылі навучыцца, — і гэта яшчэ раз сведчыць, што прырода няздольная вучыць. Відавочна, што схільнасць лічыць яе настаўніцаю буйна ўзрастае на глебе тых перажыванняў, якія мы называем «любоўю да прыроды». Але гэта толькі штучная прышчэпка. Калі ўсур'ёз звярнуцца да тэмы, «настрой» і «дух» прыроды знаходзяцца па-за маральнасцю. Яны здольныя шчодра напоўніць вас і ашаламляльнаю весялосцю, і ні з чым не параўнальнаю веліччу, і панурым спусташэннем. Вазьміце ад прыроды ўсё, што можна, калі наогул лічыце гэта патрэбным. Адзіны імператыў, з якім прырода звяртаецца да чалавека, гэта: «Глядзі. Слухай. Назірай».

Памылкова разумеючы гэты імператыў, людзі пачынаюць будаваць на ім свае тэалогіі, пантэалогіі і антытэалогіі, якія вельмі лёгка разбураюцца, але ўсё гэта ніяк не ўплывае на самую сутнасць нашага перажывання прыроды. І аматары Вордсварта, і прыхільнікі «цёмных крывавых багоў» пераймаюць у прыроды сімволіку — мову вобразаў. Я маю на ўвазе не проста візуальныя малюнкі, а менавіта «настрой» і «дух» прыроды. Магутныя праявы жуды, смутку, весялосці, жорсткасці, пажадлівасці, нявіннасці, чысціні — усё гэта яе вобразы. У іх кожны можа захінуць сваю ўласную веру. Варта вучыцца тэалогіі і

*Працяг. Пачатак у 2 за 2013 г.*

філасофіі недзе ў іншым месцы — не дзіва, што ў гэтым нам часта дапамагаюць тэолагі і філосафы.

Але, кажучы пра магчымасць «захінуць» сваю веру ў прыродныя вобразы, я не маю на ўвазе выкарыстанне прыроды дзеля параўнанняў або метафараў, па прыкладзе паэтаў. Магчыма, замест «захінуць» лепш было б сказаць «напоўніць» або «ўвасобіць». Большасць людзей, да ліку якіх я таксама сябе адношу, ніколі не здолелі б укласці хоць нейкі сэнс у словы вызнання веры, калі б не праявы прыроды. Не прырода дала мне зразумець, што існуе Бог славы і бязмернай велічы. Я мусіў навучыцца гэтаму іншым шляхам. Але прырода надала для мяне сэнс слову «слава». Я і да гэтай пары не ўяўляю, дзе яшчэ змог бы ўбачыць яго ўвасабленне. Я і падумаць не магу, якім чынам «боязь Божая» магла б значыць для мяне нешта большае, чым найпрасцейшае, прадыктаванае разважлівасцю прагненне бяспекі, калі б я ніколі не бачыў у гарах злавесных безданяў і недасяжных скалаў. І калі б прырода не абуджала ўва мне ніякіх памкненняў, неабсяжныя прасторы таго пачуцця, якое я называю сваёю «любоўю» да Бога, ніколі, як мне здаецца, не былі б адкрытыя.

Зразумела, той факт, што хрысціянін можа выкарыстоўваць прыроду з падобнаю мэтаю, нават намёкам не даказвае праўдзівасці хрысціянства. Я мяркую, што і прыхільнікі цёмных багоў могуць з роўным правам выкарыстоўваць прыроду на карысць свайму веравызнанню. У гэтым і заключаная сутнасць пытання — прырода не здольная навучыць. Сапраўдная філасофія можа час ад часу абгрунтаваць прыродную з'яву, але прыродная з'ява не можа стаць абгрунтаваннем філасофіі. Прырода не можа сведчыць на карысць ніякай тэалагічнай або метафізічнай тэзе (прынамсі не такім шляхам, пра які мы тут разважаем), але яна дапаможа гэтую тэзу растлумачыць.

І ў тым, што тычыцца перадумоваў хрысціянства, — гэта не выпадковасць. Справядліва спадзявацца ўбачыць намёк на няствораную веліч у велічы створанай, бо апошняя бярэ свой пачатак у першай і гэткім жа чынам з'яўляецца яе адлюстраваннем.

З'яўляецца яе адлюстраваннем у пэўнай ступені, але, магчыма, не такім простым і дакладным, як мы можам спачатку ўявіць. Бо, несумненна, усе факты, падкрэсленыя аматарамі прыроды, якія належаць да іншай школы мыслення, застаюцца фактамі: паразіты ў чэраве існуюць нароўні з першацветамі ў лесе. Паспрабуйце пагадзіць паміж сабою гэтыя з'явы прыроды або паказаць, што яны на самай справе не патрабуюць пагаджэння, і вы звернеце са шляху непасрэдных перажыванняў прыроды — тэмы нашых разважанняў — на шлях метафізікі або тэадыцэі, ці нечага падобнага. Гэтым пытаннем таксама мэтазгодна было б заняцца, але мне здаецца, што трэба адрозніваць яго ад любові да прыроды. Калі мы ўсё яшчэ знаходзімся на ўзроўні разважання аб тым, што прырода непасрэдна «кажа» нам, трэба трымацца гэтага ўзроўню. Мы ўбачылі ў прыродзе вобраз славы, але не варта імкнуцца знайсці ў гэтым вобразе прамыя шляхі, якія прывялі б нас да больш глыбокага пазнання Бога. Яны чэзнуць праз некалькі крокаў — усе гэтыя сцежкі глушаць страхі і таямніцы, бязмерная глыбіня Божых намераў і заблытаны клубок гісторыі сусвету. Імі не прайсці, яны для гэтага непрыдатныя. Трэба скіравацца ў абход — пакінуць пагоркі і лясы, вярнуўшыся ў працоўны кабінет, у касцёл, узяўшы ў рукі Біблію, стаўшы на калені. Інакш любоў да прыроды ператворыцца ў рэлігію. А гэта, калі і не прывядзе нас да цёмных багоў, выкліча шмат непаразуменняў і бязглуздзіцы.

Але не варта і здраджваць сваёй любові да прыроды, аддаючы яе на зганьбаванне непрыяцелям, адно толькі раю стрымліваць і абмяжоўваць яе належным чынам. Прырода не здольная задаволіць тых прагненняў, якія абуджае, не здольная даць адказаў на тэалагічныя пытанні, не здольная прывесці нас да святасці. Сапраўднае нашае падарожжа да Бога будзе пастаянна прымушаць нас адварочвацца ад прыроды, сыходзячы з асветленага зараніцаю поля ў цесны шэры касцёльчык або (здараецца і такое) — ідучы на працу ў адну з парафій убогага лонданскага Іст-Энду. Але любоў да прыроды бывае каштоўнаю, а для некаторых дык проста неабходнаю ў пачатку шляху.

Не варта казаць «бывае», бо насамрэч, людзі, якія не дазваляюць сваёй любові да прыроды ісці задалёка, аказваюцца здольнымі захаваць яе — а так і павінна быць. Любоў да прыроды, ператвараючыся ў рэлігію, становіцца богам, а гэта значыць — становіцца дэманам. А дэманы ніколі не трымаюць сваіх абяцанняў. Прырода «памірае» для тых, хто жыве адною любоўю да яе. Колрыдж[7] стаў у рэшце рэшт да яе нячулым, Вордсварт пачаў бедаваць, што слава яе мінула. Маліцеся ў ранішнім садзе і будзьце непахіснымі, не засяроджваючыся на кроплях расы, птушках і кветках, і тады вы здолееце выйсці з саду зачараваныя і захопленыя свежасцю і радасцю прыроды. Калі ж вы пойдзеце туды з мэтаю адчуць захапленне — міне некалькі гадоў і ў дзевяці выпадках з дзесяці вы нічога не адчуеце.

Цяпер варта паразмаўляць пра любоў да Радзімы. У гэтым кантэксце няма патрэбы падрабязна тлумачыць выказванне Дэні дэ Ружмона — усе мы ў сённяшнім свеце ведаем, што гэтая любоў становіцца дэманам, калі становіцца богам. Часам узнікаюць падазрэнні, што яна толькі дэманам і бывае. Але ў такім выпадку трэба адмовіцца ад паловы ўзнёслых вершаў і паловы гераічных учынкаў, створаных і здзейсненых людзьмі. Трэба забыцца нават пра плач Хрыста над Ерузалемам, настолькі выразна ў ім гучыць любоў да Радзімы.

Давайце абмяжуем поле нашых разважанняў: даследаванне на тэму агульна-чалавечага кодэксу маралі будзе тут залішнім. Калі любоў да Радзімы

набывае д'ябальскія рысы, яна натуральным чынам вядзе да злачынстваў. Магчыма іншыя, больш дасведчаныя людзі вызначаць, які тып міжнацыянальных стасункаў з'яўляецца злачынным, мы ж толькі паразважаем над самім пачуццём патрыятызму з мэтаю адрозніць нявінныя яго праявы ад праяваў д'ябальскіх. Ніводныя з гэтых праяваў напрамую не абумоўліваюць дзеянняў пэўнага народа. Бо, кажучы строга, кіраўнікі, а не народ, займаюцца міжнароднымі справамі. Д'ябальскі патрыятызм падуладных грамадзянаў (я звяртаюся толькі да падуладных) можа дапамагчы ім дзейнічаць несправядліва, здаровы патрыятызм — перашкодзіць у гэтым. Беспрынцыпныя кіраўнікі праз прапаганду могуць паўплываць на пачуцці людзей так, што тыя набудуць д'ябальскую форму і дапамогуць атрымаць маўклівую згоду народа на іх злачынствы. Добрыя ж кіраўнікі ўчыняць наадварот. Гэта прычына, па якой кожны чалавек паасобку павінен сачыць, наколькі здаровая ягоная любоў да Радзімы. Менавіта аб гэтым я пішу.

Амбівалентнасць любові да Радзімы даказвае тое, як палымяна пісалі пра яе і Кіплінг, і Чэстэртан. Калі б не гэтая размаітасць патрыятызму, такія розныя людзі не здолелі б аднолькава праслаўляць яго. Насамрэч, любоў да Радзімы мае мноства складнікаў, якія ўтвараюць розныя спалучэнні.

Першы складнік — любоў да свайго дому, да месца або многіх месцаў, дзе мы ўзрасталі і дзе быў наш дом, а таксама да ўсяго наваколля, такога падобнага да нашых родных мясцінаў. Гэта любоў да старых сяброў, да знаёмых краявідаў, гукаў і пахаў. Заўважце, што ў сваім найшырэйшым праяўленні для нас — гэта любоў да Англіі, Уэльса, Шатландыі і Ольстэра. Толькі чужынцы і палітыкі кажуць пра «Брытанію». Словы Кіплінга «Я ненавіджу ворагаў імперыі маёй» гучаць крыху недарэчна і фальшыва. Якая «мая імперыя»?! Любоў да месца азначае і любоў да ладу жыцця: да піва, гарбаты і камінаў, да цягнікоў з асобнымі ўваходамі ў купэ, бяззбройных паліцмэнаў і да мноства іншых рэчаў; любоў да мясцовай гаворкі і крыху меншая — да роднай мовы. Як кажа Чэстэртан, чалавек з тых жа прычынаў не хоча, каб ягонаю краінаю кіравалі чужынцы, з якіх не жадае, каб спалілі ягоны дом, бо «немагчыма нават пачаць» пералічваць усё тое, чаго ён будзе тады пазбаўлены і па чым будзе сумаваць.

Цяжка знайсці хоць нейкую разумную прычыну, з якой можна было б асудзіць такое пачуццё. Як любоў да сваёй сям'і з'яўляецца для нас першым крокам убок ад уласнага эгаізму, патрыятызм — гэта першы крок убок ад эгаізму сямейнага. Зразумела, патрыятызм — не чыстая міласць, бо за ім стаіць любоў да бліжніх суседзяў, а не да Бліжніх, любіць якіх загадаў нам Хрыстус. Але той, хто не любіць сваіх землякоў, якіх бачыць кожны дзень, наўрад ці пойдзе далёка ў любові да абстрактнага «чалавека». Усе натуральныя прывязанасці разам з гэтаю могуць стаць перашкодамі для духоўнай любові, але могуць паслужыць і падрыхтоўкаю да яе, умацоўваючы «духоўныя мускулы» чалавека на той выпадак, калі ласка Божая даверыць яму больш высокае і адказнае служэнне. Так дзяўчынка спачатку песціць ляльку, а стаўшы жанчынаю — дзіця. Можа здарыцца, што трэба будзе вырачыся гэтай любові, вырваць сваё правае вока, але дзеля гэтага трэба прынамсі мець вочы — стварэнне, якое пазбаўлена вачэй і мае адно толькі якуюсьці «святлоадчувальную плямку», проста не зразумее сэнсу гэтых суровых словаў.

Не выклікае сумневаў, што падобны патрыятызм цалкам пазбаўлены агрэсіі. Ён патрабуе аднаго: каб яго пакінулі ў супакоі, і набывае ваяўнічы характар, толькі жадаючы абараніць прадмет сваёй любові. Кожны чалавек, не абдзелены хоць кропляю ўяўлення, прыязна паставіцца да чужынцаў. Як можна любіць свой родны дом, не разумеючы, што іншыя людзі з не меншым правам любяць сваё? Варта толькі зразумець, што французы любяць *café complet* так, як мы любім яечню з беконам, — што ж, абы ім добра было, няхай п'юць сваю каву. Ніхто не пажадае, каб усё ў свеце было аднолькавае, як у нас дома. Родны дом перастане быць родным, страціўшы сваю адметнасць.

Другі складнік патрыятызму — гэта асаблівае стаўленне да мінулага сваёй Айчыны. Я маю на ўвазе тое мінулае, якое жыве ва ўяўленні народа, велічныя дзеі нашых продкаў. Узгадайце Марафон. Узгадайце Ватэрлоа. «*We must be free or die who speak the tongue that Shakespeare spoke*» — «Свабода або смерць — тым, хто гаворыць моваю Шэкспіра»[8]. Славутае мінулае накладае на нас пэўныя абавязкі і адначасова дае ўпэўненасць — мы не можам здрадзіць тым высокім патрабаванням, якія паставілі перад намі нашыя продкі, але паколькі мы — іх нашчадкі, існуе вялікая надзея, што мы здолеем адпавядаць свайму найменню.

Падобнае пачуццё патрыятызму карыстаецца не такою добраю славаю, як звычайная любоў да роднага дому. Рэальная гісторыя любой краіны поўная нізкіх і нават ганебных падзеяў. Калі вымяраць айчынную гісторыю аднымі гераічнымі ўчынкамі, у нас складзецца памылковае ўяўляенне пра яе і гэта зробіць нас бездапаможнымі перад сур'ёзнаю гістарычнаю крытыкаю —таму патрыятызм, заснаваны на славутым мінулым, такі прываблівы для аматараў выкрываць чужыя памылкі. Калі мы вывучым гісторыю лепш, не выключана, што патрыятызм такога тыпу разваліцца і ператворыцца ў пазбаўленую ілюзій цынічнасць, захаваць жа яго можна, толькі свядома заплюшчыўшы вочы на рэальнасць. Але хто зможа закляйміць пачуццё, якое прымушае стольких людзей паводзіць сябе нашмат лепш, чым яны былі б здольныя без ягонай дапамогі?

Мне здаецца, вобраз славутага мінулага Радзімы можа ўмацоўваць нас, не падманваючы і не напаўняючы пыхаю. Ён становіцца небяспечным дакладна ў

той меры, у якой яго блытаюць і спрабуюць замяніць ім сістэматычнае вывучэнне гісторыі. Гістарычныя байкі — гэта цудоўна, калі ўспрымаць іх як байкі і гэтак да іх ставіцца. Я не маю на ўвазе, што ўсе байкі трэба лічыць чыстаю выдумкаю, бо некаторыя з іх, апроч усяго, — праўдзівыя. Але ў байках варта падкрэсліваць само апавяданне, малюнак, які распаляе ўяўленне, прыклад, які ўмацоўвае волю. Школьнік, слухаючы такую байку, павінен інтуітыўна адчуваць, не могучы вытлумачыць гэта словамі, што ён чуе сагу. Дазвольце яму захапляцца, лепш за ўсё па-за школаю, «Дзеямі, што здабылі імперыю»[9]. Але чым менш змешваць гераічныя сагі з урокамі гісторыі, чым радзей блытаць іх з сур'ёзным даследаваннем (горш, калі з апраўданнем) імперскай палітыкі, тым лепш. Яшчэ дзіцем я меў кніжку з мноствам каляровых малюнкаў, якая называлася «Гісторыі пра наш востраў». Мне заўжды здавалася, што гэтая назва — вельмі правільная, а сама кніжка не была нават падобная да падручніка. Атрутаю, з якой бярэ пачатак злаякасны патрыятызм, — які, зрэшты, рэдка затуманьвае розум дарослага адукаванага чалавека, — з'яўляецца абсалютна сур'ёзнае навязванне моладзі фальшывых і тэндэнцыйных гістарычных ведаў. Не варта апранаць гераічную легенду ў шэрыя шаты раздзела з падручніка гісторыі. Гэта прыводзіць да маўклівага дапушчэння, што іншыя народы не маюць сваіх герояў, і нават да веры (якая слаба стасуецца з біялогіяй), што мы здольныя літаральна «наследаваць» гераічныя традыцыі свайго народа. А гэткая вера амаль непазбежна вядзе да трэцяга складніку, які час ад часу таксама называюць патрыятызмам.

Гэтае трэцяе — нават не сантымент, а цвёрдае глухое перакананне ў тым, што твой народ на самай справе і раней і цяпер стаіць нашмат вышэй за ўсе астатнія. Неяк я асмеліўся сказаць аднаму святару, вызнаўцу патрыятызму такога кшталту: «Але, шаноўны, кажуць жа, што кожны народ лічыць сваіх мужчын самымі адважнымі, а жанчын — самымі прыгожымі». Той вельмі сур'ёзна і ўрачыста — быццам чытаў «Веру ў Бога» каля алтара — сказаў: «Так, але ж у дачыненні да Англіі — гэта праўда». Трэба заўважыць, што падобныя перакананні не азначаюць, што мой сябра (супакой ягонай душы) стаў злыднем, ён проста вельмі мілы стары асёл. Аднак некаторыя аслы здольныя брыкацца, а могуць і ўгрызці. Фанатычныя прыхільнікі азначанай кропкі гледжання здольныя з галавою кінуцца ў масавы расізм, які і хрысціянства, і навука асуджаюць у роўнай ступені.

Такім чынам мы прыйшлі да чацвёртага складніку патрыятызму. Калі дапусціць, што нашая нацыя насамрэч бязмерна лепшая за ўсе астатнія, гэта або накладае на нас пэўныя абавязкі або дае пэўныя прывілеі перад іншымі. У XIX стагоддзі Англія вельмі добра ўсвядоміла падобныя абавязкі: «бярэмя белага чалавека». Мы самі вызваліся ўзяць пад апеку і навучаць тых, каго называлі «тубыльцамі». Не ўсё ў гэтым — крывадушнае, нешта добрае мы сапраўды для іх зрабілі. Але свету было моташна ад нашай манеры гаварыць так, нібы матывы Англіі ў набыванні ўсё новых тэрыторый і пашырэнні імперыі (або матывы маладзёнаў, якія шукалі сабе пасады на дзяржаўнай службе ў Індыі) былі выключна альтруістычнымі. Аднак гэта была дэманстрацыя пачуцця перавагі і выключнасці ў яго лепшай форме. Некаторыя ж нацыі, таксама вылучаныя падобным пачуццём, падкрэслівалі свае выключныя правы, а не абавязкі. Для іх некаторыя народы былі такімі кепскімі, што гэта давала права вынішчаць іх. Іншыя ж, прыдатныя толькі да таго, каб секчы дрэвы або цягаць ваду для прадстаўнікоў выбранай нацыі, трэба было прымусіць выключна гэтым і займацца. Ведай свайго гаспадара, сабака! Зразумела, я не думаю, што стаўленне з пазіцыі «абавязка» і стаўленне з пазіцыі «права» — адное і тое ж. Але абодва падыходы вядуць да катастрофы. Абодва патрабуюць, каб «пашыраліся больш і больш»[10] падуладныя ім тэрыторыі. Абодва маюць відавочную прыкмету зла: яны здольныя пазбегнуць камічнасці толькі стаўшы жахлівымі. Фарс такога напышлівага патрыятызму адразу кідаўся б у вочы, калі б не парушаныя дамовы з індзейцамі, вынішчэнне тасманійцаў, газавыя камеры, канцэнтрацыйны лагер у Бельзэне, расстрэл мірнай дэманстрацыі каланіяльнымі ўладамі ў Амрытсары, жорсткасць брытанскага войска ў Ірландыі, апартэід.

Нарэшце, мы дасягаем стадыі, калі патрыятызм у сваёй дэманічнай форме пачынае несвядома супярэчыць сябе самому. Чэстэртон прыводзіць два радкі з Кіплінга ў якасці ўзору. Гэта несправядліва ў адносінах да самога Кіплінга, які цудоўна ведаў, што такое любоў да роднага дому, хоць сам яго і не меў. Але самі па сабе радкі паслужаць найлепшым падсумаваннем тэмы нашых разважанняў:

*«If England was what England seems*
*'Ow quick we'd drop 'er. But she ain't!»* —
*«Была б Англія такой, якой здаецца,*
*мы хутка кінулі б яе. Але ж гэта не так!»*

Любоў ніколі не скажа падобнага. Нельга любіць сваіх дзяцей толькі тады, калі яны «харошыя», сваю жонку — толькі пакуль у яе не з'явяцца зморшчыны, а свайго мужа — толькі пакуль ён знакаміты і паспяховы. Грэкі казалі: «Чалавек не таму любіць свой горад, што той велічны, але таму, што той — ягоны». Чалавек, які сапраўды любіць сваю Радзіму, будзе любіць яе і ў зруйнаванні, і ва ўпадку: «*England, with all thy faults, I love, thee still*» — «О Англія, з усімі хібамі тваімі я ўсё ж люблю цябе»[11]. Для яго яна будзе «мізэрная, але свая»[12]. Можна лічыць Айчыну славутаю і велічнаю, хоць яна такою і не з'яўляецца, з той прычыны, што любіш яе, — гэткую ілюзію лёгка прабачыць. Але ў вершы Кіплінга жаўнер робіць наадварот: ён любіць Айчыну, бо лічыць яе славутаю і велічнаю, любіць яе па яе заслугах. Справы ў краіне ідуць паспяхова, і гэта спрыяе яго грамадзянскаму гонару. А калі Радзі-

ма страціць усё? Адказ відавочны: «Мы хутка кінулі б яе». З тонучага карабля трэба бегчы. Мы бачым, што патрыятызм, які не можа існаваць без урачыстага грому барабанаў і высока паднятых штандараў, насамрэч выбірае «шлях у Вішы»[13] — шлях здрады. Гэта феномен, які яшчэ сустрэнецца нам, — калі натуральная любоў становіцца беззаконнаю, яна не проста шкодзіць усім іншым відам любові, а сама страчвае якасці, уласцівыя любові, перастае быць ёю.

Такім чынам, у любові да Радзімы — шмат абліччаў. Тыя, хто хоча цалкам адмовіцца ад патрыятызму, здаецца, не ўсведамляюць, што зойме (што ўжо займае) яго месца. Яшчэ доўга, а магчыма, і заўжды, народы будуць жыць у небяспецы. Улады павінныя нейкім чынам дадаваць сілы і мужнасці сваім падуладным у абароне Айчыны, прынамсі ў гатоўнасці абараняць яе. Там, дзе пачуццё патрыятызму было знішчанае, гэта магчыма толькі шляхам прэзентавання любога міжнароднага канфлікту ў цалкам этычным святле. Там, дзе людзі не гатовыя потам і крывёю абараняць «сваю Айчыну», іх можна прымусіць адчуць, што ўсё чыніцца на карысць справядлівасці, цывілізацыі, чалавецтва. Гэта ўпадак, а не пад'ём. Зразумела, пачуццё патрыятызму не азначае, што мы не павінны зважаць на этычныя прынцыпы. Добры чалавек хоча быць перакананым у тым, што справа, за якую змагаецца яго краіна — справядлівая, але, тым не менш, гэта справа ягонай краіны, а не справядлівасці ў цэлым. Мне здаецца важнаю розніца паміж гэтымі паняццямі. Без усялякай фальшывай праведнасці і не крывячы душою, я буду лічыць, што абараніць свой дом ад рабаўнікоў сілаю — гэта справядліва, але калі настойваць, што я заехаў злодзею ў вока толькі дзеля перамогі маральнасці — не зважаючы на той факт, што ён збіраўся абрабаваць мой дом, — такая духоўная фальшывасць і крывадушнасць проста невыносныя. Мы схлусім, калі паспрабуем прыпадобніцца да Дон Кіхота і скажам, што стаім на баку Англіі толькі таму, што гэта справядліва. Нонсэнс. І наступствы такіх недарэчнасцяў страшныя: калі справа нашай краіны — справа Божая, вайна павінна несці поўнае вынішчэнне. Рэчам, якія належаць выключна да гэтага свету, не варта надаваць фальшывы трансцэндэнтны характар.

Стары патрыятызм слаўны тым, што быў здольны загартаваць чалавека і надаць яму рашучасці чыніць вялікія справы, але пры гэтым памятаў, што застаецца толькі пачуццём. Войны могуць быць гераічнымі і не прэтэндуючы на званне святых. Смерць героя не варта блытаць са смерцю пакутніка. І таму (як жа гэта цудоўна!) тое пачуццё патрыятызму, што магло быць такім сур'ёзным на полі бойкі, у мірны час набывала лёгкасць, уласцівую кожнай шчаслівай любові. Яно набывала здольнасць смяяцца з сябе самога. Старыя патрыятычныя песні немагчыма спяваць без гарэзлівасці ў вачах, сучасныя ж больш падобныя да касцёльных гімнаў. Я хутчэй падпяю «тра-та-та-тай-ра» ў «Брытанскіх грэнадзёрах», чым зацягну «Зямлю надзеі і славы».

Трэба адзначыць, што від любові, які я апісваю, і ўсе яго складнікі могуць адносіцца не толькі да роднай краіны, але і да ўстановы, дзе вы вучыліся, і да палка, у якім служылі; такая любоў уласцівая і вялікай сям'і, і саслоўю, яна падуладная тым жа самым слабасцям. Падобнае пачуццё можа ўзнікнуць і ў адносінах да ўстановаў, якія патрабуюць большага, чым натуральнай прывязанасці: да Касцёла або (на вялікі жаль) да нейкай групоўкі ў Касцёле, да манаскага ордэну. Гэтай жахлівай тэме варта прысвяціць асобную кнігу. Цяпер жа дастаткова будзе сказаць, што Нябесная супольнасць з'яўляецца таксама і зямною. І наш патрыятызм, цалкам звычайны ў адносінах да зямной супольнасці, вельмі лёгка можа пазычыць трансцэдэнтальныя рысы ў любові да Нябеснай супольнасці і пачаць прэтэндаваць на яе правы дзеля апраўдання самых ганебных учынкаў. Калі кніга на гэтую тэму раптам будзе напісаная, чаго я не маю намеру рабіць, яна павінна стаць поўнай споведдзю, створанай хрысціянамі пра асаблівы характэрны ўнёсак хрысціянскага свету ў сусветны збор жорсткасці і падступнасці. Бязмежныя абшары «вялікага свету» не пачуюць нас, пакуль мы публічна выракаемся вялікай часткі нашага мінулага. З якой рацыі яны павінны? Мы гучна крычалі імя Хрыста, а самі ў гэты час служылі Малоху.

Можа здавацца, што я не павінен завяршаць раздзел пра любоў да таго, што стаіць ніжэй за чалавека, не сказаўшы ні слова пра любоў да жывёлаў. Але гэта лепш зрабіць у іншым раздзеле. Ці жывёлы насамрэч валодаюць асабовасцю ці не, мы любім іх так, нібы валодаюць. Фактычную або ілюзорную асабовасць нашых улюбёнцаў нельга адкінуць, таму прывязанасць, якую мы, апроч іншага, маем у адносінах да жывёлаў, стане тэмаю наступнага раздзелу.

*Пераклад з англійскай мовы Юліі Шэдзько.*
*Паводле: «The four loves», C. S. Lewis, 1958.*

*Працяг будзе.*

---

[6] Уільям Вордсварт (*William Wordsworth*) — 1770–1850, таленавіты паэт эпохі Рамантызму, прадстаўнік «Азёрнай школы» паэзіі, славуты вершамі пра прыроду.

[7] Сэмюэл Тэйлар Колрыдж (*Samuel Taylor Coleridge*) — 1772–1834, вядомы паэт эпохі Рамантызму, прадстаўнік «Азёрнай школы» паэзіі, філосаф і літаратурны крытык.

[8] Цытата з санета Уільяма Вордсварта.

[9] «*Deeds that won the empire*» — папулярная кніга Уільяма Генры Фітчэта (*William Henry Fitchett*) — 1841–1928, аўстралійскага выкладчыка, журналіста і рэдактара, зборнік яго патрыятычных артыкулаў.

[10] Радкі з патрыятычнай песні «*Land of Hope and Glory*» — «Зямля надзеі і славы»; прэтэндуе на званне неафіцыйнага гімна Англіі.

[11] Радкі з верша Уільяма Коўпера (*William Cowper*) — 1731– 1800, паэта, вядомага сваімі гімнамі.

[12] Недакладная цытата з п'есы Шэкспіра «Дванаццатая ноч, альбо Чаго пажадаеце».

[13] Назва працы французскага каталіцкага палітычнага філосафа Іва Рэнэ Мары Сімона (*Yves Rene Marie Simon*) — 1903–1961, дзе храналагічна апісваецца, як Францыя паддалася ўплыву нацысцкай Германіі.

Данута Бічэль

# Песня ветру ў непакошаным балоце

Патэлефанавала да мяне дзяўчына з Менску і спытала, ці можна ёй прыехаць у Гародню, каб паразмаўляць пра песню і паабедаць са мною. Ніхто са сталіцы на абед да мяне не напрошваецца…

— Ну, чаму ж, прыязджай, — кажу я дзяўчыне.

Яна прыехала з бабулінай палескай агароднінай і буханкай хатняга хлеба.

— Беларуская традыцыя – прыязджаць у госці з хлебам!—сказала дзяўчына.

Ехала ў Гародню з мамай, цёткай і малодшай сястрой. Пакуль яны на рынках Гародні шукалі еўрапейскага адзення і абутку, зайшла да мяне. Апраўдалася:

— Аднойчы я спытала ў барда Алеся Камоцкага, ці можна паехаць у Гародню да Дануты ў госці, і Алесь адказаў: — Калі надта хочацца, то чаму ж, можна…

— Давай знаёміцца, як цябе завуць?

— А мяне так і называюць — Песня.

Дзяўчына вырашыла сваё жыццё прысвяціць беларускай песні. Яе бабуля была вясковай спявачкай. Бабуля пражыла жыццё на Палессі, нарадзіла сямёра дзяцей, усе выраслі, пажаніліся і раз'ехаліся ў белы свет. Дзядулю забілі за дзвюх белых кабылкаў і чырвонага коніка, калі на Палессі пачалі ствараць калгасы, і бабуля рана засталася ўдавой. Усю тугу і пяшчоту яна пераспявала ў песнях, ператкала на кроснах, перавышывала на ручніках і абрусках. Яна ўпрыгожвала сваю хаціну вышыванымі радзюшкамі, падушкамі, паяскамі, малявала на белай печы чырвоныя кветкі і птахаў, каб хаціна святлела аж так, каб дзядуля з нябёс грэўся ад святла іх нерастрачанага кахання. Бабуля наткала столькі ручнікоў, што з іх можна звязаць дарожку з Палесся да неба, сустрэцца там з дзядулем зноў. Каб гэтая дарожка святлела іх дзецям і ўнукам…

На Каляды і на Вялікдзень дзеці збіраюцца каля бабулі. Сабраўшыся разам, успамінаюць паляшуцкія традыцыі…

Калі бабуля была дзяўчынай, пайшла на Купалле да Ясельды, дзе дзяўчаты пускалі вяночкі на ваду, і таксама пусціла свой васільковы вяночак. Хлопцы кінуліся ў хвалі, збунтавалі рэчку, палавілі вяночкі. Яе вяночак злавіў хлопец, якога яна раней не бачыла. Але пачала аб ім марыць з той купальскай ночы. Адкуль ён прыйшоў на Купалле? Куды ён знік?

У іхняй вёсцы ў царкву на ўсяночную перад Вялікаднем ездзілі мужчыны. Пасвянціўшы яйкі, кожны спяшаўся з усяночнай *са свянцонкай* дахаты. Трэба было абавязкова прыехаць першым!

Той самы хлопец першы прывёз свянцонку. Пастукаў у хату да бацькоў дзяўчыны на досвітку, папрасіў яе выйсці за яго, трымаючы перад сабой у плеценай талерцы велікодныя чырвоныя яечкі. Сям'я свянцонымі яечкамі адгавелася, дзяўчына дала згоду выйсці за хлопца. Яна ў тую ноч прысніла яго: хлопца, які на Купалле злавіў яе вяночак у Ясельдзе, і зняла амаль штоночы. А сніла яго, таму што перад сном пра яго мроіла. Дзяўчаты часта перад сном мрояць аб тым хлопцы, у якога закахаліся з першага погляду.

Дзядуля Песні называўся Іларыён. Пакуль ён быў маладым, не ведаў, што беларускі нацыянальны сцяг мае ў сабе такія колеры — белы, чырвоны, зноў белы, але ведаў, што гэта прыгожа. Каб везці сваю дзяўчыну ў царкву пад вянец, ён прыехаў у брычцы на тройцы коней: чырвоны конік быў запрэжаны пасярэдзіне, а дзве белыя кабылкі — прыпрэжаныя па краях...

На Палессі на Каляды калядоўшчыкі каледавалі, на Вялікдзень — валачобнікі валачобілі. Спяваць Песня навучылася ад бабулі, а бабуля — ад сваёй бабулі, ад калядоўшчыкаў і валачобнікаў. Вершы складаць Песня навучылася ад Жэні Янішчыц. Бабуля, як і паэтка, называлася Жэня, яны ж былі з таго самага балота, дзе няма пагоркаў, — адна бясконцая нізіна, як вялікая місачка.

Балота гайдаецца, угінаецца; калі аглядаеш балота, цяжка паверыць, што зямля мае форму мячыка. Там хочацца гуляць па лузе каля ракі, якая плыве без берагоў, але не разліваецца па сенажаці. Пра гэта расказаць немагчыма, пра гэта можна заспяваць песню, зразумелую ўсім людзям зямлі. Песня – гэта кладачка ад душы да душы. Паэтка Жэня Янішчыц была такая ж, як бабуля Жэня, — светлая, лёгкая, прыгожая, самабытная. Яна ўмела прымаць ад жыцця ўсё, што Бог даваў, бо жыць вучылася ад мамы і бабулі, а яны былі паляшучкамі…

Палешукі не адкрываюцца перад цэлым светам, яны адкрываюцца перад балотам, па якім ходзяць,

---

**Данута БІЧЭЛЬ** — паэтка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Нарадзілася ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне. У 1962 г. закончыла Гродзенскі педінстытут імя Я. Купалы. Аўтар кніг паэзіі «Дзявочае сэрца» (1960), «Нёман ідзе» (1964), «Запалянкі» (1967), «Доля» (1972), «Ты — гэта ты» (1976), «Браткі» (1979), «Дзе ходзяць басанож» (1983), «Загасцінец» (1985), «Даўняе сонца» (1987), «А на Палессі» (1990), «Божа, мой Божа» (1992), «Снапок» (1999), «На белых аблоках сноў» (2002), «Стакроткі ў вяночак Божай Маці» (2004), «Ойча наш...» (2008), «Іду сцяжынаю да Бога» (2012), а таксама кнігаў прозы «Хадзі на мой голас» (2008) і «Мост святога Францішка» (2010).

скачучы ад купіны да купіны, а яно гайдаецца. Калі здараецца пажар, прыносяць абраз «Неапалімая купіна», на якім Маці Божая ў зорцы, нібы ў вогнішчы, — і Маці Божая тушыць пажар. Бо навокал купіны – дрыгва, багна, яна не гарыць, калі толькі няма на балоце прыроднага газу і калі не загараецца торф на глыбіні.

Мая сястра Рэня нарадзілася прыгожай дзяўчынай, хлопец Мікалай «паляваў» на яе дзявоцтва па ўсім наваколлі. Дзяўчаты і хлопцы збіраліся разам з вёскі, з навакольных хутароў і засценкаў, хадзілі на балота па дурніцы. Да біскупскіх далучаліся мялёгаўскія і бурносаўскія. Ні збанкоў, ні кубкаў хлопцы з сабой не бралі. Кожны ведаў, у які кубак будзе высыпаць жмені дурніцаў. Нехта сыпаў, а нехта ўвогуле ягады збіраць не меў часу. Было шмат іншай «работы»: злавіць вужа, яшчарку, на крайні выпадак, халодную жабку ўкінуць дзяўчыне за каўнер. Некаму хацелася збіць дзяўчыну з дарогі, каб яна адстала ад ягадніц, заблудзіла ў балоце, каб ён яе вывеў на дарогу ці ў балоце пакінуў… Шмат завязвалася вострых жыццёвых прыгодаў. Але ўсім забаранялася падыходзіць да *чортавага вока*…

*Чортава вока* — гэта вялікая небяспека. Ніхто з яго не вылазіў. Ды не чуваць было ніводнага выпадку, нават ніводнай прыпавесці ці казкі, каб хто заблудзіў у лесе, трапіў *у чортава вока* і там застаўся. Не расказвалі такіх гісторый, каб чорт некага зацягнуў у *чортава вока*. Калі апавяданне даходзіла да гэтага месца, той, хто баіў, раптам замаўкаў, быццам яму аднімала мову…

За нашым абедам пераважна гаварыла Песня. Перад развітаннем яна падаравала мне бабуліну малітву:

*Лажуся спаць, дай Богу знаць,*
*дай, Божа, ночку пераначаваць*
*і з надзеяй другой ночкі дачакаць…*

Паехала Песня ў Менск. Згубілася. Зноў патэлефанавала восенню:

— Стаю ў Гародні на прыпынку каля аўтавакзала. Якім *тралікам* можна да Вас даехаць?

Не выглядала ў акно, але адчула па дыханні ветру з-пад хмары, як лёгкая аблачынка спускаецца з высокага неба. Яна вярталася з фестывалю «Бардаўская восень». Прывезла мне з фестывалю падарунак — кубак з надпісам: *Białystok wschodzący*… З далёкіх падарожжаў сябры прывозяць мне то кніжкі, то абразочкі, з Рыма і Асізі пілігрымы прывозяць драўляныя ружанчыкі, якія церпка пахнуць італьянскімі ружамі, мусіць, іх робяць з ружавага дрэўца…

Песня прывезла буханку хлеба. Спявала на фэсце як ганаровы госць. Калі сказала, колькі зарабіла грошай, я ўспомніла, як святы Францішак на пляцы ў Асізі спяваў псальмы і яму плацілі каменнем, з якога пасля пабудавалі касцёл, што захаваўся да нашага часу.

Абедалі і размаўлялі пра песню. Пра фэст я ведала болей, чым яна, бо слухала канцэрты па радыё «Рацыя». У тым годзе першае месца заняў бард Міхал Бараноўскі, які выканаў хрыплым рэчытатывам пад гітару песню «Дзяды».



Яна ж там працавала, таму не мела часу слухаць, акрамя сваіх выступленняў…

За гэты час яна запісала дыск, з'ездзіла да беларусаў на Далёкі Усход, была ў Варшаве і ў Берліне. Немцы не разумеюць беларускую мову, але зразумелі паляшуцкую песню. Песня ўзышла на вяршыню, але не дасягнула бабулінай глыбіні, таму не адрываецца ад бабулінай журбы:

*Ах, на шчасце яшчэ не засохла балота…*
*Запрашаю цябе ў журавінавы рай!*
*Ды за шчасце ніхто не купіў самалёта…*
*Дык журбу маю рэчанькай не разлівай…*

...Мая «пустэльня» знаходзіцца на першым паверсе, ды неяк я апускаюся ўсё ніжэй і ніжэй. А Песня паднімаецца на горачку. Разумее, што мы сустрэліся на містычнай кладачцы і разыходзімся ў розныя бакі, — яна бяжыць уверх, а я спускаюся ўніз. Мы ўжо далёка адна ад другой, і кожная са свайго балота. Мне не хочацца ні ў чым пераконваць ні Песню, ні яе пакаленне. Я застаюся ў драўлянай, саламянай, ільняной, палатнянай мове, у смутку, у слязіне, у снах…

Я ведаю, што адметнасцю песні павінна быць прастата.

Не маю жадання праходзіць ад пачатку бездараж праз балота, якое зацягвае не толькі цела, але і думкі, пачуцці, успаміны, душу, якое ўсмоктвае не толькі галасы птушак, але і хваробы з усяго наваколля. Душа вылятае праз акно і лётае па бязмеры, пакуль хворае цела сніць сябе птахам, але прачынаецца ранкам яшчэ хварэйшым, чым засынае.

Калі я мела спрытныя лёгкія ногі і худое празрыстае цела, я любіла збіраць журавіны, скакаць з купіны на купіну, не дакранаючыся да гадзюкаў. Але мае хлопцы па балоце за мной не ганяліся.

— Я хацела б паспяваць Вашы вершы…

— У маіх вершах надта няроўнае дыханне, а ты

так добра спяваеш свае. Лётай сабе і спявай, а я паціху буду апускацца. Там нехта на чацвярэньках вучыцца хадзіць, — раптам гэта і ёсць спявачка маіх вершаў…

Я ведаю, што песня — гэта не толькі экспрэсія ўнутранага стану, але і зварот да некага, каго ты любіш.

Я цяпер адна, так далёка ад усіх, так закінута і забыта, нібы мяне тут зусім няма. Мне не хочацца выходзіць з гэтага стану…

А чаму мы павінны боўтацца ўсе ў адным балоце? Я адчуваю скурай, што выкідаюся з аднаго, з другога і ўжо з трэцяга балота на грунт…

Ды не спапяліла мяне непрыйманне ўсімі маёй непрыстасаванасці да ўсіх.

Так, як Нёман і Дняпро пояць глыбінямі адну і тую ж Краіну, а ніколі не злучаюцца, не ўпадаюць у адно мора, нават у адно балота… Гаварыце сабе, што рэкі не маюць свядомасці, не ўмеюць думаць і любіць. Так я вам і паверыла! Гэткія качкі-вароны, да якіх не даходзіць, што Савецкі Саюз развеяўся, як дым, і рабіць літаратурныя праекты па старым узоры не мае сэнсу.

Літаратура, як літургія, павінна несці ў сабе ўласную сілу праменнасці, нават яснасці, уцягваць у сябе кожнага, хто знячэўку да яе дакранаецца...

Калі я прыехала са свайго песеннага балота ў горад, тут мяне чакалі творцы, якія разумелі прыроду таленту, яго праўдзівасць і самабытнасць. Яны бралі мяне з сабой да людзей на тыя пляцоўкі, якія ўжо асвоілі самі. Яны цанілі маю вясковую прастату, якая была смелай ад наіўноты. Казалі, што я безабаронная, але я была абароненая Аляксеем Карпюком і Васілём Быкавым. Я выходзіла да людзей са сваёй балотнай песняй, з няправільна выказанымі думкамі. Зборнік «Нёман ідзе» з выдавецтва выйшаў у вокладцы, абгорнутай супервокладкай: на супервокладцы змешчана была мая фатаграфія, а пад ёю аўтограф верша, недасканалага, няправільнага, які я забыла, памятаю толькі:

*краснапёрыя рыбкі мае дачакаюць свайго рыбалова…*

Спачатку кніжачка прадавалася ў краме з супервокладкай і аўтографам, але вельмі хутка гэтае ўпрыгожанне знікла. Ці паступіла такое распараджэнне ад партыйных структураў, ці гандаль вырашыў, што верш не адпавядае савецкім нормам, я тады «даследаванняў» не праводзіла.

Што зрабіць з думкай, якая прыходзіць у галаву пазней, чым трэба? Я такую думку запісваю. Спознены адказ. Спозненая думка. Спознены тэкст. Спозненую літаратуру не будзе чытаць пакаленне Песні…

А можа я памыляюся? У Біскупцах пераказвалі такую прыказку:

— Дай Божа майму дзіцяці розуму спераду, які ў беларуса — ззаду,— казаў жыд.

Калі трэба было спрачацца, я гаварыла абы-што. Па часе прыходзіў розум. Тады я пісала аб гэтым верш.

Паміж Апошняй Вячэраю і смерцю ёсць Гетсэмань. Самота, калі цябе ўсе пакідаюць і ўцякаюць, некуды хаваюцца… Але, калі Езуса схапілі, адзін «юнак, адзеты толькі посцілкай па клубах, ішоў за Ім. І яго схапілі, але ён выкруціўся з посцілкі і голы ўцёк ад іх» (Мк, 14, 51–52). Другі раз гэты юнак сядзеў у белай вопратцы збоку ў пустой магіле Езуса. Гэта Ён сказаў жанчынам, каб не палохаліся, што Езуса тут няма, бо ўваскрос… Я сама не магла б і дадумацца да сэнсу, каб не прачытала ў тэолага: юнак у белым сімвалізуе абраз Езуса. Пасля Ён будзе сядзець у хвале праваруч Бога Айца…

Кожны творца можа перажыць глыбока ўнутры сваё выкручванне з посцілкі, затрымацца ў Гетсэмані, паддацца самотнасці і агаленню, каб прыбрацца ў белае адзенне. Магчыма, Езус пасадзіць яго ў пустую магілу, каб адчуць смерць і пасля абвяшчаць Змёртвыхпаўстанне.

...Некалі ў нашым слаўным горадзе жыў слаўны чалавек, які зрэдку любіў са мной размаўляць. Мы адначасна выходзілі з хаты, я жыла на левым беразе Нёмана, а ён — на правым. Мне хацелася сустрэцца з ім на мосце святога Францішка, але заўсёды ён пераходзіў мост раней, чым я да моста даходзіла, і чакаў мяне на дзікім беразе Нёмана. Яму трэба было апраўдацца перад сабой, таму ён расказваў мне свае літаратурныя прыгоды, напрыклад, як прымусілі яго падпісацца пад калектыўным лістом, у якім партыя асуджала погляды непаслухмянага савецкага літаратара… Ён не падпісваў ліст — яго папярэджвалі па тэлефоне, што ў газетах будзе такі ліст, а пад ім, сярод іншых, будзе стаяць яго подпіс. І клалі слухаўку. Я была яго слухачом для супакаення сумлення. Слухала ўважліва, цьмяныя месцы прасіла растлумачыць.

Добра мець некага даверанага, каму можна сказаць найважнейшае, дзеля чаго людзі церпяць змаганне, крыж, шлях, боль і просяць прабачэння. А калі нікога няма — замыкаюцца ў клетцы свайго сэрца, і няма з іх ніякага плёну…

Паразмаўляўшы гэтак, выслухаўшы яго, я вярталася да сваіх дзяцей. Адказвала яму па дарозе — на адлегласці. Ніколі не спытала, ці чуў ён мяне на адлегласці, ці запісваў ён мой маналог у свой дзённічак. Уклала зборнік вершаў і дала яму пачытаць, а ён, такі разумны, не зразумеў, што гэтыя вершы — размова з ім.

...Ён уцёк з нашага правінцыйнага еўрапейскага моста. Уцёк не ад мяне, бо я не перашкаджала яму быць вольным. Але мне было самотна і няўтульна, пакуль я не навучылася слухаць таго, каго прысылае сюды Бог.

Я прашу ратунку ў святога Антонія, пра літаратуру размаўляю са святым Францішкам, аддаю сваіх дзяцей і ўнукаў у апеку Божай Маці. Слухаю Бога.

Я не мару пра тое, што са мной будзе, калі мяне тут не будзе…

# Уладзімір СІЎЧЫКАЎ



У бібліятэцы Балтыйскага цэнтра пісьменнікаў і перакладчыкаў. Верасень 2012 г.

## Таксідэрміст

З дзівосным чалавекам, земляком з ліку тых, кім варта ганарыцца, пазнаёміла мяне Галіна Іванаўна Аніскевіч, аўтарка кнігі «Жодино: история и современность». Гісторык паводле адукацыі, былая школьная настаўніца, кіруе яна цяпер групай па стварэнні жодзінскага (груватка, але так пазначана чыноўнікамі ў працоўнай кніжцы!) краязнаўчага музея. Пасля таго як паказала мне сваю гаспадарку — будынак былога гарадскога савета, дзе мяркуецца размясціць экспазіцыю, а таксама ўжо назапашаныя экспанаты, яна запыталася: «А да Пузанкевіча не жадаеце з'ездзіць?».

Дзіва што! Пазнаёміцца са спадаром Генадзем хацеў даўно — катэдж майго стрыечнага брата Ігара з паўгода ўпрыгожвае твор гэтага майстра. Таму неўзабаве шлях наш ляжаў у вёску Судабоўка, якая ўключана цяпер у гарадскія межы. Колісь хлапчукамі не раз ездзілі паўз яе на роварах, калі выбіраліся па карасёў на возера Судабле. Можа, нават закідвалі вуды поруч з Генам, а цяпер Генадзем Канстанцінавічам, бо мы з ім амаль што аднагодкі...

Праехалі лабірынтам вуліц і завулкаў дый патрапілі да адметнай сядзібы, што ледзь не на самым беразе Плісы. Ужо па аздобе франтона з салярным знакам было відаць, што жыве і працуе тут чалавек творчы, неабыякавы да прыгажосці. На дзвярах, прымацаваны на вяровачцы, вісеў як абярэг просты аловак.

«Надзвычай карысная рэч, — павітаўшыся, патлумачыў русабароды гаспадар. — Асабліва выручаў, калі яшчэ не было тэлефона. Той, хто не заспяваў мяне дома, мог напісаць запіску, а калі меў яшчэ што пакінуць, дык ведаў, што камора ў мяне заўсёды адчыненая».

А найчасцей спадару Генадзю прыносяць свае трафеі паляўнічыя. Нярэдка і загінулых птушак, галоўная небяспека якім — высакавольтныя электраліній, што цягнуцца ад цеплаэлектрацэнтралі. Прыносяць і падлеткі.

Справа ў тым, што акрамя прафесій лесніка, пчаляра, цесляра, садоўніка, фотамастака авалодаў гаспадар сядзібы і вельмі рэдкаю – майстра таксідэрмічных скульптур. А калі расшыфраваць, патлумачыць мудрагелістае слова «таксідэрміст» (ад грэц. taksis = будаўніцтва + скура), дык вырабляе ён пудзілы птушак і жывёлаў. Прычым настолькі па-майстэрску, што проста дзівуешся! Дый не проста пудзілы, а нярэдка з «разынкаю», са знаходкаю ў кампазіцыі, з мяккім гумарам. На пакручастай сасновай галіне суседнічаюць самая вялікая і самая малая совы, якія вядуцца на Беларусі, — барадатая кугакаўка і вераб'іны сычык. Ліса ўпалявала і моцна трымае ў пашчы курапатку, а тры зайцы застылі ў вобразах паляўнічых — са стрэльбамі, патранташамі, уваліхвацкіх капелюшах!

Цяжка даць веры, але ў гэтым своеасаблівым музеі дзвесце шэсцьдзясят экспанатаў! Сто шэсцьдзясят прадстаўляюць айчынную фаўну, але нямала й «гасцей»: птушкі, экзатычныя рыбы і нават алігатар.

Паказаў спадар Генадзь і святая святых — майстэрню, у якой шчыруе разам з жонкай Таццянаю. Адны пудзілы робяцца тут з нагоды, другія — для душы, але нямала і па замовах музеяў, лясніцтваў, запаведнікаў, паляўнічых гаспадарак і навуковых устаноў. Сярод прыватных за-

---

**Уладзімір Сіўчыкаў** — пісьменнік, мастак, выдавец. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў горадзе Жодзіна. Аўтар кнігі апавяданняў і п'ес «Гульня ў тастамант» (1992), кніг прозы «Лісты да брата» (1998), «Бювар» (2009), кнігі паэзіі «Высакосны год» (2004), слоўніка-даведніка «2000 русских, 2000 белорусских идиом…» (сумесна з А. Баярынай, 2006). Укладальнік (разам з А. Марачкіным) і адзін з аўтараў альбомаў «Жодзінцы. Жывапіс. Графіка. Мастацкае слова» (2008), «Рыцары Пагоні і Арла» (2010). Жыве ў Мінску.

моўцаў — найчасцей паляўнічыя і рыбаловы, прычым не толькі з Беларусі або з суседніх краін. Бывала, што адпраўляліся Генадзевы творы (язык не паварочваецца казаць — вырабы!) у Італію, у Нямеччыну, на Кіпр.

Уразілі таксама энцыклапедычныя веды гаспадара ў галіне арніталогіі. Адчуванне, што пра птушак, прынамсі, пра беларускіх, якіх з нядаўнім з'яўленнем стэпавага арла налічваецца трыста адзінаццаць відаў, ведае ён усё. І не толькі ведае — ахвотна і захоплена ведамі тымі дзеліцца. Праводзіць па сваёй сядзібе экскурсіі ад школ і прадпрыемстваў, кансультуе кнігавыдаўцоў і нават збірае навуковыя дадзеныя акадэмічнаму Інстытуту заалогіі! Прычым робіць усё гэта бескарысліва.

Можна было б спытацца, адкуль тыя веды ў выпускніка ўсяго толькі Барысаўскай лясной вучэльні — СПТВ-42? Адказ вельмі просты — апантанасць, цікаўнасць і штодзённая самаадукацыя. А штудзіраваць падручнікі, даведнікі і энцыклапедыі пачаў ён у падлеткавым узросце, чытаў нават, хаваючыся ад бацькоў з ліхтарыкам пад коўдраю!

А калі дадаць сюды фенаменальную працавітасць і працаздольнасць, дык становіцца зразумелым, чаму сёння на падворку і пры садзе суседзяцца, да прыкладу, вальеры з фазанамі, залацістым, срэбным і зялёным румынскім, а ледзь не побач са свойскімі жывёламі някепска пачуваецца і... нільскі кракадзіл! Здавалася б, невялікае дзіва – сажалка з карпамі, карасямі, лінамі ды шчупакамі. Але ж трэба было «выбіць» пад яе дазвол гарадскіх уладаў, а калі сажалку тую Пузанкевічы выкапалі, дык і ўдзячныя суседзі паразбівалі і свае грады на месцы былой балаціны.

А колькі дзівосаў у аранжарэі — семдзесят пяць відаў раслінаў! Уражвае і сад, дзе можна пабачыць пасадкі кедрача, дзялку з радыёлай ружовай (падобную маю сам на лецішчы на Лысай Гары!), грушы, прышчэпленыя на рабіне, яблыню, што прыносіць пляды трынаццаці гатункаў! А ў двары – кветнікі, пярголы з некалькімі вінаграднымі лозамі, альпійскія горкі, а неўзабаве, упэўнены, можна будзе ўбачыць фантанчыкі і вадаспадзікі, бо старэйшая дачка Алена ўжо год як адвучылася ў тэхналагічным універсітэце па моднай спецыяльнасці «Ландшафтны дызайн». Старэйшы сын Віктар пайшоў бацькавай сцяжынай: скончыў Барысаўскі прафесійны экалагічны ліцэй. Нават здалёк было чуваць ягоную сякеру — намерыўся будавацца побач. Відочна, Пузанкевічавы абсягі пашыраюцца.

Малодшыя, прыёмныя дзеці, школьнікі Вольга з Сашам, мудрагелілі на кухні, а потым частавалі сваім печывам і шарлоткай з адмысловай гарбатаю.

А яшчэ за пачастунак былі... фотаальбомы. Прытым не аматарскія падборкі, а цэлыя фаліянты-справаздачы пра падарожжы па Беларусі, па Архангельскім краі і Карэліі, па Паволжжы і Сібіры, па Прымор'і і Далёкім Усходзе. А яшчэ па выключна багатай раслінным светам выспе Шры Ланка. Па далёкай Кеніі, знакамітай сваімі запаведнікамі з мноствам найцікавейшых прадстаўнікоў фаўны, якія абсалютна індэферэнтна ставяцца да турыстаў і падарожнікаў. А непалахлівыя яны таму, што ў той экватарыяльнай афрыканскай краіне паляваць забаронена. Хаця не, ёсць два выключэнні. Турысты могуць паляваць з фота- і відэакамерамі, а плямёны тубыльцаў кшталту знакамітых масаяў, якія жывуць па-за сучаснай цывілізацыяй, — з коп'ямі і стрэламі.

Каментарыі да некаторых здымкаў, бывала, ператвараліся ў міні-навелы. Напрыклад, дзеля таго, каб некалькі разоў шчоўкнуў затвор старога незаменнага «Зеніта», спадару Генадзю даводзілася часам маскавацца і нерухома праседжваць на дрэве не адну гадзіну.

...Выбіраючыся ад ветлівых і гасцінных гаспадароў, я мімаволі прыгадваў вёску Мосар на Глыбоччыне, дзе за некалькі гадоў тамтэйшы пробашч Ёзаф Булька з дапамогаю вернікаў ператварыў у рукатворны Эдэм не толькі прыкасцёльную тэрыторыю, але і ўсё наваколле. Думалася і пра тое, як шмат цікавага і нечаканага можна ўбачыць і пачуць непадалёк, зусім побач.

Хацелася яшчэ раз вярнуцца ў дружную сям'ю ў Судабоўку і на дзівосную сядзібу Пузанкевічаў. Вярнуцца, каб яшчэ раз убачыць надзіва прыязныя, з вясёлымі праменьчыкамі зморшчынак вочы, каб яшчэ раз адчуць моцны поціск рукі жодзінскага цудадзея...

*21 кастрычніка 2007 г.*

## «Знайсці свой жанр…»

Быў вельмі ўдзячны Міхасю Скоблу за колішняе ягонае пытанне падчас сумоўя пры мікрафонах у студыі «Радыё Свабода»: «У якім жанры пачуваецеся сёння найбольш утульна?».

Гэта — нататкі, фрашкі, фацэцыі... Ад дзённікавага запісу і анекдатычнага здарэння да лірычнае мініяцюры і міні-навелы. Ад быту і побыту – да быцця.

Колісь у Вільні падчас абеду і добразычлівай сяброўскай пікіроўкі за ім з Аленай Макоўскай, Барысам Пятровічам (Сачанкам) і Міхасём Башурам нарадзілася ідэя выдаваць інфар-

мацыйны бюлетэнь «Кніганоша». І надзвычай прыемна было прачытаць у адным з першых ягоных выпускаў у рубрыцы «Аўтограф» развагі Валянціна (або Вала, як звалі яго ў юнацтве аднакурснікі) Акудовіча пра тое, што для кожнага літаратара ёсць сапраўднай удачай патрапіць менавіта на свой жанр.

«У літаратуры ў кожную эпоху ёсць дамінантныя, прэстыжныя ці нават модныя жанры, на якія перадусім і арыентуецца кожны, хто прыходзіць у літаратуру. І ўсе тады плішчацца пісаць ці то паэмы, ці то раманы, ці ствараць драматургію. А ў чалавека талент, можа, "завостраны" пад эпас (меладраму, сатыру альбо яшчэ што заўгодна). Мне не складана прывесці даволі прыкладаў з беларускай літаратуры, дзе добра бачна, як пісьменнік размінуўся са сваім жанрам...

Усё вышэйсказанае зусім не азначае, што пісьменнік мусіць абмяжоўваць сябе толькі "сваім" жанрам. Але трэба ясна ўсведамляць, што адно ў "сваім" жанры ён можа выявіцца напоўніцу. Да прыкладу, Якуб Колас пісаў і вершы, і прозу, але па максімуме выявіўся толькі ў паэмах».

Дзякуй вялікі, спадару Валянціне, што пацвердзілі маё адчуванне!

Папраўдзе найбольш камфортна пачуваюся на некалькіх старонках разняволенага жанру кшталту нататкі, эсэ альбо іншага тэксту, які можна пакласці на паперу за вечар ці за два.

Крыху крыўдую на рэдактараў тоўстых часопісаў, калі тыя намагаюцца паставіць падборку не ў раздзел прозы, а ў «Публіцыстыку», «Словы», «Запісы» ці падобныя.

Як кажуць, дай ім волю, дык і лірычныя запісы, мініяцюры Янкі Брыля запіхнулі б куды далей, на апошнія старонкі!

*26 верасня 2010 года*

## Рэкамендацыя

Праглядаў днямі тэчкі з даўнімі запісамі і дакументамі, а сярод іх і папку з надпісам «Беларускі ПЭН-цэнтар». Сярод грымзолаў з пасяджэнняў рады дый агульных сходаў натыкнуўся і на чарнавікі сваіх рэкамендацый творцам і грамадскім дзеячам, за якіх, упэўнены, мне аніколі не будзе сорамна, — праваабаронцу Алесю Бяляцкаму, мастаку Міхалу Анемпадыставу, журналісту Аляксандру Тамковічу, гісторыку Сяргею Тарасаву і паэту Алесю Камоцкаму.

Рэкамендацыя апошняму аказалася звышлапідарнаю.

*«Алеся Камоцкага ведаю чвэрць стагоддзя. Цалкам прыстойны чалавек, сапраўдны інтэлігент, таленавіты і паспяховы творца.*

*Цаню і шаную ягоную музыку і паэзію.*

*Маю гонар рэкамендаваць яго сябрам ПЭН-цэнтра.*

*Менск,*
*5 снежня 2006 г.»*

Але да гэтага можна было б і трэба было б дадаць і пра ўніверсітэцкую адукацыю філосафа, і пра неверагодную колькасць праведзеных сольна і з сябрамі-музыкамі канцэртаў, і пра тое, што апошнім часам штогод выдае ён кніжку вершаў альбо кампакт-дыск праспяванай паэзіі.

І пра тое, што самаахвярна і бескарысліва апякуецца Ірынай Міхайлаўнай Суворавай-Быкавай, удавою нашага класіка. Мабыць, яшчэ болей апякуецца ён дзядзькам Рыгорам, Рыгорам Барадуліным, і як саўтар некалькіх музычна-паэтычных праектаў, і як анёлахоўнік у быце, побыце і ў быцці.

Прыемна было пачуць на лецішчы на Лысай Гары ад празаіка Алеся Жука, што хацеў бы набыць бардавы дыскі, якія трымаў бы і прайграваў бы нават у машыне, бо любіць творчасць Алеся Камоцкага.

P. S. А як на сённяшні дзень, дык трэба было б адзначыць яго як дзень, у які Алесь стаўся дзедам — ягоная з Касяй Камоцкаю дачка Каця нарадзіла ім унука Саўку! А дзень гэты глыбока сімвалічны як дзень нараджэння Васіля Быкава!

*19 чэрвеня 2012 года*

## Магія лічбаў і законаў

Уначы Алеся даслала эсэмэску з-за акіяна, з Нью-Ёрка, розніца з якім у нас восем гадзін: *«Tata, sionnia mnie spounilasia 10 000 dzion, a tabie – 20 006! Try dni tamu ty byu u dva razy starejshy za mianie! Vos jak!*

*Liubliu!»*

*11/02/13 22:15 (NY)*

Любоў і ўвага да лічбаў, мабыць, засталіся як у выпускніцы элітнай матэматычнай сталічнай школы 19. Але ж, натуральна, сённяшнія разлікі правяла яна не з каляндарыкамі і не на калькулятары – ёсць адпаведныя кампутарныя праграмы і формулы. Але да яе падлікаў з сумам дадаў бы яшчэ й такі – дзесяціну са сваіх дзён дачушка пражыла за акіянам!

У мяне ж цяпер ёсць нагода і магчымасць няспешна і цвяроза паразважаць пра магію круглых (і не вельмі круглых) лічбаў.

Мінулася покуль што не 100, а толькі 88 (але і васьмёрка – лічба дасканалая: паводле графікі сваёй амаль што як круглы нуль!) дзён як атрымаў пералом абедзвюх костак левай канцавіны. Тыдзень праляжаў у лякарні на расцяжцы, перанёс цягам месяца чатыры аперацыі. Цяпер скачу, пераважна па кватэры, на мыліцах і з металёвым апаратам Елізарава на галёнцы.

Разважаю і пра тое, што ўсё, відаць, даецца нездарма і не выпадкова. Мусіць, трэба было, каб спыніўся дый асэнсаваў, што рабіў няправільна, што трэба было б змяніць у жыцці.

Дастаў з кніжнае паліцы аўтабіяграфічны ў многім раман грузінскага празаіка Надара Думбадзе «Закон вечнасці», які пераклаў ажно дваццаць пяць гадоў таму! Перачытаў адну з апошніх старонак, сцэну, у якой галоўны герой, пісьменнік і рэдактар газеты Бачана Рамішвілі, выпісваецца з лякарні і развітваецца са сваім доктарам.

« — Відаць, кожны чалавек павінен перанесці цяжкую хваробу, што дасць яму магчымасць цвяроза, спакойна прааналізаваць мінулае і нанава прайсці жыццёвы шлях. У гэтым сэнсе ваша бальніца зрабіла мне вялікую паслугу.



Каля катэдральнага сабора. Верасень 2012 г.

— Наўрад ці, Бачана Акакіевіч, вашаму жыццёваму шляху патрэбны паўторны аналіз, — пераканана сказаў прафесар.

— Вы так думаеце? — усміхнуўся Бачана.

— Прынамсі збоку гэтак здаецца.

— І ўсё ж два месяцы ў вашай бальніцы былі для мяне часам незвычайных адкрыццяў.

— Што ж вы, Бачана Акакіевіч, такога адкрылі, чаго раней не ведалі?

— Закон вечнасці!

— Як вы сказалі? — перапытаў здзіўлены прафесар.

— Закон вечнасці! — паўтарыў Бачана.

— Гм... цікава... Аднак кожны закон выражаецца нейкай формулай. Ваш закон вечнасці таксама мае нейкую формулу?

— Ведама, мае.

— Ці не падзеліцеся, Бачана Акакіевіч? Можаце на мяне разлічваць — я не прысвою яе і не памкнуся запісацца ў сааўтары, — пажартаваў прафесар.

— Сутнасць гэтага закона ў тым, што... душа чалавечая намнога цяжэйшая за цела, настолькі цяжэйшая, што чалавеку самому не пад сілу несці яе. Таму ўсе мы, пакуль жывыя, павінны дапамагаць адзін аднаму і імкнуцца абяссмерціць душу адзін аднаго. Вы — маю, я — другую, трэці — яшчэ нечую, і так да бясконцасці. А ўсё гэта патрэбна, каб пасля смерці чалавека мы не асірацелі і не засталіся самотнымі на свеце...

Прафесар здзіўлена слухаў Бачану, а калі той змоўк, доўга стаяў у задуменнасці.

— Аднак складаны закон вы адкрылі!

— Складаны! — кіўнуў Бачана.

— І спадзеяцеся спраўдзіць яго?

— Калі б гэта было не так, я цяпер быў бы нежывы, дый ці варта было б жыць наогул, Надар Іраклievіч?! – Бачана падаў руку прафесару. Стары доктар падышоў бліжэй, і Бачана абняў яго.

— Так, — сказаў усхваляваны і крыху разгублены прафесар, — вам штучнае сэрца не падыйдзе. З ім вы не зможаце жыць.

І калі Бачана адчуў на сваёй спіне волатаўскія прафесаравы рукі, дык пераканаўся — закон вечнасці дзейнічае...»

Фармуляваць свой закон вечнасці покуль што не намерваюся. Але, напэўна ж, пагаджуся з аднагодкам-літаратарам Язэпам Я., што як мінімум самы час дарабляць недаробленае і рабіць гэта на «выдатна», калі блізяцца твае 55.

*12 лютага 2013 г.*

## Назва старадаўняя і годная

Нярэдка бывае так, што купіш кніжку або атрымаеш у падарунак, а вось прачытаць яе ўсё ніяк не выпадае.

Таму прадчуваў асалоду, калі з'явілася нагода, дайшлі нарэшце рукі да тома навукова-папулярных эцюдаў Валянціны Лемцюговай «Тапонімы распавядаюць». Тлумачыцца ў ім паходжанне каля трох тысяч назваў беларускіх айконімаў — найменняў паселішчаў. Задзейнічана таксама шмат гідронімаў — назваў азёр, рэк, балот, мікратапонімаў — палёў, сенажацей, урочышчаў, антратапонімаў — уласных асабовых імён, мянушак і прозвішчаў. Пры назвах аўтарка падала гістарычныя, геаграфічныя і этнаграфічныя звесткі, народныя легенды і паданні, старадаўнія і сучасныя версіі, агульнавядомыя і зусім новыя навуковыя варыянты.

Валянціна Пятроўна — навуковец вельмі аўтарытэтны і кампетэнтны. Ведаю гэта хаця б таму, што меў гонар і задавальненне рэдагаваць, а потым і выдаваць яе (у сааўтарстве з Ганнай Арашонкавай) «Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы».

Зразумела, што кнігі такога кшталту не чытаюць як белетрыстыку, а карыстаюцца імі як

даведнікамі. Таму адзін з першых эцюдаў, што зацікавіў мяне, быў пра роднае Жодзіна. Прачытаў яго, і ўзнікла патрэба тое-сёе пракаментаваць і ўдакладніць.

Думаецца, што ўжо ў назве эцюда **Жудзіна (Жудзін, Жудзінь)** мусіў бы фігураваць і варыянт **Жудынь**. Можна і трэба было б больш дакладна адзначыць і месца ўзнікнення паселішча — не проста на рацэ Пліса, а там, дзе ўпадала ў яе рэчка Жодзіна. Мяркую, што спрадвеку звалася яна менавіта так, а памяншальна-ласкальны суфікс -к- набыла пазней, стала звацца Жодзінкаю пасля таго як абмялела.

Маю да той мясціны пажыццёвы сантымент, бо вуліца Партызанская, на якой і сёння стаіць барак чыгуначнікаў, дзе прайшлі мае дзяцічыя гады, упіналася якраз у тую рачулку. Каля яе цягнуліся разоры бульбяных сотак нашае сям'і, паўз яе ляжаў мой колішні штодзённы шлях у школу, а таксама на забаўкі ў буданах і зямлянках у лесапасадцы, да яе спускаўся на лыжах з чыгуначнага адхону. Больш за тое, пры вуліцы Піянерскай пачуваўся разам з сябрукамі піянерам «Дзікага Захаду» і намерваўся быў запрудзіць рачулку, каб потым ладзіць плыты і сплаўляцца на іх у бок Плісы хаця б да вуліцы Маскоўскай (часткі колішняга тракта на Маскву), пад якую нырцавала яна ў жалезабетонны калектар.

Акцэнтую, што паявілася Жодзіна на сутоку Жодзіна з Плісою і таму, што вышэй па цячэнні было мястэчка з аднайменнаю назвай Пліса, якое бальшавікі перайменавалі ў недарэчны і груваcткі Чырвоны Сцяг.

Мяркую, што найхутчэй найменне гідроніма Жодзіна — балцкага паходжання са значэннем «гаваркая, булькатлівая» рэчка.

Упэўнены, што менавіта ад назвы рэчкі пайшло і найменне паселішча. Агульнавядома, што славяне на тэрыторыі Беларусі традыцыйна сяліліся на сутоках рэк, а паселішчы свае называлі па імені меншай рэчкі. Так, на Заходняй Дзвіне Віцебск стаіць пры ўпадзенні ў яе Віцьбы, Друя — пры ўпадзенні Друйкі, а Полацк там, дзе ўпадае ў яе Палата.

Шаноўная Вялянціна Пятроўна піша, што Жодзіна «ўпершыню ўпамінаецца ў 1688 годзе як вёска Жодзіна Слабада. Паселішча належала Радзівілам».

Дазволю сабе колькі словаў каментарыя.

Наш знакаміты гісторык, археолаг і энцыклапедыст Міхась Ткачоў, які некалькі гадоў настаўнічаў і праводзіў раскопкі ў Жодзіне разам са сваім братам краязнаўцам Аляксандрам Каралёвым, пісаў яшчэ ў 1979 годзе: «У сутоках рэчкі Жодзінкі з ракою Плісою выяўлена селішча з керамікаю XII–XIII стст. і XVI–XVII стст. Занята агародамі і забудавана дамамі. Культурны пласт таўшчынёй каля 0,4 м. Плошча каля 1 га». Гэта значыць, што месца тое было аблюбаванае і абжытае здаўна. Паселішча магло занепадаць, асабліва па вайне 1558–1583 гг. з Расіяй, цэнтр цяжару мог пераносіцца ў Зарэчча.

Што тычыцца першай пісьмовай згадкі пра паселішча, дык дacціроўку трэба было б пазначаць амаль на паўстагоддзя раней. Гісторык Вячаслаў Насевіч адшукаў у «Смалявіцкім інвентары» за 1643 год запіс, што пад будучае мястэчка Багуслаў Поле ўжо высечана 400 пляцовак, большасць якіх разабраная, а рэестр знаходзіцца ў пана Чэрніка.

Справа ў тым, што Жодзіна Слабада і Багуслаў Поле — тое самае паселішча, а дзве назвы, народная і афіцыйная, доўгі час бытавалі паралельна! Найхутчэй, «кіраўніцтва справамі» знакамітага дзяржаўнага і ваеннага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага князя Багуслава Радзівіла (1620–1669) заснавала слабаду там, дзе ўжо жылі сяляне-тубыльцы. А каб прывабіць рамеснікаў і гандляроў на землі ўсходняй ускраіны сваёй Смалявіччыны, князь падараваў ім «слабоды» — вызваліў ад выплаты чыншу і падаткаў аж на 25 гадоў.

Цалкам лагічна, што Жодзіна Слабада — гэта слабада на рэчцы Жодзіна. Мажліва, азначэнне Жодзіна спатрэбілася і на тое, каб адрозніваць мястэчка ад іншай Слабады, якая і сёння месціцца на захад ад Смалявічаў.

А вось што да назвы Багуслаў Поле, дык тут, як кажуць, ёсць пытанне. Польскі гісторык Генрых Літвін, які займаецца гісторыяй XVI–XVII стагоддзяў, зазначае: «Несумнена, што ў свой час па-польску гэта гучала і пісалася "Bogusławpol". На Беларусі і на Украіне назвы гарадоў і мястэчак нярэдка падавалі на ўзор Багуслаў Поля. Аднак гэта няправільна! Насамрэч у падобных назвах фігуравала слова "поліс", што па-грэцку азначае "горад, паселішча"! Багуслаўполіс, Барыс-поліс, Крыстынаполіс, Езу-поліс, Марыям-поліс і гэтак далей. Гэта тычылася гарадоў, заснаваных у XVI стагоддзі і пазней».

Мяне самога даўно бянтэжыла — чаму «Поле»? Новыя гарады ўзнікалі найчасцей на рэках, але нярэдка пасярод лясоў і нават пушчаў. І сёння ў наваколлях горада захаваліся такія мікратапонімы як Зялёны Бор і Бабін Лес. Дык адкуль жа бралася тое ці іншае Поле?! Мабыць, з-за так званай народнай этымалогіі ці праз недастатковую пісьменнасць некаторых

пісарчукоў, якім замест «поліс» чулася «поле». Наўрад ці адзін з тагачасных найбуйнейшых латыфундыстаў ВКЛ князь Багуслаў Радзівіл узрадаваўся б, калі дазнаўся б, што паселішча ў ягоны гонар імянуецца Полем!

Аднак тая назва захаваная ў найменні адной з вуліц Жодзіна, гідранімічная версія якога не даспадобы шаноўнай Валянціне Пятроўне. Яе яна нават не згадвае і піша: «З першаснай назвы вынікае, што гісторыя горада распачыналася са слабады, якую заснаваў нехта *Жадзен* ці *Жэдзень*. Менавіта такія сугучныя з асновай назвы, імёны засведчаны ў “Ономастиконе” С. Б. Весялоўскага: *Жаден Грігорьев* (1593 г.), *Жедень Семен Иванович* (1625 г.). Відаць, ад той жа асновы, з той жа семантыкай “скупец, скнара”, што і *Жадный Ермолаев* (1593 г.), *Жадобін Петр* (1605 г.)».

Незразумела, навошта шукаць міфічнага скнару Жадзена, калі рэчка Жодзіна была і ёсць?! Не даспадобы мне гэтая антрапанімічная версія і таму, што ў школьных летніках і на алімпіядах, бывала, атрымліваў крыўдную мянушку «жадзіна», калі казаў, што родам з Жодзіна.

Не магу пагадзіцца з шаноўнай даследчыцай і тады, калі яна катэгарычна сцвярджае: «У беларускім іменаслове ад гэтых імёнаў-мянушак не засталося ніякіх слядоў», бо прыходзяць на памяць як мінімум балота Стары Жадзен, што ў Жыткавіцкім раёне, і прозвішча цяперашняга міністра абароны Юрыя Жадобіна.

Але як там ні было, спадарыня Гісторыя распарадзілася так, што з доўгага шэрагу — Жодзіна, Жодзін, Жодзінь, Жодынь, Жодзіна Слабада, Багуслаўполь, Багуслаў, Багуслаў Поле — засталася старадаўняя, слаўная і годная назва Жодзіна.

*13 лютага 2013 г.*

## Habemus Papam!*

На плошчы святога Пятра сотні тысяч вернікаў з надзеяй пазіралі з-пад парасонаў на медны комін па-над Сікстынскай капэлаю.

Іх чаканне не было марным — неспадзявана хутка, на другі дзень канклава, на пятым галасаванні ста пятнаццаці кардыналаў быў абраны новы, дзвесце шэсцьдзясят шосты Папа Рымскі.

У 19.06 па мясцовым часе з коміна, на якім гаспадарліва ўладкавалася белая чаіца, паваліў чаканы белы дым, пасля загучалі і званы, а па-над плошчаю панесліся захопленыя воплескі і радасныя воклічы!

Дождж пераціх (гэта таксама ўспрынялося як добры знак!), і амаль праз гадзіну на балконе з’явіліся кардыналы. Найстарэйшы з іх, француз Жан Луі Таран, усхваляваным голасам абвясціў urbi et orbi** імя наступніка святога Пятра на Апостальскім Пасадзе. Ім аказаўся кардынал не з першага кола папабіляў, арцыбіскуп Буэнас-Айрэса Хорхе Марыё Берголіа.

Натуральна, усім хацелася паболей даведацца пра новаабранага Папу.

Гэта самы малодшы з пяці дзяцей італьянскага эмігранта-чыгуначніка. Шырока адукаваны — выкладаў тэалогію, філасофію і літаратуру, вольна гаворыць па-італьянску і па-нямецку. Мае аргенцінскае і італьянскае грамадзянства. Надзвычай сціплы ў быце — да апошняга часу жыў у аднапакаёўцы, сам сабе кухарыў, а на службу дабіраўся на метро.

У 1958 годзе ўступіў у Ордэн езуітаў. Кардынальскую годнасць у 2001 годзе надаў яму папа Ян Павел II, а на канклаве ў красавіку 2005 года Берголіа зняў сваю кандыдатуру на карысць Ёзафа Ратцынгера.

Новы Папа абраў сабе імя Францішак у гонар Францішка з Асізі, які вызначаўся сціпласцю і адкрытасцю на патрэбы іншых людзей. А ў беларусаў імя гэтае абавязкова выклікае з памяці постаць асветніка, гуманіста і першадрукара Францішка Скарыны, які вучыўся і ў Італіі.

Да новага Папы шматкроць дастасоўваецца азначэнне «першы». Ён — першы Папа езуіт. Ён — першы Папа нееўрапеец. Ён — першы Папа аргенцінец, першы пасланец Паўднёвай Амерыкі. Ён — першы Папа па імені Францішак...

Яго лічаць умераным кансерватарам. Да чалавечых характарыстык дадаюць, што шануе ён творчасць свайго суайчынніка і цёзкі Хорхе Луіса Борхеса, а таксама рускага пісьменніка з беларускімі каранямі Фёдара Дастаеўскага. Натуральна, што любіць аргенцінскае танга, а таксама футбол — заўзее за клуб «Сан-Ларэнца». Прыемна і тое, што не чужы яму і гумар...

Шкада, што няма сёння ў Беларусі кардынала, які мог бы паехаць у Ватыкан хаця б абіраць Папу, а не тое што быць абраным! Зноўку беларусы чужыя на свяце жыцця?

Але ж хочацца верыць, што канкардат — дамова пра супрацу паміж дзвюма дзяржавамі, паміж Апостальскім Пасадам і Беларуссю — нарэшце будзе падпісаны, а папа Францішак ступіць на зямлю Францішка Скарыны — на радасць католікам, уніятам і ўсім вернікам.

*14 сакавіка 2013 года*

*Фота латышскай пісьменніцы Крыстыне Улберга.*

* У нас ёсць Папа! (лац.).
** Гораду і свету (лац.).

Ігар Сурмачэўскі



# Залацісты мёд мінуўшчыны

Я ўспомніў Фердынанда Рушчыца... Яго да болю ў сэрцы пранізліва-лірычныя краявіды, такія беларускія ў кожнай рысачцы вялікага майстра, што, здавалася, ты іх ведаеш з самога маленства.

Мне прымроіліся краявіды Рушчыца, калі ў рукі трапіў першы стары негатыў невядомага аўтара. Гэта быў невялікі пыльны шэра-серабрысты кавалачак шкла з белым надпісам ад рукі ў правым ніжнім кутку: Юсцініянава, 12.12.11 г. Ашчадна трымаю далікатны кадр за тонкія колкія тарцы, уважліва разглядаючы яго ў промнях дзённага святла. Здавалася: ну што за скарб схаваны ў гэтым маленькім падрапаным аскепку шкла? Асцярожна стаўлю шкельца на свой сканар. Белы прамень з трымценнем павольна паўзе па старым шкле, высвятляючы міліметр за міліметрам негатыў малюнка. І вось цуд: імгненне жыцця пачатку XX стагоддзя ацалела на гэтым далікатным матэрыяле і высвецілася на маніторы камп'ютара! Яно захавалася і запісана ў кожным пікселі шкляной паверхні, як на сучасным дыску DVD. Проста неверагодна! Я разглядаў на маніторы адсканаваны кадр, як быццам толькі што проста азірнуўся назад. Стагоддзе прамільгнула ў гэтым руху...

Марозны дзень. Усё заснула ў белым сне. Векавыя дрэвы стаяць у шыхце, як старыя панцырныя баявыя таварышы, пільнуюць супакой шляхецкай сядзібы. Намаразь карункавай шэранню выступіла на чорных галінках, перакрыжаваных на тле нябёсаў, нібы на графічным малюнку, зробленым японцам Хакусаі. За дрэвамі, праз вільготную смугу марознага паветра, выступае фасад радавога палаца з высокімі французскімі вокнамі ад падлогі да столі.

---

**Ігар Сурмачэўскі** — мастак, рэстаўратар, калекцыянер. Нарадзіўся 3 кастрычніка 1961 года ў вёсцы Вязань Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці (былы маёнтак Багдашэўскіх). У 1979–1984 гг. вучыўся ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце на кафедры «Інтэр'ер і абсталяванне». З 1988 года ўвайшоў у склад моладзевай секцыі Саюза мастакоў БССР. З 1980 года збірае калекцыю рэчаў і дакументаў па гісторыі беларускай культуры, якой цікавіўся яшчэ з дзяцінства. З 1988 года займаецца рэстаўрацыяй абразоў і жывапісу. Ахвяруе сродкі для аднаўлення помнікаў беларускай гісторыі і культуры. У 2010 годзе ўзнагароджаны ордэнам святой Еўфрасінні Полацкай за заслугі перад Беларускай Праваслаўнай Царквою.

Трохі ўяўлення... і вось чутны ўрачыстыя гукі паланэза — гэта гаспадыня грае на старым раялі і мелодыя рэхам разносіцца па прахалодных анфіладах вялікага маёнтка. Супакой і веліч павяваюць ад старадаўняга краявіда, і няцяжка зразумець, што так жылі нашы продкі ў XIX і нават у XVIII стагоддзях. Здаецца, раней час праходзіў па іншых фізічных законах і меў іншае лічбавае значэнне, чым цяпер. Залацісты стары час цягнуўся, як густы бурштынавы мёд, што перацякае са срэбнай лыжачкі ў вытанчаную крэманку свінцовага шкла з радавым шляхецкім гербам. Дзень быў доўгі-доўгі, напоўнены павольнымі справамі, кожная з якіх была важкаю і немітуслівaю. Такі час спыніўся на шкляных негатывах бацюшкі і фатографа Паўла Валынцэвіча. Гэта потым я даведаўся, што ён быў аўтарам гэтага цуду, а цяпер я проста наталяўся мёдам старога часу...

Юсцініянава... назва мястэчка па гуку родная, тутэйшая, але незнаёмая мне. Інтэрнэт на запыт, што гэта за мястэчка, паказвае толькі акварэль Напалеона Орды «Рэшткі старадаўняй сядзібы ў Юсцініянаве». Для мяне акварэль слыннага майстра ўжо знаходка — значыць, мястэчка дзесьці ў Беларусі. Параўноўваю выгляд сядзібы на фатаграфіі з творам Орды — на першы позірк, нічога падобнага. На акварэлі — двухпавярховы палац, намаляваны з боку Дзвіны ў атачэнні невялікіх дрэваў ангельскага парку. На ніжнім краі акварэлі чытаю надпіс па-польску: Szczytt Justynian. Можа ўладальнік? Трэба паглядзець інфармацыю ў кнізе вядомага знаўцы шляхецкіх сядзібаў Рамана Афтаназі «Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej». І сапраўды — гэты маёнтак знаходжу ў першым томе па Полацкім ваяводстве. Вось дзе скарб інфармацыі! Юсцініянава (*Узнены*, *Узмены*, *Узмёны*) — маёмасць Шчытоў-Неміроўскіх з XVIII стагоддзя. Кастусь Шчыт, падкаморы полацкі, паставіў ва *Узменах* драўляную царкву. Яго сын, Юстыніян Шчыт (1740–1824), па імені якога і была названа частка маёнтка *Узмены*, заклаў радавы палац, а архітэктарам выступіў знакаміты Карла Спампані, аўтар палацаў у Кухцічах, Радзівілімонтах і *Ружанах*, які ўзначаліў кафедру архітэктуры ў Віленскім універсітэце. «Вядома, што Спампані пабудаваў у Юсцініянаве адзін з найпрыгажэйшых палацаў на Беларусі», — так пафасна апісвае польскі навуковец спадчыну італьянскага архітэктара ў Полацкім ваяводстве і наракае далей: «Але, на жаль, за бальшавікамі палац не захаваўся. Як ён выглядаў, мы можам уявіць толькі па невялікай акварэлі Напалеона Орды...». Вядомы наш графік і не думаў у другой палове XIX ст. (а менавіта у 1870-я гады выканана акварэль, мяркуючы па збудаванай царкве св. Мікалая на правым беразе Дзвіны ва Узменах), што ў глухім беларускім мястэчку з пяці хатаў з'явіцца свой фоталетапісец. І пакліканнем гэтага неардынарнага чалавека будзе служэнне Нябёсам, але, узносячы хвалу Богу каля алтара, бацюшка не забываўся і пра свой фотаапарат знакамітай фірмы «Кодак». Дзякуючы ўзменскаму фоталетапісцу мы можам праз сотню гадоў атрымаць асалоду ад выгляду маёнтка Юсцініянава з боку ангельскага парку, хоць цяпер ад палаца не засталося нават і каменьчыка.

Ёсць мудрае выслоўе — «напісанае застаецца», да якога можна яшчэ дадаць: і зафіксаванае ў фатаграфіі — таксама. Гісторыя дагератыпіі і фатаграфіі налічвае трохі больш за 150 гадоў. Гэта і шмат, і мала ў параўнанні з чалавечым жыццём. Нагогул, фатаграфія стогадовай даўніны — вельмі далікатны матэрыял для калекцыі, асабліва шкляны негатыў таўшчынёй толькі ў міліметр. Як яго захаваць? Тут галоўнае, каб нашчадкі ацанілі і не кінулі творы бацькоў у вогнішча небыцця, як гэта неаднаразова здаралася ў нашай гісторыі, калі новаму пакаленню заманулася пабудаваць нешта дагэтуль нябачанае ў свеце. Без мінулага няма будучыні. Са студні жыццёвага вопыту продкаў нам не раз яшчэ давядзецца чэрпаць мудрасць і празорлівасць.

Ашчаднаму стаўленню да сваіх каранёў мяне навучыў мой выкладчык па гісторыі беларускай культуры — Міхась Хведаравіч Раманюк. Першае, што мяне, выпускніка савецкай школы 1978 года, здзівіла ў БДТМІ — гэта «заходні» выгляд студэнтаў з доўгімі «хаерамі» ў стылі Бітлз і выкладчык, які размаўляў на чысцюткай беларускай мове, прычым не толькі падчас лекцый, але і паўсюдна. Можна было гадзінамі з заміраннем сэрца слухаць яго аповеды пра вандроўкі па Палессі, пра беларускую культуру, якая не саступае сусветнай і ёсць коранем усяго заходняга авангарду, пра беларускую мову, якая па мілагучнасці нават лепшая, чым італьянская. Пры гэтым ён з імпэтам дапамагаў сабе жэстамі, нібы дырыжор, і зараджаў усіх неймавернай энергіяй, усміхаючыся на ўсе свае трыццаць два.

Колькі шуму ў інстытуце было пасля вандроўкі Міхася Хведаравіча ў Парыж, дзе ён упершыню паказаў на знакамітым сусветным подыуме нашы нацыянальныя беларускія строі! На той час гэта здавалася казкай для нас, савецкіх студэнтаў. З прыдыханнем мы перашэптваліся: Па-ры-ж... Парыж — гэта




ж горад Мадзільяні, Ван Гога, Манэ... і Шагала, тварэнні якога ўжо на той час, у канцы 1970-х, мы лічылі сваімі, беларускімі. А першы наш нацыянальны часопіс па мастацтве! Гэта ж дзякуючы Хведаравічу нарадзіўся часопіс «Мастацтва Беларусі», дзе ён быў першым галоўным рэдактарам.

Міхась Хведаравіч адзначыў маю шчырую цікавасць да беларускай культуры, і ў нас склаліся цёплыя адносіны, якія працягваліся і пасля заканчэння інстытута. Не адзін раз мы сустракаліся каля знакамітага «чырвонага будынка» на Танкавай, дзе бурліла жыццё творчай інтэлігенцыі Менска. Тут, у «Брэсцкай крэпасці», як мінчукі звалі доўгі будынак на Танкавай, на апошнім паверсе мясцілася творчая майстэрня Міхася Хведаравіча. Памятаю, калі ў Менску з'явіліся першыя антыкварныя крамы ў бурныя 1990-я, Хведаравіч, як малое дзіця, цешыўся сваімі першымі здабыткамі даўніны ў камерсантаў. Але ж сам валодаў сапраўдным скарбам — фотаархівам па Беларусі пачынаючы з канца XIX ст. і да 1970-х гадоў. 100 000 старых фатаграфій! Я неаднаразова паднімаўся да Хведаравіча ў яго майстэрню пад нябёсамі на так званы «беларускі Алімп», і скарбы вялікай камоды з мноствам шуфлядаў, як у старых бібліятэках, іншы раз расчыняліся перада мной. Менавіта там я ўпершыню ўбачыў арыгіналы старых фатаграфій, якія тычыліся Беларусі, і паступова стаў разумець, якую каштоўнасць яны ўяўляюць для гісторыі і культуры маёй краіны. Можа цяпер гэта пафасна гучыць, але так яно было і ёсць насамрэч. Захаваныя імгненні паўсядзённага жыцця беларусаў пачатку XX ст. здаваліся мне сапраўднымі ілюстрацыямі да нашай літаратурнай класікі, да твораў Купалы, Коласа, Гарэцкага... Прыгажуні ў белых намітках, суворыя барадатыя дзядзькі ў вышываных кажухах і мегерках глядзелі са старых фотаздымкаў не з жалем і маркотнай пакорай цяжкаму лёсу, а як людзі, якія ведалі сабе цану (і з хітрынкаю ў вачах!). Менавіта разглядаючы сэпіі старых фотаздымкаў, я вырашыў: калі мне ў рукі трапіць хоць адзін такі кадр, я яго захаваю як самую дарагую спадчыну.

З тых знакавых сустрэчаў прайшло больш за дваццаць гадоў. Збіранне рарытэтаў, злучаных з гісторыяй і культурай Беларусі, не перарывалася ў мяне з таго часу ні на адзін дзень. Гэты займальны занятак, а хутчэй, само маё жыццё, быў падобны і на паляванне, і на рыбалку. А яшчэ — на чорную працу ў рудніках старых часоў — гэта як прамыванне шэрага жвіру антыкварыяту, перш чым сярод непатрэбшчыны зазіхаціць золата самародка. Праўда, наша беларуская культурная спадчына ўжо даўно сто разоў перааараная і ўшчэнт выдратавана нашымі суседзямі за апошнія два стагоддзі... Нічога, даводзіцца ўдвая больш працаваць...

Асноўная тэма старых фатаграфій, якія я знаходзіў для сваёй калекцыі на працягу дзесяцігоддзяў, — гэта салонныя партрэты шматлікіх месцічаў губернскага Менска ды іншых гарадоў Беларусі. Радзей траплялiся групавыя здымкі нейкіх значных сямейных падзеяў. Як ні дзіўна, часцей за ўсё гэта былі журботныя пахаванні дзетак ці сваякоў. Але мне жадалася чагосьці большага, каб у калек-




цыю трапілі мастацкія фатаграфіі кшталту вялікага Яна Булгака ці графа Тышкевіча.

Нарэшце ў сярэдзіне 2009 года я натрапіў на першы «залаты самародак». Мой сябра з Гародні Тадэвуш Зяленскі, таксама апантаны збіральнік беларускай гісторыі, прапанаваў мне набыць некалькі незвычайных старых шкляных негатываў. «Яны напэўна злучаны з Беларуссю і, хутчэй за ўсё, фотаздымкі рабіў ці краязнаўца, ці багаты чалавек, які дзеля забаўкі фатаграфаваў паўсядзённае жыццё правінцыі. Паглядзі, дзе ёсць такія Узмены і Юсцініянава — тут амаль на кожным негатыве подпіс. Усе пачатку XX стагоддзя» — такі быў каментар майго таварыша. Інтэрнэт і тут дае выратавальны для мяне адказ: Узмены, Віцебская вобласць, Мёрскі раён, царква святога Мікалая 1871 года пабудовы. Так з Гародні ў мяне сталі з'яўляцца першыя старыя негатывы з краявідамі маленькіх беларускіх сядзібаў: Узмены, Юсцініянава... Вось мястэчка Дзісна з Уваскрасенскім храмам, знятае фатографам у лютаўскую адлігу 1903 года... Вось Заходняя Дзвіна з баркай... свежы вятрыска гуляе пругкім ветразем... А вось панарама ўсё тых жа Узменаў ранняй вясной... разліў ракі, селянін сядзіць у лодцы, мабыць, чакае фатографа, і ўдалечыні, на беразе, сярод невысокіх дрэваў бачна ўсё тая ж царква святога Мікалая, пабудаваная ў 1871 годзе...

Ведаючы маю прыхільнасць да незвычайных фатаграфій па Беларусі, Тадэвуш папаўняў маю калекцыю краявідамі і інтэр'ернымі здымкамі. Тады я не здагадваўся, што асноўную частку негатываў збірае мой даўні знаёмы па калекцыянерстве Зміцер Сярэбранікаў. Яму ішлі партрэтныя і жанравыя сцэны. Захоўваючы карпаратыўнае маўчанне, мы толькі праз год прагаварыліся пра свае скарбы і, злучыўшы іх у адзін архіў, зразумелі, што гэта фоталетапіс аднаго аўтара, бацюшкі Паўла Валынцэвіча.

Мэта кожнага сапраўднага калекцыянера — сабраць годны збор, за які будуць удзячныя нашчадкі. Ці, калі ўсміхнецца фартуна, адкрыць свету імя якога-небудзь невядомага аўтара, пра якога ў ліхалецці часу забыліся нашчадкі на радзіме. На гэту карпатлівую справу ідуць дзесяцігоддзі жыцця, але, калі весці мэтанакіраваны пошук, лёс у выніку падарыць табе залаты самародак. І я лічу такім сваім поспехам у жыцці адкрыццё фотаархіва бацюшкі Паўла Валынцэвіча. Нават цяпер, на працягу некалькіх гадоў працы з фотаархівам, я да канца не ўсвядоміў значэнне гэтага адкрыцця для гісторыі беларускай культуры, ды і для гісторыі самой беларускай Царквы таксама. Бацюшка з фотаапаратам — каго цяпер гэтым магчыма здзівіць? А на пачатку XX стагоддзя? Ці шмат мы ведаем аматараў фатаграфіі 1900-х гадоў з Беларусі з такім архівам, дзе больш за 300 фатаграфій, ды яшчэ з беларускай глыбінкі? Павел Валынцэвіч такі адзін.

А нам застаецца толькі быць шчаслівымі сузіральнікамі тых далёкіх падзеяў, якія для нас захаваў бацюшка з фотаапаратам. Шчаслівымі ад таго, што шкляныя пласціны з напыленнем срэбра захавалі для нас стары час, цягучы, як залацісты бурштынавы мёд...

# Брама веры, вечнасці і любові

## Рэфлексія пра касцёл св. Яна Хрысціцеля ў мястэчку Камаі

Касцёл св. Яна Хрысціцеля ў мястэчку Камаі знакавы ў беларускай гісторыі. Разам з Вострай Брамай, Друяй, Росіцай і Будславам ён заўсёды быў, ёсць і будзе сімвалам нязломнасці і неўміручасці Хрыстовай веры.

Суровы і сціплы ў сваім знешнім архітэктурным абліччы-выглядзе, камайскі касцёл мае ў сабе тую незвычайную моц, прыцягальнасць і бязмежную веліч, якія дадзеныя Храму, несумненна, толькі самім Усемагутным і самім родным краем.

З часоў Вялікага Княства Літоўскага ён стаіць на скрыжаванні стагоддзяў і гістарычных шляхоў нашай любай Беларусі. Як брама веры, вечнасці і любові.

Можа таму, кожны, хто хоць аднойчы пераступіць парог святыні, назаўсёды пакіне тут маленькую часцінку сваёй душы. Асабліва той, што скалечаная лёсам і жыццёвымі выпрабаваннямі. Падзеліцца сваімі трывогамі і радасцямі, няўдачамі і поспехамі, расчараваннямі і надзеямі. Зноў адкрые сваё сэрца, зачарсцвелае ў жыццёвых клопатах і трывогах, для шчырасці, душэўнай чысціні і любові.

Па-ранейшаму поўны велічы і паважнасці, касцёл св. Яна Хрысціцеля і сёння на святой Імшы сустракае сваіх вернікаў ды вітае гасцей. А ў чужых далёкіх краінах ззяе той пуцяводнай зоркай, якая кіруе ў родную старонку.

Да яго, як да алтара веры і надзеі, з дарог жыцця вернемся аднойчы і мы. Каб пастукаць у Браму Вечнасці і Хрыстовай Любові.

*Юрась Гарбінскі*

Іван Драўніцкі

# Мастак з дынастыі Ромэраў


Альфрэд Ромэр. «Збаўца з хлопчыкам».

Да напісання гэтага артыкула я ішоў усё сваё свядомае жыццё ад таго дня, калі ўбачыў у камайскім кацёле Яна Хрысціцеля абраз «Збаўца з хлопчыкам». Ад сузірання гэтага таленавітага твора пацягнуўся ланцужок да вывучэння глыбіні адлюстраванага ў ім і вывеў на творчасць Альфрэда Ізыдора Ромэра, таленавітага мастака, які жыў у суседняй вёсцы Каралінове, недалёка ад Камаяў.

Альфрэд Ромэр рэгулярна наведваў камайскі касцёл святога Яна Хрысціцеля, распісваў яго сцены. У гэтым касцёле злева ад галоўнага алтара вісіць абраз, які вернікі называюць «Збаўца з хлопчыкам» (у перыёдыцы ён фігуруе пад назваю «Хрыстус і сірата»). Аўтарства гэтага шэдэўра працяглы час не было вядомым. Толькі ў 2002 г. годзе адбылася сенсацыя: прыналежнасць гэтага палатна пэндзлю А. Ромэра была распазнаная мастаком Алесем Цыркуновым з дапамогаю парафіянаў і святара камайскага касцёла Яцака Гутмана.

Лёс Альфрэда Ромэра, асабліва пасмяротны, аказаўся даволі дзіўным — яго забылі. І ўспомнілі больш як праз стагоддзе, што быў такі ў Каралінове Пастаўскага раёна таленавіты мастак. Яго творы парастрачваліся па старых шляхецкіх сядзібах, у музеях і прыватных зборах за мяжой, немалая колькасць, напэўна ж, загінула.

...Я бачыў гэты абраз з самага дзяцінства, калі наведваў касцёл з бабуляй Луцэяй. У душы зайздросціў хлопчыку, якому пашчасціла прытуліцца да Збаўцы. Хрыстус з абраза добразычліва і спагадліва глядзіць на вернікаў, а да Яго даверліва прытуліўся пакрыўджаны басаногі хлопчык у аднюсенькай саматканай зрэбнай, падперазанай вяровачкай белай кашульцы з разарваным рукаўцом. Хлопчык прытуліў да Збаўцы сваю галоўку з валасамі пшанічнага колеру, а правую руку лёгка паклаў на руку Збаўцы, які пяшчотна абдымае яго. Каб дабрацца да Збаўцы, хлопчыку давялося пераадолець камяністы шлях — на яго дарозе цэлая груда валуноў, па якіх ён ступаў босымі ножкамі, ідучы да Божага Сына.

У постаці моцна пакрыўджанага хлопчыка паднявольнага краю мы бачым не рабскую пакорлівасць лёсу, а смутак, не разгубленасць, а годную шляхетнасць і веру ў будучыню. Гэта ёсць вобраз нашага беларускага народа, прасякнутага духам няскоранасці і веры.

...Іншы раз хлопчык на карціне ў маім уяўленні асацыіруецца з маім прадзедам, якога напаткаў цяжкі лёс. Яго імя — Грышка — стала мянушкай для ўсіх нас, яго нашчадкаў — Грызчыкі. Гэта звязана не толькі з імем прадзеда. Па-першае, ён быў вельмі працавіты, і, каб выраўняць палетак, згрыз (скапаў) усю гару Багушачкі ды звёз у балаціну. Па-другое, мой прадзед прымкнуў да паўстанцаў 1863 года, быў паранены, але не паддаваўся ворагам, «агрызаўся». Быў асуджаны на высылку ў Сібір, на станцыю Ітатку Краснаярскага краю, дзе і памёр.

Хлопчыкаў з пакутным лёсам пасля задушэння паўстання на Камайшчыне было шмат. Шчырая і ўважлівая душа А. Ромэра суперажывала іх абяздоленасць, і гэты боль душы ён перанёс на палатно: адзіны, у каго можна было атрымаць спагаду, — гэта Збаўца. І прытуліўся сын паўстанца да Збаўцы, і на твары хлопчыка засвяціўся супакой, і цельца яго напоўнілася энергіяй Божай моцы...

Паводле Бібліі, Хрыстус прапаведаваў у Юдэі, прырода якой адрозніваецца ад нашай. Але на карціне мастак адлюстраваў наш камайска-караліноўскі пейзаж, дзе платамі ў дзве жардзіны, прымацаванымі да калоў бярозавымі ці лазовымі дубцамі, выгароджвалі выганы ля

---

**Іван Драўніцкі** — філолаг, краязнаўца. Нарадзіўся ў вёсцы Гвоздавічы Камайскай гміны Свянцянскага павета (цяпер Пастаўскі раён). Закончыў Камайскую сямігодку (1948), Пастаўскае педвучылішча (1952), факультэт беларускай і рускай мовы і літаратуры Мінскага педінстытута (1960). Працаваў настаўнікам беларускай і нямецкай мовы Клюшчанскай школы (1952–1953), дырэктарам Маласырмежскай (1953–1954), Вялікастаўпяняцкай (1957–1958) і Куцькаўскай школаў (1958–1993).

вёсак, а да платоў на межы зносілі-скачвалі з палёў камяні-валуны, якіх багата параскідаў па наваколлі ледавік. І неба на абразе зусім не паўднёвае, а наша, караліноўскае, зацягнутае смугой і цёмна-сіняй навальнічнай хмарай. Хлопчык таксама не габрэй — у яго тыповае беларускае аблічча: кірпаносы, круглатвары, светлавалосы і сінявокі.

На цёмным фоне жахлівага неба ля далягляду праходзяць дзве рознай шырыні белыя палоскі. Ці не сімвалы гэта двух антыцарскіх паўстанняў, якія задушыла, заціснула бессардэчная чорная хмара — няпрошаныя госці? Хлопчык — ці не сімвал пакрыўджанай, абрабаванай, асірацелай Беларусі, да лёсу якой у свеце нікому няма справы? І знайшла яна, Беларусь, патолю і разуменне толькі ў Збаўцы. Надзея беларусаў толькі на літасцівага Бога: Ён не адварочваецца ад хлопчыка, а туліць яго да сябе.

Для напісання адзення Збаўцы і хлопчыка мастак выкарыстаў толькі тры колеры: чырвоны, белы і сіні — колеры рэспубліканскага сцяга, які лунаў над саборам Парыжскай Божай Маці ў часы Французскай рэвалюцыі. Бясспрэчна, у колеравай гаме мастак зашыфраваў ідэалы дэмакратычнага руху ў Еўропе — свабода, роўнасць, братэрства! Навакольны краявід: агароджа, зямля, камяні і паветра насычаны мяккім празрыстым



Альфрэд Ромэр. Аўтапартрэт.

святлом, якое зыходзіць ад Збаўцы. Светлы німб, што вянчае галаву Збаўцы і, як сонца, ярка свеціцца на цёмным небе, — гэта сімвал паходні, якая павінна разагнаць цемру і асвяціць беларусам новы шлях.

Чаму свецкі чалавек, мастак А. Ромэр, стварыў такі глыбокарэлігійны і адначасова прагрэсіўна-бунтарскі твор? Мяркую, што гэта Божае натхненне.

А чаму змясціў яго ў касцёле? Пэўна, з'яўленне такога надзвычай адухоўленага твора адназначна не магло не выклікаць з боку ўладаў адмоўнага стаўлення. Хто мог бы ў той час набыць і дзе мог бы захоўваць падобны шэдэўр? Татальнае жорсткае стаўленне царскіх паслугачоў да ўсяго вольналюбівага, да драбнейшых праяваў самастойнасці і ўласнай годнасці вымушала шукаць абыходных шляхоў. Напісаныя на адваротным баку падрамніка абраза на польскай мове словы, узятыя з Дабравесця (пар. Мц 13, 15): «...не забараняйце дзецям прыходзіць да Мяне...», хутчэй за ўсё, прыкрыццё пратэстнага сэнсу работы і «пропуск» на існаванне ў касцёле, самым даступным месцы для агляду вялікай колькасцю народу.

...Немагчыма прадказаць, які быў бы далейшы лёс гэтага абраза і яго аўтара, калі б А. Ромэра не напаткала раптоўная смерць, якая спасцігла яго праз тры месяцы пасля заканчэння працы.

Альфрэд Ромэр пакінуў яшчэ адзін шэдэўр у Беларусі — у Пінску, у касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі. Гэты шэдэўр, намаляваны ў 1894 г., звяртае на сябе асаблівую ўвагу і ўспрымаецца вернікамі як абраз. Работа «Божая Маці з Дзіцем» атрымала яшчэ назву «Пінская Мадонна», бо яе правобразам паслужыла пінская гараджанка, звычайная жанчына з народу.

Мадонна намаляваная ў блакітнай накідцы, з распушчанымі валасамі пад узнятай ветрам хусткай. Яна па-мацярынску асцярожна трымае на руках Дзіця, тулячы Яго да сябе, дакранаючыся шчакой да лобіка Немаўляці. Па яркім, як бы ідучым з неба промні сонца, а таксама па няўлоўным німбе над Яе галавою зразумела, што гэта не проста маці чалавечая, гэта — Мадонна. З-за шырокага сонечнага промня гэтую карціну яшчэ называюць «Панна ў промні».

Здаецца, няма нічога асаблівага эфектнага ў традыцыйнай кампазіцыі абраза, але колькі прывабнай лёгкасці і цеплыні выпраменьваюць вочы, рукі, уся пастава Мадонны! Калі ўглядаешся ў карціну, не бачыш ні рамы, ні іншых абразоў. Адбываецца нешта незвычайнае. Гэта не падман уяўлення, бо яно не




Мемарыяльная дошка ў камайскім касцёле ў памяць А. Ромэра.

зачараванае маляўнічасцю фарбаў. Тут душа мастака, без усялякіх мастацкіх хітрыкаў, але з дзіўнай простасцю і лёгкасцю надзяліла палатно тым цудам, якое абуджае ў сэрцы пачуццё чуллівай велічы. У гэтай карціне, як і ў «Збаўцы з хлопчыкам», пераважаюць сіні, белы і чырвоны колеры, але тут яны больш спакойныя, мяккія — як вера, надзея, любоў.

Карціну-абраз «Божая Маці з Дзіцем» А. Ромэр напісаў напрыканцы жыцця, пасля цяжкіх гадоў вучобы і працы ў гарадах Еўропы.

...З году ў год веды пра нашых выдатных землякоў пашыраюцца, узбагачаюцца новымі даследаваннямі. Вядома, што прадстаўнікі Ромэраў — старажытнага рыцарска-шляхецкага роду нямецкага паходжання, з XV ст. карысталіся ўласным гербам «Кіёчкі» (герб без кароны, на чырвоным полі — два сярэбраныя пілігрымскія кіёчкі, скрыжаваныя пад вуглом; такія ж скрыжаваныя кіёчкі са стравусавымі пёрамі ў рукаятках над прылбіцай). Ромэры ўнеслі значны ўклад у развіццё культуры Беларусі, Літвы і Польшчы. Яны былі ў сваяцкіх зносінах з многімі беларускімі родамі: Абуховічаў, Друцкіх-Падбярэзскіх, Калантаяў, Пузыняў, Плятэраў, Ропаў, Храптовічаў, Корсакаў, Пацаў, Сулістроўскіх, Радзівілаў (мелі нерухомасць ва Укмерге (Літва) і на Ашмяншчыне). Гэты род быў самым уплывовым у XIX ст. сярод мясцовай эліты — іх прадстаўнікі з'яўляліся актыўнымі арганізатарамі грамадскага жыцця, дбайнымі носьбітамі патрыятычных ідэяў. Сярод прадстаўнікоў роду былі выдатныя музыкі і літаратары, але род гэты быў унікальны ў тым сэнсе, што не існавала на абшарах былога ВКЛ іншай дынастыі, дзе б было некалькі пакаленняў мастакоў, як у Ромэраў.

Ля вытокаў кагорты Ромэраў-мастакоў стаяў Юзаф Міхал Ромэр (1778 — 1853), які


Альфрэд Ромэр.
«Божая Маці з Дзіцем».
Пінская катэдра.

падтрымліваў імкненне сваіх здольных дзяцей да вывучэння мастацтва і сам далучаў іх да стварэння прыгожага. У выніку яго дзеці — дачка Ганна, сыны Юзаф, Генрых, Севярын і Ян Эдуард — у вольны час малявалі. Ян Эдуард Ромэр (1806–1878) лічыцца пачынальнікам дынастыі мастакоў гэтага роду. Самымі вядомымі з іх з'яўляліся Альфрэд Ізыдор (1832–1897) і Эдвард Матэвуш (1848–1900). Яшчэ чакаюць сваіх даследчыкаў іншыя мастакі дынастыі Ромэраў: Казімір (1845–1921), Алена (1860–1946), Ганна (1805–1890), Браніслаў (1856–1899), Стэфан (1900–1951), Ганна Солтан-Ромэр (1895–1974), Станіслаў Марыя (1892–1966), Людвіка Казіміра (1899–1989), Казіміра Скірмунт, Зофія Ромэр-Дэнбоўская (1885–1972). На віртуальнай выставе «Мастакі дынастыі Ромэраў», якая праходзіла з 3 чэрвеня па 17 верасня 2006 года ў Вільні, было паказана звыш 330 работ Ромэраў — невялікай часткі, створанай імі.

Пра Ромэраў з Каралінова я чуў яшчэ ў дзяцінстве ад сваёй маці Драўніцкай (Хведзевіч) Марыі Міхайлаўны, якая расказвала, што яны былі простыя, памяркоўныя людзі, а сам Альфрэд Ромэр вельмі добра маляваў — увекавечыў хату жыхара вёскі Гвоздавічы Хведзевіча Міхаіла Баўтрамеевіча акварэллю «Сялянскі двор». У 1942 г. гэта хата яшчэ стаяла на правым баку вуліцы, перад паваротам на вёску Лапуны. Будынак быў дакладна такі, як на малюнку, толькі замест брамкі былі вароты з жэрдак; ля свірна, што злева, расла клейкая таполя. Штыкеціны плоту гародчыка былі прыбітыя пад «шнур». Гаспадыня хаты, бабуля Луцэя, пры нагодзе падкрэслівала, што ў свой час сам караліноўскі пан маляваў гэтую хату як самую старую ў вёсцы. У гэтай хаце ў 1932 г. нарадзіўся я, а ў 1942 г. прымаў удзел у яе дэмантажы ў сувязі з перасяленнем на хутар.

Жывучы ў Каралінове, Альфрэд Ромэр падтрымліваў кантакты з мясцовымі майстрамі: кавалямі, столярамі, ганчарамі. Ён сам валодаў сталярствам, займаўся распрацоўкай праектаў вазкоў, саняў, карэтаў, мэблі, навучаў вясковых людзей прыгожа аздабляць свае вырабы, каб іх можна было даражэй прадаць. У жыхаркі вёскі Камарова Фронскай Тарэсы дагэтуль ёсць размаляваны ложак, да аздаблення якога, магчыма, прыклаў сваю руку Ромэр...

Да ведама скептыкаў, якія гавораць, што Ромэры дачынення да Беларусі амаль не мелі і нічога не стварылі для яе, сцвярджаю — мелі і стварылі шмат малюнкаў, гравюраў, медальёнаў, якія датычаць Беларусі (з іх звыш 50 работ прысвечана нарачанскаму краю). Гаспадар Каралінова Альфрэд Ізыдор Ромэр як мастак-дэкаратар распісваў камайскі і пінскі касцёлы, пакінуўшы нашчадкам на памяць карціну-абраз «Збаўца з хлопчыкам», а пінскаму касцёлу — абраз «Панна ў промні».

Уладзімір Крукоўскі

# ШУКАЙЦЕ І ЗНОЙДЗЕЦЕ…


Пётра Сергіевіч. 1970-я гг. Фота Алеся Траяноўскага.

«Нас яшчэ пашукаюць» — гэтыя словы належаць славутаму мастаку, краязнаўцу і этнографу, пісьменніку Язэпу Нарцысавічу Драздовічу. Дзіву даешся: усё жыццё ў нястомнай працы, але жыў у нястачы, апошнія гады наогул у галечы і такі аптымізм, такая вера ў прадвызначанасць, у вялікую ролю, у патрэбнасць і неабходнасць мастака і мастацтва ў свеце.

Быў 1938 год, Вільня, рэдакцыя часопіса «Калосьсе». Язэп Драздовіч гутарыў з Янкам Шутовічам, тагачасным рэдактарам часопіса. Пра што ішла размова, можна толькі здагадвацца, але, хутчэй за ўсё, пра лёс беларускага мастацтва, беларускай культуры ў міжваеннай Польшчы. Гаворачы «нас», Драздовіч меў на ўвазе перш за ўсё ўласную творчасць, але не выключана, што і калегаў па мастацкаму цэху: Чурылу і Сеўрука, Горыда і Крачкоўскага, Южыка і, вядома, Пётру Сергіевіча. А словы аказаліся прарочыя.

Прыйшоў час і... шукаюць. Шукаюць і знаходзяць калекцыянеры, даследчыкі, проста аматары заходнебеларускага мастацтва, чаго, на жаль, нельга сказаць пра нашы музеі, бо ў іх, як заўсёды, няма грошай.

Аб сакральнай творчасці П. Сергіевіча «Наша вера» пісала 17 гадоў таму ( 2, 1996 г.). Тады ілюстрацыйным матэрыялам аўтару публікацыі паслужылі старыя, выцвілыя, пашкоджаныя часам і дрэнным захаваннем чорна-белыя фотаздымкі, зробленыя з натуры ў інтэр'ерах касцёлаў і цэркваў, якія ў далёкія 1930-я гады распісваў мастак. Сёння ж мы маем магчымасць азнаёміцца з каляровымі эскізамі роспісаў, выкананых (ці толькі праектаваных) Пётрам Сергіевічам у касцёлах Солаў, Смаргоні ды іншых мястэчкаў Беларусі.

Перш-наперш гэта чатыры кампазіцыі, змешчаныя на 3-й старонцы вокладкі. Метафарычны вобраз, увасоблены ў гэтых эскізах, можна назваць «Жыццё чалавечае». Яны называюцца «Раніца», «Дзень», «Вечар» і «Ноч». І змест і форма бясспрэчна сведчаць аб іх прызначэнні для касцёла, бо кансерватыўная РПЦ такога «вальнадумства» ў сваіх храмах не дапускае. Форма падказвае нам месца іх размяшчэння ў інтэр'еры святыні. Гэта ветразі, якія размяшчаюцца ў падпружных арках або ў цэнтральным барабане храма.

Ніжэй змешчаны праект роспісу для касцёла ў Солах. На адвароце малюнка знаёмым кругляв ым почыркам П. Сергіевіча пазначана: «Солы. 1934 г. П.С. Эскіз да паліхроміі ў Солах. Ашмянскі павет». У адрозненне ад М.Сеўрука, які вельмі рэдка падпісваў уласныя творы, мастак нават невялічкія «чарнавыя» малюнкі датаваў і пазначаў сваёй манаграмай. У 1920-я гг. гэта было «PS», а ўжо ў 30-я канчаткова замацоўваецца «П.С.». І беларуская мова Сергіевіча — своеасаблівы рэгіянальны дыялект віленскага краю і віленскага асяроддзя мастака.

Найбольш цікавыя, тэматыч-

**Уладзімір Крукоўскі** — мастак-плакатыст. Нарадзіўся 6 сакавіка 1937 г. у г. Асіповічы Магілёўскай вобласці. З 1975 г. — сябра Беларускага саюзу мастакоў. Сябра Беларускай асацыяцыі журналістаў. Працаваў мастацкім рэдактарам часопісаў «Маладосць», «Мастацтва Беларусі», «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі», «Спадчына» (1978–1998 гг.). Удзельнік шматлікіх усесаюзных, рэспубліканскіх і замежных, персанальных і тэматычных выставаў плакату. Творы захоўваюцца ў музеях Беларусі, Польшчы, Літвы і Расіі. Асноўная тэматыка плакатаў — гісторыя, культура, экалогія, антываенныя і юбілейныя тэмы, афішы. Узнагароджаны медалём «За заслугі ў выяўленчым мастацтве». Жыве ў Мінску.

на насычаныя эскізы змешчаны на 4-й ст. вокладкі. На адвароце аднаго з іх — надпіс: «Эскіз да паліхроміі касцёла ў Смаргоні. 1936 г. П. Сергіевіч». На астатніх — «Смаргоні. 1936. Копула». Гэта праект роспісу купала, які быў тэматычна падзелены на чатыры сектары.

1-ы сектар. Старазапаветная тэма. Злева направа: Ной з каўчэгам запавету, Абрагам з Ісакам, плачучы Ёў (?), Майсей са скрыжалямі і братам, узброены Езус Навін, Рут і Наамі, Давід (з арфай) і Саламон.

2-і сектар. Новазапаветная тэматыка. Унізе — Апосталы, сярод якіх Евангелісты. У цэнтры кампазіцыі — алтар і манстранцыя. Справа — Хрыстус, які прапаведуе. Наверсе — Хрыстус з Багародзіцай, побач з імі — арханёл Міхал з мечам і вагамі.

3-і сектар. Трыумф хрысціянскай Літвы. Злева направа: алегорыя грамадства (ваяр, філосаф і манах), Багародзіца з трыма віленскімі пакутнікамі. У цэнтры — першы кароль Ерузалемскага каралеўства Готфрыд Бульёнскі, св. Кацярына і св. Алена. Справа — св.Тэрэза, св. Станіслаў і Ягайла на фоне віленскай катэдры.

Эскіз чацвёртага сектара, як і тэма, на ім увасобленая, пакуль што нам невядомыя.

Шукайма ж — і абавязкова знойдзем!

*P.S. Шчыра дзякую мастацтвазнаўцу Валеру Буйвалу за дапамогу ў расшыфроўцы сюжэтаў роспісу.*

Яніна Мілаш



# ТРАДЫЦЫІ ЎШАНАВАННЯ КРЫЖА БЕЛАРУСАМІ Ў КАНЦЫ XIX СТ.

Крыж суправаджае хрысціяніна ўсё жыццё: ад нараджэння і да смерці ён носіць на сабе гэты знак веры. Крыж вісіць на сцяне ў нашым жытле, крыж мы бачым у святыні, пры дарозе, на могілках. Кожны дзень у хрысціяніна распачынаецца знакам крыжа, кожная важная справа суправаджаецца знакам крыжа, у небяспецы і радасці хрысціянін таксама ахінае сябе гэтым святым знакам. Крыж — неад'емная частка нашай веры. Праз стагоддзі ён нагадвае нам пра сэнс ахвяры Хрыста і збаўлення, якое дадзена нам менавіта праз крыж.

У традыцыйным беларускім асяроддзі XIX ст. былі шырока распаўсюджаны шматлікія хрысціянскія культавыя прадметы, або «святыя рэчы», як называлі іх простыя людзі. Аналізуючы этнаграфічны матэрыял другой паловы XIX ст., сабраны вялікай колькасцю этнографаў, мы пераконваемся, што ў хаце кожнай сялянскай сям'і меліся абразы, крыжы, святая вада, грамнічная свечка, асвечаная вярба і зёлкі і г.д. (6, с. 1–25). Але асаблівым чынам найперш жыла традыцыя ўшанавання крыжа, што ўспрымаўся нашымі продкамі як сімвал веры бацькоў, як абярэг ад злых сілаў, як сімвал Хрыста, знак смерці і ўваскрасення, знак мучаніцтва.

У хаце хрысціяніна крыж,

**Яніна Мілаш** — гісторык, аспірантка Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаруры НАН Беларусі. Нарадзілася ў 1987 годзе ў г. Пінску. У 2010 г. скончыла гістфак БДУ. Тэма дысертацыі: «Фарміраванне беларускіх хрысціянскіх традыцый (к. XIX — п. XXI ст.). Этналагічнае даследаванне».

часцей за ўсё, быў металічны, драўляны або зроблены з косці. Калі сям'я жыла вельмі бедна, то ў хаце была проста выразана выява крыжа на сцяне (5, с. 54). Абавязковым было ад нараджэння да смерці насіць маленькі крыжык на грудзях: «*Крыж свяцей за ўсё, сільней усякае сілы і за ўсё даражэй. Маці, як пачэпіць дзіцятку на шыйцы або пакладзе ў люльку, то яно з ім і зраднілася на ўвесь свой век. Жывучы хрышчоным, чалавек ніколі з ім не разлучаецца, з ім разам сыходзіць у магілу і адтуль яшчэ журыцца за свайго друга. Крыжа не трэба і свяціць, бо яго Хрыстос пасвяціў сваёю кроўю*» (9, с. 165). Н. Анімелле ў сваёй этнаграфічнай працы «Быт беларускіх сялян» адзначае, што жанчыны каталічкі на Віцебшчыне абавязкова насілі на шыі «*каронкі*» (ружанец. — Я. М.), шкаплер і крыжык (2, с. 136–137).

Некалькі крыжоў (так званыя абракальныя крыжы) абавязкова стаяла ў кожнай вёсцы. «*Калі ў вёсцы толькі адна вуліца, ён стаіць перад вёскай, а калісь і па абодвух баках сяла. А часам і далей ад яго, на раздарожжах і скрыжаваннях. У вёсцы — пры пачатках новых вуліц*» (9, с. 165). У некаторых мясцовасцях Палесся крыж стаяў каля кожнай хаты: «*Не будь его, крестьяне соседи скажут: неведомо, кто там живет, христиане или же жиды и татары*» (3, с. 878). Такія крыжы заўсёды ставіліся ўсёй парафіяй, усёю грамадою ў асабліва ўрачыстай атмасферы. Амаль заўсёды яны былі драўляныя, з дубу або сасны, высокія, часцей — чатырохканцовыя, часам — шасціканцовыя. Вельмі часта да крыжа прымацоўваліся невялікія абразы, часцей — Збавіцеля, Маці Божай або святога, які найбольш шанаваўся насельніцтвам пэўнай мясцовасці. На ўніяцкіх і каталіцкіх крыжах змяшчаліся выразаныя з дрэва фігуры укрыжаванага Хрыста або прымацоўваліся невялікія драўляныя каплічкі. Такія творы народных майстроў можна было сустрэць па ўсёй Беларусі (7, с. 154, 163–164). Каля крыжоў збіраліся на малітву, прыпыняліся працэсіі, ставілі труну нябожчыка, якога неслі на могілкі. Павага да крыжа была настолькі моцнай, што не зняць шапкі перад крыжам і не перахрысціцца лічылася вялікім грахом: «*Крыжа пераносіць нельга, а зрубаць — то вялікі грэх. Усе, хто ехаў або ішоў, як вядзецца між хрышчонымі людзьмі, шапку здымаў і хрысціўся*» (9, с. 166).

Яшчэ не так даўно большасць сялянскага насельніцтва нашага краю (па дадзеных даследчыкаў у XVIII ст. — каля 70 %) было ўніяцкім. І яшчэ доўгі час пасля афіцыйнага далучэння ўніятаў да Рускай Праваслаўнай Царквы вернікамі захоўваліся традыцыі бацькоў і прадзедаў. Датычыцца гэта і традыцыі ўшанавання крыжа. Праваслаўнае духавенства і чыноўніцтва, якое прыбыло сюды на працу з цэнтральных раёнаў Расійскай імперыі, адзначала, што адной з асаблівасцяў беларускіх земляў з'яўляецца наяўнасць вялікай колькасці крыжоў і капліцаў (3, с. 877–878). Напачатку нават былі намеры выкараніць гэтую традыцыю як «не истинно русскую», і некаторыя рыма-каталіцкія і ўніяцкія крыжы напаткаў злы лёс, але ўсё ж Сінод вырашыў гэтую справу станоўча і крыжы пакінулі ў спакоі. Але новыя крыжы павінны былі ўжо быць (пажадана) васьміканцовымі або шасціканцовымі і іх можна было ўсталяваць з дазволу ўладаў па спецыяльных правілах.

Асаблівасцю праваслаўных крыжоў было тое, што яны не мелі фігураў і каплічак. Сам крыж успрымаўся як вобраз укрыжаванага Хрыста, таму ўпрыгожваўся толькі павязкай-фартушком, размешчанай на сцёгнах уяўнага Хрыста. Вельмі часта такія крыжы ўпрыгожваліся вялікай колькасцю апатрапейных рушнікоў (7, с. 163–164). Ч. Пяткевіч параўноўваў такое ўпрыгожванне з вотамі, якія прывешваліся да цудатворных абразоў (9, 165).

Крыжы можна было ўбачыць не толькі ў гарадах, мястэчках і вёсках, але і каля азёраў, рэк, перад уваходам у вялікія лясы, а часам і ў самім лесе ці ў полі. Крыжы таксама ставілі каля крынічак або прошчаў — месцаў, якія лічыліся народам святымі (1, с. 308–315). Прычыны ўстаноўкі крыжа былі самымі рознымі — як абазначэнне месца пражывання хрысціянскай грамады, як просьба вызбавіць вёску ад няшчасця (хваробы, неўраджаю), як падзяка за атрыманыя ласкі і міласці, як знак памяці аб нейкай значнай падзеі, як абазначэнне асаблівага «святога месца» і г. д. Так, жыхары в. Перасёлкі Гродзенскай губерні падчас эпідэміі халеры адправілі ў канцылярыю гродзенскага губернатара прашэнне дазволіць ім паставіць у роднай вёсцы крыжы: «*В прошлом 1892 году жители деревни Переселки, веруя в то, что кресты могут спасти их деревню от холеры, решили поставить при деревне своей два креста*».Урэшце дазвол быў атрыманы. Мясцовы князь Друцкі-Любецкі ахвяраваў на святую справу свой лес, і крыжы былі ўсталяваныя

на пачатку і ў канцы вёскі. Асвяціў крыжы дэкан Рачкоўскі (4, арк. 117).

Перад пачаткам паўстання 1863-1864 гадоў на Беларусі з'явіліся карычневыя крыжы з надпісам: «У рукі Твае, Божа, аддаю дух мой» як сімвал церпячай Айчыны. У Брэсцкім павеце былі крыжы з надпісамі, што ўтрымлівалі просьбу аб вызбаўленні ад рабства і ад ворагаў, а пасля падаўлення паўстання на месцах баёў паўстанцаў з рускімі войскамі паўсталі крыжы-помнікі аб тых, што загінулі ў барацьбе за волю (3, с. 889–891).

Традыцыя ўшанавання крыжа жыла ў нашым народзе стагоддзямі, яна была часткай яго духоўнага жыцця, светапогляду, знакам веры і надзеі, знакам святасці і абароны ад зла. Будучы неад'емнай часткай ладу жыцця беларусаў, такія хрысціянскія традыцыі прадвызначалі паводзіны чалавека, перадаваліся з пакалення ў пакаленне, станавіліся каштоўным набыткам для будучых нашчадкаў, а цяпер яны служаць нам прыкладам веры, гістарычнай памяці і з'яўляюцца часткай нашай духоўнай спадчыны, якую трэба памнажаць.

**З кнігі Ч. Пяткевіча «Культура духоўная Рэчыцкага Палесся», расказаў Кастуль з Вялікага Бору:**

*«Хрэста перастaвіць на другое месца няможна, а зрубаць, то вельмі вялікі грэх, і Бог такога анцыхрыста зараз пакарае.*

*Ось нашто далёка шукаць: калісь Насовічу ангел у сне сказаў, штоб ён паставіў хрэст на раздарожжы, дзе ад рэчыцкага шляху паваротка чэраз Будзішча ідзе ў Гудой. Ён етак і зрабіў; і цяпер яшчэ жыў Шаціло, ляснік, той, што яму памагаў у етай справі. Хрэст сабе стаяў, усе, хто толькі ехаў або ішоў, то, як вядзецца між хрышчонымі людзьмі, скідаў шапку і хрысціўся. Людзі прывыклі і радаваліся, бо бачна недалёка завод, а там жа смаляная нячыстая сіла арудуе, дак цяпер, баяўшыся святога хрэста, менш робіць пакасці. Аж ось настала воля, а далей мяцеж, дак трохі паждаўшы, наехала ўсялякага начальства і папоў да ўзялі дай увесь народ у Дубровіцы, у Ізбіне і ў Вялікім Бару перавярнулі на рускую веру, касцёл перахрысцілі на царкву, а пасля прычапіліся і да хрэста. Ета — кажуць — варожы хрэст, панскі, ён несправядлівы хрэст, дак трэба яго зрубаць.*

*— Хто ахвотнік зрубаць хрэст?! — крыкнуў станавы прыстаў, а ўсе маўчаць. Ён другі і трэці раз гаркнуў так сам, а ўсе бы начэ вады поўныя раты панабіралі. Тагды прыказаў старшыне прымусіць таго, на каго мае надзею, штоб рубаў, а старшына да мяне кажа:*

*— Ты смялей за ўсіх, дык бяры сякеру і рубай.*

*— Мяне тройчы хрысцілі: раз хрысціў ксёндз, другі раз выскуб [біскуп] міндзаваў [бежмаваў], а цяпер (грэх ці два) перахрысціў поп, дак я бязбожнікам не буду.*

*— І ніхто не будзе! — крыкнулі ўсе ў адзін голас.*

*І ўсе мы ашукаліся, ось выступіў дубровіцкі Каленік Лабада дай ідзе к хрэсту. Тут мы так усе і абамлелі са страху, бо прачулі, што от зараз зробіцца нешта нядобрае — і зрабілася.*

*Небавам хрэст упаў, а Каленік стаіць, раскарачыўшыся, і не варушыцца, да толькі мармыча, як немец. Яго паставіла колам. Бязбожніка забралі на сані дай завезлі ў Хвайнікі да лазарэту. Там ён памармытаў за дзве нядзелі, з рукамі і нагамі стылымі як кол, дай чорту аддаў свій паганы дух».*


ЛІТАРАТУРА

1. Аникиевич, К.Т. Сенненский уезд Могилевской губернии. Опыт описания в географическом, историческом, этнографическом, бытовом, промышленном и статистическом отношениях, с картой уезда, схемой двух озер и рисунками в тексте / К.Т. Аникиевич. — Могилёв Губернский: Губернская типография, 1907. — 148 с.
2. Анимелле, Н. Быт белорусских крестьян /Н. Анимелле// Этнографический сборник, издаваемый Императорским Русским географическим обществом. Вып. 2. — Санкт-Петербург: в типографии Э. Праца, 1854. — С. 111–268.
3. Котович, И. Об обычае ставить кресты при дорогах, площадях, на полях и др. открытых местах северо-западнаго края России/И. Котович//Литовские епархиальные ведомости, 1870. — 21. — С. 877–891.
4. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна: Ф. 1. В. 9. С. 44. Циркуляры Министерства внутренних дел. 169 арк.
5. Несколько слов об употребляемых нашим народом иконах // Литовские епархиальные ведомости. — 1874. — 7. — С. 53–54.
6. Никифоровский, Н. Я. Освященные предметы и отношение к ним простонародья Витебской Белоруссии / Н.Я. Никифоровский. — Витебск: Типография М.Б. Неймана, (1903?). — 26 с.
7. Раманюк, М. Беларускія народныя крыжы = Belarusianfolkcrosses: Манаграфія / М. Раманюк. — Вільнюс: Наша Ніва: Д. Раманюк, 2000. — 221 с.
8. Романов, Е. Р. Белорусский сборник / Е.Р. Романов. — Вильно, 1912. — Вып. 8: Быт белоруса. — VIII, 600 с.
9. Pietkiewicz, Cz. Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego / Czeslaw Pietkiewicz. — Warszawa: Towarzystwo Naukowe Warszawskie, 1938. — 459s.

## CONTENTS

This issue begins with the extract from the encyclical of Pope Francis «*Lumen Fidei*» (The Light of Faith) (p. 2-8).

Polish theologian Jan Kloczowski OP in his article «*Where do you «put down roots»?*» discusses the biblical radicalism (p. 9-11).

We also continue to publish the translation of the work by Stephan Svyazhauski «*Saint Thomas, reread*», made by A. Zhlutka, Section IX «*God's Relations to the World*» (p. 12-14).

The article «*Between the Catholics and the Orthodox*» by historian A. Shpunt is dedicated to complicated person of Janusz Radziwill and his work (p. 15-19).

We finish publishing the article «*Angels in Search of You...*» by literary critic E. Liavonava where she interestingly considers the concept of an angel in the works of Austrian poet Rainer Maria Rilke (p. 20-25).

«*Joseph Dashchynski and his Litany to the Vostraya Brama (Gate of Dawn)*» is the title of article by S. Nemagay where she tells the readers about one of the greatest musical works of the talented composer (p. 26-31).

Art historian V. Buival in the column «Galereyka» tells the readers about the world-famous work of Italian painter Francesco Guardi «The Doge Is Going to the Church of Santa Maria della Salute» (p. 32-33).

Article «*From the Cohort of Revivalists: Advard Budzka*» by I. Samatoy is dedicated to the interesting person of humble Belarusian publisher (p. 34-35).

«*Belarusian Trail of the Carmelites in Krakow*» is the title of an interview of I. Lapato with archivist of the Carmelite order of the ancient rules Sh. Sulecki (p. 36-37).

Article by M. Scoble «*With a Bible in the Basket*» is dedicated to the memory of Belarusian poet Mikola Arochka. Here you will also find his poems (p. 38-41).

In column «Poetry» we offer to our readers poems by L. Galubovich and S. Sys (p. 42-45).

«*The Four Loves*» is the title of the work by English writer and theologian C. S. Lewis, we propose an excerpt from this work translated by Y. Shedzko (p. 46-50).

In column «Prose» we publish new works by D. Bichel and U. Siuchykau (p. 51-59).

Article «*Golden Honey of the Past*» by restorer and collector I. Surmacheuski is dedicated to the mastery of art photography (p. 60-63).

Mini sketch «*Gates of Faith, Eternity and Love*» by Y. Garbinski is dedicated to the church of St. John the Baptist in the town of Kamai. Local historian I. Draunitski in his article «*Artist of the House of Romer*» writes about this church and its place in the art (p. 64-67).

Artist poster U. Krukouski in the essay «*Seek and You Will Find...*» encourages researchers of art to more fruitful search and analysis of the inheritance of little-known artists (p. 68-69).

Graduate student Y. Milash in the article «*The Tradition of Honoring the Cross by the Belarusians at the End of the 19th Century*» writes about one of the most important Christian practices (p. 69-71).

## RESÜMEE

Diese Nummer der Zeitschrift beginnt mit dem Auszug aus der Enzyklika des Heiligen Vaters Franziskus *Lumen Fidei* (Das Licht des Glaubens) (S. 2-8).

Im Artikel „Wo man 'Wurzeln schlägt'?" reflektiert der polnische Theologe Jan Klatschouski OP über den biblischen Radikalismus (S. 9-11).

Fortgesetzt wird die Veröffentlichung des von A. Shlutka übersetzten Werkes „Heiliger Thomas, neu gelesen" von Stefan Swjashauski – Abschnitt IX „Gottes Verhältnis zur Welt" (S. 12-14).

Der komplizierten Gestalt und Tätigkeit von Janusz Radsiwill ist der Artikel „Zwischen den Katholiken und den Orthodoxen" des Geschichtswissenschaftlers A. Spunt gewidmet (S. 15-19).

Veröffentlicht ist das Ende des Artikels „Die Engel auf der Suche nach dir…" von der Literaturwissenschaftlerin J. Ljavonawa, wo das Konzept des Engels im Schaffen des österreichischen Poeten R.M. Rilke auf interessante Weise behandelt wird (S. 20-25).

„Jusaf Daschtschynki und seine Litanei an Vostraja Brama" heißt der Artikel von S. Nemagaj, in dem über eines der hervorragendsten Musikwerke des talentierten Komponisten berichtet wird (S. 26-31).

Der Kunstwissenschaftler W. Bujwal erzählt in der Rubrik „Kleine Galerie" über das bekannte Werk des italienischen Künstlers Francesco Guardi „Der Doge begibt sich in den Dom Santa Maria della Salute" (S. 32-33).

Der interessanten Gestalt des bescheidenen belarussischen Herausgebers, eines der Autoren der belarussischen Zeitung „Nasha Niva", ist der Artikel „Aus der Reihe der Erneuerer: Adward Budsjka" von I. Samatoy gewidmet (S. 34-35).

„Die belarussische Spur der Karmeliten in Krakau" heißt das Interview von I. Lapato mit S. Sulezki, dem Archivisten des Karmeliterordens der alten Observanz (S. 36-37).

Dem Andenken an den belarussischen Poeten Mikola Arotschka ist der Artikel „Mit der Bibel im Korb" von M. Skobla gewidmet. Hier sind auch die Gedichte des Poeten gedruckt (S. 38-41).

In der Rubrik „Poesie" werden den LeserInnen die Gedichte von L. Galubowitsch und S. Sys präsentiert (S. 42-45).

„Vier Arten der Liebe" heißt das Werk des englischen Schriftstellers und Theologen C.S. Lewis, dessen Fortsetzung in der Übersetzung von J. Schedsjko gedruckt wird (S. 46-50).

Die Rubrik „Prosa" enthält neue Werke von D. Bitschel und U. Siutschykau (S. 51-59).

Der Meisterschaft der Kunstfotografie ist der Artikel „Der goldgelbe Honig des Vergangenen" des Restaurators und Sammlers I. Surmatscheuski gewidmet (S. 60-63).

Die Miniskizze "Das Tor des Glaubens, der Ewigkeit und der Liebe" von J. Garbniski ist der katholischen Kirche des Heiligen Johannes des Täufers im Ort Kamai gewidmet. Über dieselbe katholische Kirche und ihre Verkörperung in der Kunst schreibt der Heimatkundler I. Draunizki im Artikel „Der Künstler aus der Dynastie der Romers" (S. 64-67).

Der Plakatmaler U. Krukouski ruft im Essay „Suchet und findet…" die Kunstforscher dazu auf, das Erbe der wenig erforschten Künstler intensiver zu suchen und zu analysieren (S. 68-69).

Die Aspirantin J. Milasch berichtet im Beitrag „Die belarussischen Traditionen der Verehrung des Kreuzes Ende des XIX. Jh." über einen der wichtigsten christlichen Bräuche (S. 69-71).

## PODSUMOWANIE

Bieżący numer czasopisma otwiera fragment encykliki Ojca Świętego Franciszka *Lumen fidei* (Światło wiary) (s. 2-8).

W artykule «Dokąd puszczasz korzenie?» polski teolog o. Jan Andrzej Kłoczowski OP rozmyśla na temat radykalizmu biblijnego (s. 9-11).

Na dalszych stronach zamieszczony jest kolejny, IX rozdział pracy Stefana Świeżawskiego «Święty Tomasz na nowo odczytany» w tłumaczeniu A. Złutki (s. 12-14).

Artykuł historyka A. Szpunta «Między katolikami a prawosławnymi» został poświęcony postaci i działalności Janusza Radziwiłła (s. 15-19).

Drukujemy zakończenie artykułu E. Lawonowej «Aniołowie w poszukiwaniu ciebie...», w którym z ciekawego punktu widzenia jest rozpatrywana koncepcja anioła w twórczości austriackiego poety R. M. Rilke (s. 20-25).

W artykule: «Józef Daszczyński i jego Ostrobramska litania», S. Niemagaj, omawia jeden z najbardziej znanych utworów muzycznych tego utalentowanego kompozytora (s. 26-31).

Znawca sztuki, Walery Bujwał, w rubryce «Galerejka», przedstawia znane powszechnie dzieło, Włocha Francesco Guardi «Wizyta doży w kościele Santa Maria della Salute» (s. 32-33).

Ciekawej postaci skromnego białoruskiego wydawcy poświęcony został artykuł I. Samat: «Z kohorty walczących o odrodzenie: Adward Budźka» (s. 34-35).

«Białoruski ślad karmelitów w Krakowie» — to tytuł wywiadu I. Łopato z archiwistą zakonu karmelitów dawnej obserwancji (trzewiczkowych) Sz. Suleckim (s. 36-37).

Pamięci białoruskiego poety Mikołaja Aroczki został poświęcony artykuł M. Skobły: «Z Biblią w koszyku». Zostały zamieszczone także wybrane wiersze poety (s. 38-41).

Rubryka «Poezja» zawiera wiersze L. Hałubowicza i S. Sysa (s. 42-45).

«Cztery miłości» — to tytuł utworu angielskiego pisarza C. S. Lewisa; ciąg dalszy tej lektury proponujemy czytelnikom w tłumaczeniu J. Szedźko (s. 46-50).

W rubryce «Proza» znajdują się nowe utwory D. Biczel i U. Siuczykawa (s. 51-59).

Sztuce fotografii został poświęcony artykuł restauratora i kolekcjonera I. Surmarczewskiego «Złocisty miód przeszłości» (s. 60-63).

Refleksja J. Garbińskiego pt. «Bramy wiary, wieczności i miłości» jest poświęcona kościołowi świętego Jana Chrzciciela w miejscowości Kamaje. O kościele tym i jego miejscu, jakie zajmuje w sztuce, pisze krajoznawca I. Draunicki w artykule «Artysta z dynastii Romerów» (s. 64-67).

W eseju «Szukajcie, a znajdziecie...» plakacista U. Krukowski nawołuje badaczy sztuki by bardziej owocnie szukać i analizować dorobek twórców ojczystych (s. 68-69).

Aspirantka J. Miłosz w artykule «Tradycje uszanowania krzyża przez Białorusinów w końcu XIX w.» pisze o jednym z ważnych zwyczajów chrześcijańskich (s. 69-71).

## SOMMARIO

Questo numero inizia con un tratto dell'enciclica del Santo Padre Francesco *Lumen Fidei* (p. 2-8).

Nell'articolo "Dove metti le radici?" il teologo polacco Jan Klačowski OP riflette sul radicalismo biblico (p. 9-11).

Continua la pubblicazione della traduzione dell'opera di Stefan Swiezawski "San Tommaso riletto" eseguita da Ales Žlutka. Si pubblica la parte IX "Il rapporto tra il Dio e il mondo" (p. 12-14).

Alla complessa personalità e all'attività di Janusz Radziwill è dedicato l'articolo dello storico A. Špunt "Tra i cattolici e gli ortodossi" (p. 15-19).

Si pubblica la parte successiva dell'articolo "Gli angeli in cerca di te...", scritto dal critico letterario Ĺ. Liavonava che analizza il concetto dell'angelo nell'opera del poeta austriaco R. M. Rilke (p. 20-25).

"Josaf Daščynski e la sua Litania alla Porta dell'Aurora" è il titolo dell'articolo di S. Nemagai che racconta di una delle più belle opere musicali scritte dal compositore dotato di talento (p. 26-31).

Il critico d'arte V. Bujval nella rubrica *Piccola galleria* racconta del quadro di Francesco Guardi che gode "Il doge alla Basilica della Salute" una fama mondiale (p. 32-33).

Alla persona del modesto editore bielorusso, che apparteneva alla redazione di "Naša niva" è dedicato l'articolo di I.Samatoi "Dalle file di *adradženzy*: Advard Budzka" (p. 34-35).

"Le orme bielorusse dei carmeliti a Cracovia" è il titolo dell'intervista di I.Lapato con l'archivista dell'ordine dei carmeliti di regole antiche Š. Sulezki (p. 36-37).

Alla memoria del poeta bielorusso Mikola Aročka è dedicato l'articolo di M. Skobla "Con la Bibbia nella cesta". Si pubblicano anche le poesie di M.Aročka (p. 38-41).

Nella rubrica *Poesia* ai lettori vengono proposti i versi di L.Galubovič e A. Sys (p. 42-45).

Un altro brano del libro dello scrittore e teologo inglese C. S. Lewis «Quattro Amori» viene offerto ai lettori nella traduzione di J. Šedzko (p. 46-50).

Nella rubrica *Narrativa* sono collocate le nuove opere di D. Bičel e U. Siučykau (p. 51-59).

All'arte di fotografia è dedicato l'articolo del restauratore e collezionista I. Surmačeuski "Il miele dorato del passato" (p. 60-63).

Il piccolo saggio di J. Garbinski "La porta della fede, dell'eternità e dell'amore" è dedicato alla Chiesa di San Giovanni Battista a Kamai. Della stessa chiesa e della sua rappresentazione nell'arte scrive lo storico di cose regionali I. Draunizki nell'articolo "Un pittore dalla dinastia di Romer" (p. 64-67).

Il pittore cartellonista U. Krukouski nel saggio "Cercate e ritroverete…" richiama gli studiosi dell'arte di cercare intensivamente e di analizzare l'eredità degli artisti poco studiati (p. 68-69).

La dottoranda J. Milaš nell'articolo "Tradizione bielorussa di venerare la croce alla fine del XIX secolo" scrive di uno dei più importanti riti cristiani (p. 69-71).

На 1-й ст. вокладкі — Касцёл у вёсцы Камаі. Мастак Алесь Шатэрнік.

Часопіс «**НАША ВЕРА**», № 3 (65)/2013.
Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 293-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/
Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.
Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.
Галоўны рэдактар — Крыстына Аляксееўна Лялько. Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.
Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за № 903.
Падпісаны да друку 17.06.2013 г. Фармат 60х84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад – 1 300 экз. Зак № 917.
Надрукавана ў друкарні ООО «Юстмаж»ЛП № 02330/0552734 ад 31.12.2009.
Вул. Каліноўскага, д 6, Г4/К, пакой 201. 220103 г. Мінск.

# *Шукайце і знойдзеце...*



«Раніца».



«Дзень».



«Вечар».



«Ноч».

Пётра Сергіевіч. Эскізы фрэсак да цыкла «Жыццё чалавечае».
1930-я гг., папера, акварэль.



Пётра Сергіевіч. Эскіз да паліхроміі касцёла ў Солах.
1934 г., папера, акварэль.

# *Шукайце і знойдзеце...*









Пётра Сергіевіч. Эскізы роспісу купала касцёла ў Смаргоні.
1936 г., папера, акварэль.